Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4654) 24 лютага 2012 г.

# 80!

**Дарагія сябры!**

Саюз пісьменнікаў Беларусі горача і сардэчна віншуе вас са знамянальнай падзеяй у жыцці нашай творчай арганізацыі — 80-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты “Літаратура і мастацтва”.

За гэты час найбагацейшы плён творчай працы беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, якія актыўна супрацоўнічалі і працягваюць творчыя сувязі з газетай, стаўся прыкметнай з’явай у культурным і духоўным жыцці грамадства. Шматгранная творчая дзейнасць ахоплівае дзесяцігоддзі жыцця.

На працягу сваёй гісторыі газета актыўна адлюстроўвае літаратурныя, культурныя, грамадска-палітычныя падзеі на Беларусі, а таксама рэгулярна змяшчае матэрыялы, у якіх даследуюцца праблемы тэатра, выяўленчага мастацтва, музыкі, кіно, архітэктуры, народнай творчасці.

У газеце “Літаратура і мастацтва” ўпершыню друкаваліся прыкметныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Андрэя Макаёнка, іншых класікаў беларускай літаратуры, а таксама паэзія, проза, публіцыстыка сучасных творцаў.

Саюз пісьменнікаў Беларусі жадае вам усім новых творчых набыткаў. Няхай акрыляе вас натхненне, а вашы задумы будуць плённымі!

**Мікалай Чаргінец,**
**старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі**

## Паважаныя сябры!
## Шчыра віншую вас з 80-годдзем выхаду ў свет першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва»

Увесь гэты час, ад самага першага выпуску, выданне цвёрда трымалася традыцый высокага мастацкага слова, адказнасці перад сваім чытачом. Газета заўсёды была захавальнікам роднай мовы і нацыянальнай культуры, духоўных каштоўнасцей і маральных ідэалаў народа. На старонках “ЛіМа” друкаваліся класікі беларускага пісьменства: Янка Купала, Якуб Колас, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч і многія іншыя.

Сённяшні “ЛіМ” аб’ядноўвае творчую інтэлігенцыю рэспублікі, спрыяе рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры і літаратуры, з’яўляецца адкрытай пляцоўкай для творчых дыскусій, аўтарытэтнай школай айчыннага прыгожага пісьменства.

Упэўнены, што і надалей творчы калектыў выдання будзе трымацца абранага курсу служэння праўдзе жыцця, захавае вернасць свайму прафесійнаму і грамадзянскаму абавязку.

Жадаю супрацоўнікам рэдакцыі, чытачам газеты “Літаратура і мастацтва” шчасця, здароўя і дабрабыту, новых ідэй, творчых здзяйсненняў, плёну ў працы на карысць роднай Беларусі.

**Алег Праляскоўскі,**
**міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь**




*Фота Кастуся Дробава*
*Калаж Віктара Калініна*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў дырэктара — мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь, народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга з 65-годдзем. “Мы высока цэнім Вашу цвёрдую грамадзянскую пазіцыю, патрыятызм і адданасць Беларусі”, — адзначана ў віншаванні. Прэзідэнт пажадаў маэстра новых творчых дасягненняў на радасць аматараў музыкі.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Ігара Бочкіна с 55-годдзем. “Упэўнены, што і ў далейшым Вы будзеце радаваць нас новымі творчымі работамі, робячы дастойны ўнёсак ва ўмацаванне культурных сувязей братніх народаў”, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю народнага артыста РСФСР Яўгена Ташкова, рэжысёра фільмаў “Прыходзьце заўтра”, “Маёр Віхор”, “Ад'ютант яго правасхадзіцельства”, накіраваў спачуванні родным і блізкім майстра экрана.

✔ У Мінску адбылася калегія Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь па выніках 2011 года, на якой узнімаўся шэраг злабадзённых для айчыннай прэсы пытанняў. Падчас калегіі была заслухана прапанова галоўнага рэдактара газеты “Звязда” Аляксандра Карлюкевіча аб'яднаць газету і рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову “Літаратура і Мастацтва”. У выніку можа быць арганізаваны выдавецкі дом “Звязда”. Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік адзначыў, што важна не адкладваць гэтае пытанне надоўга, а прааналізаваць выгоды ад аб'яднання на працягу паўгоддзя.

✔ Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд (заснавальнік — Саюз пісьменнікаў Беларусі) прадаставіў справаздачу за мінулы год па выкарыстанні маёмасці. Так, спонсарская дапамога склала 76 млн. рублёў, даходы ад прадпрымальніцтва — 62 млн. Заснавальнікам было перададзена маёмасці на суму 3 млн. рублёў. Расходы фонду за мінулы год склалі 52 мільёны.

✔ Белтэлерадыёкампанія плануе ў самым бліжэйшым часе запуск канала беларускай культуры “Беларусь-3”. Беларускамоўны канал будзе прадстаўляць лепшую дакументалістыку, гістарычныя кінастужкі, дасягненні сусветнага кінематографа, дубліраваныя на беларускую мову, ток-шоу культуралагічнага плана, духоўныя і дзіцячыя праграмы.

✔ У Літве ўжо ў трынаццаты раз праходзіць Вільнюскі міжнародны кніжны кірмаш, самы буйны ў краінах Балтыі. Тут традыцыйна прадстаўлена экспазіцыя беларускіх кніг. Падчас мерапрыемстваў кірмашу выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” сумесна з пасольствам Беларусі ў Літве правяло ў бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта прэзентацыю альбома “Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў. 1864 — 1867”.

✔ Афіцыйная эмблема святкавання 1150-годдзя Полацка — герб горада на берасцяным скрутку з указаннем даты першага ўзгадвання Полацка (862 год) — зацверджана і хутка з'явіцца на рэкламнай і сувенірнай прадукцыі. Рэспубліканскім аргкамітэтам зацверджана таксама і праграма ўрачыстасцей, якія распачнуцца вечарам 25 мая і працягнуцца да 5 чэрвеня — Дня памяці Еўфрасінні Полацкай.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

# Некалькі слоў пра лімаўскі юбілей

**Любая круглая дата — нагода для разважанняў і падвядзення вынікаў. Напярэдадні лімаўскага свята мы папрасілі кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі падзяліцца сваімі назіраннямі, асацыяцыямі, заўвагамі адносна нашай дзейнасці.**

Газеце 80 год — гэта нямала. Яна існуе і працягвае быць цікавай, а значыць, калектыў, які ўжо некалькі разоў мяняўся ў сілу звычайных і зразумелых абставін, калектыў, які беражліва перадаваў найлепшыя традыцыі ад старэйшых яго членаў прадстаўнікам новага пакалення, паспяхова спраўляецца са сваімі задачамі. У апошнія гады мы адзначаем, што інтарэсы Саюза пісьменнікаў і інтарэсы рэдакцыі “Літаратуры і мастацтва” ўсё больш супадаюць. Мы аднолькава жадаем працвітання беларускай літаратуры. Мы імкнёмся да высокага ўзроўню прапаганды літаратуры, каб чытачы ведалі больш новых імёнаў і лепш арыентаваліся ў тым, што адбываецца ў літаратурным асяроддзі. Сумесныя намаганні дазваляюць дасягнуць добрых вынікаў. І мы ўпэўнены, што ў далейшым газета стане яшчэ лепшай.

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ,**
**старшыня СПБ**

Газета творчай інтэлігенцыі нашай краіны — гэта выданне, якое павінна ўплываць на шырокі грамадскі асяродак па пытаннях развіцця нацыянальнай культуры, літаратуры, усіх відаў мастацтва. Адным словам, быць у эпіцэнтры жыцця. Мне здаецца, для “Літаратуры і мастацтва” вырашэнне гэтага клопату пад сілу. А пісьменнікі Міншчыны, паэты і празаікі, якія жывуць у Валожыне і Уздзе, Стоўбцах і Мар'інай Горцы, Барысаве і Маладзечне, у іншых гарадах і вёсках вобласці, — заўсёды з вамі, паважаныя лімаўцы, дарагія чытачы і аўтары “ЛіМа”. З юбілеем, старэйшая асветніцкая газета Беларусі!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ, галоўны рэдактар газеты “Звязда”**

Больш як 50 гадоў з'яўляюся чытачом “ЛіМа”. Лічу, кожны, хто прылічае сябе да кола творчай інтэлігенцыі, павінен выпісваць гэтае выданне, бо яно было створана менавіта для нас і стараецца асвятляць тыя праблемы, якія сапраўды турбуюць творцаў. Безумоўна, асобныя рубрыкі сёння было б нядрэнна падвергнуць перагляду, дадаць глыбіні. Варта часцей даваць прасторныя інтэрв'ю з творцамі, не саромецца папулярызаваць іх, знаёмячы чытача непасрэдна з лабараторыяй пісьменніка. Дзякуй Богу, у нас ёсць вартыя постаці ў літаратуры, толькі шырокай грамадскасці яны не заўжды добра прадстаўлены.

**Георгій МАРЧУК,**
**сакратар СПБ**

На працягу ўсіх васьмідзесяці гадоў “ЛіМ” з'яўляецца трыбунай пісьменнікаў нашай краіны і люстэркам для творчасці ўсіх прадстаўнікоў сферы мастацтва: літаратараў, мастакоў, музыкантаў, тэатральных дзеячаў. Мабільнасць газеты, насычанасць разнастайнымі матэрыяламі, імкненне закрануць усе тэмы, ад буйных, глабальных, стратэгічных да камерна-ціхіх — такая асаблівасць гэтага выдання. “ЛіМ” імкнецца быць адначасова паўсюль і з усімі, падтрымліваючы нялёгкую ва ўсе часы працу творцаў.

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА,**
**старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ**

З “ЛіМам” сябрую з 1971 года, калі паступіў на факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Да гэтай змястоўнай пісьменніцкай газеты мяне далучылі аднакурснікі, будучыя пісьменнікі і журналісты Павел Марціновіч, Віктар Супрунчук і Аляксандр Сапёраў, за што я ім вельмі ўдзячны. Праз “ЛіМ” даведваюся, якімі клопатамі жывуць іншыя аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, пераймаю карысны вопыт прапаганды беларускай літаратуры, працы з пачынаючымі аўтарамі. Ганаруся тым, што з'яўляюся аўтарам паважанага штотыднёвіка, уваходжу ў склад рэдакцыйнай калегіі газеты.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ**

Газета “Літаратура і мастацтва” — летапісец літаратурнага жыцця краіны, таму перад ёю стаяць важныя і цікавыя задачы: як мага шырэй і больш аб'ектыўна паказваць адметнасць літаратурнага працэсу, перадаваць багатую палітру культурнага жыцця, узнымаць надзённыя пытанні і праблемы, што ўзнікаюць перад творцамі. Прыемна, калі штотыднёвік акрыляе, падтрымлівае новыя зорачкі на небасхіле нашага прыгожага пісьменства. Выдатна, калі абуджае ўвагу і павагу да найкаштоўнага нацыянальнага багацця — роднай мовы. Кожнай пятнічнай раніцай спяшаюся адкрыць паштовую скрыню, каб узяць у рукі свежы нумар “ЛіМа”, разгарнуць яго і адразу паглыбіцца ў жывое, узнёслае, чароўнае, хвалюючае, пранікнёнае, шчырае Слова.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ**

“ЛіМ” — адзінае перыядычнае выданне, якое выпісваю бесперапынна з таго часу, калі аформіў першы свой паштовы квіток на гэту газету. А было тое ў 1987-м, адразу па вяртанні з войска. Менавіта тады, паступіўшы на журфак БДУ, пачаў прагна цікавіцца беларускай моваю. Гэтаму “лавінападобнаму” засвойванню роднай мовы, дый усяго беларускага, нацыянальнага, спрыяў перш-наперш штотыднёвік “Літаратура і мастацтва”. З таго часу па сённяшні дзень не прапусціў ніводнага нумара. Дарэчы, гэта што ж — у нашага сяброўства таксама юбілей атрымліваецца? Ну так — 25! Сярэбраны! Можна і павіншавацца.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

“ЛіМ” заўсёды быў люстэркам літаратурна-мастацкай рэчаіснасці, нацыянальнага адраджэння, літаратурных працэсаў і з'яў, веступном усяго новага і крэатыўнага, ахоўнікам беларускасці, узорам прафесійнасці. А колькі несправядліва забытых імёнаў слынных пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, дзеячаў культуры і мастацтва вярнулася з небыцця дзякуючы газеце! Пэўная ўвага надаецца тут з'явам, якія адбываюцца ў літаратуры і мастацтве рэгіёнаў. Звесткі з рэгіёнаў, на фоне асвятлення сталічных падзей, з'яўляюцца сапраўднымі залацінкамі для правінцыяльнага чытача — аматара літаратуры ці суаўтара любімага штотыднёвіка.

**Людміла КЕБІЧ,**
**старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ**

## Прэс-канферэнцыі

# Размаўляць па-беларуску — прэстыжна!

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

**Да святкавання Міжнароднага дня роднай мовы быў прымеркаваны “круглы стол”: “Папулярызацыя беларускай мовы: сучаснасць і перспектывы”, які прайшоў у Прэс-цэнтры Дома прэсы.**

Пачынаючы з 1999 года, калі Міжнародны дзень роднай мовы быў зацверджаны рашэннем 30-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, у Беларусі ладзяцца святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя папулярызацыі мовы і замацаванню яе пазіцый у краіне і свеце. Аб'ектыўна абставіны на працягу многіх стагоддзяў складаліся гэткім чынам, што і само захаванне мовы беларусаў ужо можа быць успрынята як дзіва. Тым больш ганарова для нас адрадзіць традыцыі выкарыстання яе ў побыце.

Намеснік міністра культуры Беларусі Тадэўш Стружэцкі ў сваім выступленні падчас “круглага стала”, у прыватнасці, заявіў, што для Міністэрства культуры, як і для большасці ўстаноў культуры краіны, моўнай праблемы не існуе. Уся сістэма дзейнасці ведамства накіравана на падтрымку і папулярызацыю беларускай мовы. Заканадаўчая і нарматыўная база ў сферы культуры распрацавана і прынята на беларускай мове, справаводства таксама вядзецца па-беларуску. “Хаця ў тых выпадках, калі да нас звяртаюцца на рускай мове, мы з улікам двухмоўя вядзём перапіску і перамовы па-руску”, — сказаў ён. Тадэўш Іванавіч прыгадаў, што 2012 год — юбілейны для класікаў нашай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. І Міністэрствам падрыхтавана нямала цікавых мерапрыемстваў, накіраваных, у тым ліку, і на падтрымку роднай мовы. Сумесна з Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь распрацоўваецца нацыянальная праграма чытання, асабліва актуальная ў Год кнігі.

“Абсалютная большасць суайчыннікаў валодае беларускай мовай, але не гатовыя выкарыстоўваць яе ў канкрэтнай сітуацыі, — заўважыў між іншым Тадэўш Стружэцкі. — Гэта наша агульная праблема”.

Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Лукашанец распавёў, што беларускімі вучонымі падрыхтаваны фундаментальныя працы, у якіх даецца сістэмнае, паслядоўнае апісанне беларускай мовы на ўсіх узроўнях, і працы, што забяспечваюць патрэбнасці сучаснай моўнай практыкі. А значыць, створана і база для навучальнай літаратуры ўсіх узроўняў адукацыі.

Намеснік упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Уладзімір Ламека паведаміў, што сёння вядзецца актыўная праца па прапагандзе беларускай мовы сумесна з нацыянальнымі абшчынамі і традыцыйнымі беларускімі канфесіямі. Добры прыклад — Рымска-каталіцкая Царква Беларусі, дзе набажэнствы вядуцца пераважна на беларускай мове. На ёй выходзяць і каталіцкія газеты і часопісы. Праваслаўнае духавенства таксама дбае пра нацыянальнае. У 1989 годзе была створана Біблейская камісія, якую ўзначальвае Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, з мэтай перакладу Свяшчэннага Пісання на беларускую мову. У межах Біблейскай камісіі вядзецца распрацоўка багаслоўскай тэрміналогіі на беларускай мове.

Кансультант упраўлення друкаваных СМІ і знешніх сувязей Міністэрства інфармацыі Беларусі Галіна Гусакова выклікала журналістаў на разважанні: чаму сёння тыражы адных беларускамоўных выданняў рэзка падаюць, а ў іншых захоўваецца і аўтарытэт, і чытацкая аўдыторыя?

Тэму беларускамоўнай кнігі ўзняла вядучы спецыяліст упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Беларусі Алена Шыцік, паведаміўшы, што хаця з 11 тысяч кніжных выданняў у 2011 годзе толькі 940 аказаліся беларускамоўнымі, беларуская кніга пэўнага кірунку мае попыт. Гэта, у першую чаргу, энцыклапедычныя і даведачныя выданні, падручнікі, кнігі краязнаўчага і гістарычнага кірунку і найлепшыя ўзоры класічнай і сучаснай мастацкай літаратуры.

З 3429 школ Беларусі 1722 — з беларускай мовай навучання. Праўда, гарадскі школьнік вучыцца пераважна па-руску і беларускую мову ведае слаба. А беларускамоўных дзіцячых садкоў у гарадах і наогул адзінкі. Аднак, паведаміла вядучы спецыяліст інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення Міністэрства адукацыі Беларусі Ірына Булаўкіна, бацькі ўласнымі намаганнямі могуць змяніць сітуацыю. Бо калі збяруцца хаця б невялікая група вучняў ці то дашкалят для навучання і выхавання на роднай мове, беларускамоўная група ці клас адназначна будуць адкрыты.

*Літабсягі*

# Формулы і загадкі

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, крытыка, эсэіста, перакладчыка і публіцыста Міхася Стральцова.**

**Алена ГАЛАЙ,**
**фота Кастуся Дробава**

Успаміналі пра сябра і настаўніка акцёр і педагог, заслужаны артыст Беларусі Фама Варанецкі, пісьменнік і літаратуразнаўца Пятро Васючэнка, паэт Леанід Дранько-Майсюк.

Роля асобы Міхася Стральцова ў беларускай літаратуры, здаецца, можа быць вызначана простай формулай і ў той жа час не можа быць вызначана ўвогуле. Формулу творчасці пісьменніка вынайшаў Пятро Васючэнка: "Гэта пісьменнік, які кожным сваім творам рабіў адкрыццё і пісаў для XXI стагоддзя". Першапраходзец постмадэрнізму (апавяданне "Смаленне вепрука"). Вынаходнік формулы жыцця селяніна ў горадзе ("Сена на асфальце"). Першаадкрывальнік загадкі Максіма Багдановіча ў аднайменным эсэ, над якой і сёння ламаюць галаву багдановічазнаўцы. "Я думаю, што ён пакінуў пасля сябе загадку Міхася Стральцова, якую мы таксама спрабуем разгадаць",— падсумаваў Пятро Васільевіч.

Фама Варанецкі працягнуў думку Пятра Васючэнкі і знайшоў сваё пацвярджэнне гэтай ідэі: "Загадка Стральцова існуе. І разгадка недзе там, на яго роднай зямельцы, таму што такую чалавечую непасрэднасць, такую непасрэднасць у творчасці, такую чысціню можна ўзяць толькі ад крыніцы". Фама Сільвестравіч, які шмат год выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, прыгадаў і фенаменальны поспех аповесці пісьменніка "Адзін лапаць, адзін чунь": "Кожны год на кожным курсе абавязкова знаходзіцца хтосьці, хто бярэцца за ўрывак з гэтага твора. Цікава, але нашыя чытальнікі выязджалі з гэтымі ўрыўкамі на



конкурсы і ў Маскву, і Санкт-Пецярбург і адусюль прывозілі прызы. Найперш, канечне, гэта прызы Стральцова, які аказваецца вельмі нечаканым для слухачоў".

Але здаецца, што, вынайшаўшы загадку творцы, прысутныя вырашылі, што з ёй трэба абысціся так, як некалі сам пісьменнік прапаноўваў зрабіць з загадкай Багдановіча: не пазбаўляць яе прыцягальнасці, разгадаўшы, а лепш здзівіцца гэтай загадцы і таямніцы. Таямніцы аднаго з першаадкрывальнікаў сучаснай беларускай літаратуры — Міхася Стральцова.

***На здымку: Фама Варанецкі разважае над загадкай Стральцова.***

*Артлінія*

# Аркестр як лёс

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота Віктара Кавалёва**

**Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі днямі адзначыў свае 25. Заслужанаму калектыву — чвэрць стагоддзя, а яго нязменны мастацкі кіраўнік Міхаіл Фінберг старэйшы за сваё "творчае дзіця" на сорак гадоў. Маэстра нарадзіўся 21 лютага, так што прымае віншаванні з двума юбілеямі. У юбілейную тэму лёгка ўлучаецца яшчэ адна знамянальная дата: аркестр быў створаны ў год, калі нашай газеце споўнілася 55. Як вядома, "ЛіМ" вітаў арганізацыйныя і творчыя намаганні маэстра, скіраваныя на з'яўленне ў Беларусі эстраднага аркестра са сваім рэпертуарным абліччам. З першых крокаў маладога калектыву мы былі побач.**



Летапіс аркестра і творчы жыццяпіс яго маэстра на старонках "ЛіМа" — гісторыя з працягам: усе гэтыя гады наша выданне праз рэпартажныя, аглядныя, аналітычныя публікацыі падтрымлівае рознабаковую дзейнасць унікальнай музычнай суполкі, якую слушна называюць "малой філармоніяй". Дзе ж яшчэ, як не ў лімаўскім асяроддзі творчай інтэлігенцыі, зразумеюць індывідуальнасць Міхаіла Фінберга — добраахвотнага "пустэльніка" ў віры спакус і выгод сучаснага мегаполіса, гэткага самотнага дзівака, якому аркестр, паводле слоў маэстра, урэшце замяніў і дом, і сямейнае цяпло, і радню? Вось чаму, калі мы пішам "Фінберг", дык маем на ўвазе яго вялікі калектыў.

Музыколаг Вольга Дадзіёмава, якая ажыццяўляе навуковае кіраўніцтва фестывальных праектаў аркестра ў невялікіх беларускіх гарадах, неаднойчы падкрэслівала яго беспрэцэдэнтную жанравую шматпланавасць. Яна ўпэўнена кажа: нідзе ў свеце не было і няма іншага такога калектыву, які "на роўных" і з аднолькавай паспяховасцю займаўся б папулярнай эстрадай, джазам, сімфанічнай і камернай музыкай! У гэтым калектыве нараджаюцца асветніцкія праекты, ствараюцца высокапрафесійныя аранжыроўкі, арыгінальныя аўтарскія кампазіцыі. Тут адраджаюць страчаныя творы, якія гучалі на беларускай зямлі ў XVI — XIX стст., успамінаюць забытую спадчыну айчынных класікаў савецкага часу. Аркестр праводзіць навуковыя канферэнцыі, выдае зборнікі прадстаўленых там дакладаў. За многа кіламетраў ад сталіцы ладзіць майстар-класы для юных талентаў; адукоўвае публіку і выхоўвае новае пакаленне слухачоў.

У гэтым калектыве пануе культ жывога гуку. А яшчэ тут шануюць беларускую мову: наша слова ўжываецца нават у справаводстве калектыву. Яно гучыць у каментарыях вядучай асветніцкіх канцэртных праграм, у інтэрв'ю маэстра і, відома, з фестывальнай сцэны ў Маладзечне. Дарэчы, музыканты ўжо рыхтуюцца да чарговага свята беларускай песні і паэзіі ў гэтым горадзе.

***На здымку: мастацкі кіраўнік заслужанага калектыву НАКА Рэспублікі Беларусь, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесар Міхаіл Фінберг і навуковы кіраўнік фестывальных праектаў, доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Дадзіёмава.***

*Повязі*

# Не больш як 1 €

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Яўгена Пясецкага**

**На сустрэчы "Кніга і Венесуэла" адбылася цырымонія перадачы кніг гэтай краіны ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Сярод выданняў — спецыяльна перакладзены да XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу фотаальбом "Венесуэла. Зачараванне поўдня".**

На адкрыцці імпрэзы дырэктар НББ Раман Матульскі падкрэсліў, што творчыя стасункі дзвюх краін распачаліся яшчэ да таго, як у Беларусі з'явілася Пасольства Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла. Цёплыя сяброўскія сустрэчы як быццам падрыхтавалі глебу для зацікаўленага дыялогу культур.

Венесуэльскі пісьменнік Луіс Брыта Гарсія, старшыня Цэнтра лацінаамерыканскіх даследаванняў імя Ромула Гальегаса Раберта Эрнандэс Мантоя, прадстаўнікі пасольства ды Цэнтральнага банка Венесуэлы распавялі наведвальнікам пра стан спраў у галіне кнігавыдання. Агульны погляд Венесуэлы на сферу найбольш ёмка выказаў Брыта Гарсія: "Кнігі фарміруе народ". Паводле яго, з моманту, калі пачынаецца друкаванне кніг, "калектыўная памяць, якая магла загінуць, належыць грамадству".

Венесуэла абвясціла сябе краінай, якая перамагла непісьменнасць. Яе насельніцтва набліжаецца да 30 мільёнаў, і цяпер атрымліваюць адукацыю каля 9 мільёнаў чалавек. Кнігі распаўсюджвае 51 грамадская бібліятэка. Штогод у Каракасе праходзіць міжнародная кніжная выстаўка. З боку дзяржавы кнігавыданне падтрымліваюць Міністэрства народнай улады па культуры і Міністэрства народнай улады па адукацыі. Актыўна займаецца гэтым і Цэнтрабанк Венесуэлы. Міністэрства культуры ў свой час прадаставіла права выдання "тых кніг, пра якія марылі". Дзякуючы гэтаму ў краіне акрамя вучэбнай літаратуры, выданняў па эканоміцы ды палітыцы з'явіліся кнігі па культуры, мастацкая літаратура. Таксама друкуецца шмат часопісаў, усе яны — бясплатныя, прыкладаюцца да штодзённых газет.

Кнігі, выданне якіх падтрымлівае дзяржава, каштуюць не больш як 1 еўра. Шмат іх распаўсюджваецца на кірмашах бясплатна. Для пашырэння асветы таксама бясплатна было раздадзена каля 900 тысяч ноўтбукаў



у вучэбных цэнтрах.

Прысутнасць Венесуэлы ў інфармацыйнай прасторы нашай краіны пашыраецца. Як вядома, адбыліся сустрэчы з творцамі Венесуэлы і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі (гл. стар.12).

***На здымку: пісьменнік з Венесуэлы Раберта Эрнандэс Мантоя.***

*З-пад пяра*

➤ У рабоце бібліятэкі СШ № 144 г. Мінска ў плане мерапрыемстваў, прысвечаных Году кнігі, важнае месца адведзена сустрэчам з беларускімі пісьменнікамі. У студзені госцем школьнікаў быў Зіновій Прыгодзіч. А ў лютым да іх завітаў Анатоль Зэкаў. Вучні і настаўнікі з задавальненнем слухалі аповед сп. Зэкава пра любоў да чытання, пра тых аўтараў, якія яму даспадобы і на якіх параіў звярнуць увагу падлеткам, а таксама пра ўласны шлях у літаратуру. У выкананні аўтара гучалі лірычныя вершы і літаратурныя пароды. А яшчэ Анатоль Зэкаў пазнаёміў прысутных з часопісам "Вясёлка", у якім цяпер працуе і які ў красавіку адзначыць сваё 55-годдзе.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

➤ У Інстытуце журналістыкі БДУ адзначылі Дзень роднай мовы. Зранку ўсіх, хто прыходзіў, студэнты сустракалі абдымкамі, спевамі пад гармонік і далонькамі-наклейкамі з надпісам "Калі ласка, размаўляй са мной па-беларуску!". Удзень прайшлі майстар-клас і дэбаты. Але ж галоўнай падзеяй стала вечарына. На сцэне спявалі выкладчыкі і студэнты. Атрымалі ўзнагароды ўдзельнікі алімпіяды і конкурсу дэматыватараў — малюнкаў у чорнай рамцы з пэўным подпісам-слоганам. Госці і студэнты танчылі кракавяк, елі смачныя дранікі са смятанай. Пасля мерапрыемства старонкі сацыяльных сетак запоўніліся словамі ўдзячнасці і захаплення ад свята. Амаль усе напісаны па-беларуску.

**Вераніка ПУСТАВІТ**

➤ Духоўна-асветніцкая кніжная выстаўка-кірмаш "Радасць слова" праходзіць у Гомелі. Яна арганізавана па дабраслаўленні Архіепіскапа Гомельскага і Жлобінскага Арыстарха. Іконы, кнігі, відэа- і аўдыяпрадукцыю прадставілі выдавецтвы Беларускай Праваслаўнай Царквы, а таксама прыходы храмаў і манастыроў Гомельскай епархіі. Падчас работы выстаўкі адбылася прэзентацыя навінак духоўнай літаратуры. Мерапрыемства накіравана на павышэнне ролі літаратуры і чытання ў сучасным грамадстве.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

➤ Утульная зала Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў Траецкім прадмесці Мінска з цяжкасцю ўмясціла ўсіх, хто жадаў трапіць на паэтычна-музычную вечарыну "Усё пачынаецца з любові", якая праходзіла ў межах праекта "Літаратурная гасцёўня". Сапраўды спавядальна гучалі беларускія і рускія песні ў выкананні цудоўнай спявачкі Наталіі Клімковіч, лаўрэата Усерасійскага конкурсу рамансаў "Голас асенні". Ёй акампаніраваў баяніст-віртуоз Андрэй Сівакоў. Нібыта яркія стужкі, звязвалі музычныя творы вершы ў пранікнёным выкананні заслужанага артыста Беларусі Эдуарда Гарачага.

**Таццяна ШЧЫТОВА**

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа глыбока смуткуе з прычыны смерці нявесткі народнага паэта Беларусі Якуба Коласа МІЦКЕВІЧ Наталлі Іванаўны. Жыццёвы шлях, мудрасць і багатыя педагагічныя здабыткі Наталлі Іванаўны назаўсёды застануцца ў сэрцах многіх яе вучняў, калег і супрацоўнікаў музея народнага песняра, які яе ведалі і паважалі.

РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне Міхасю Канстанцінавічу Міцкевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю ЖОНКІ.




# Дарагая рэдакцыя!

**Вялікі шлях пачынаецца з першага кроку. І для многіх майстроў беларускага слова публікацыя ў нашай газеце стала калі і не першым крокам, дык дакладна адной з тых прыступак, што вядуць да вяршынь прафесійнасці і прызнання. Пра свой дэбют у "Літаратуры і мастацтве" распавялі пісьменнікі Віктар Гардзей і Віктар Шніп, а таксама кінакрытык Людміла Саянкова.**

### Віктар Гардзей:

## 1981. Апавяданне «Гром над сціртай саломы»

Калісьці на пастоі ў майго сябра Шуры ў вёсцы Малыя Круговічы, што ў Ганцавіцкім раёне, жыў наш мясцовы кінамеханік. І вось акурат ён выпісваў сваю прафесійную, як лічылася тады, газету "Літаратура і мастацтва", пра якую хутка забыў. Я прыходзіў да сябра, чытаў газету ў яго ці наогул забіраў сабе. Скажу шчыра: "ЛіМ" у той час выдаваўся не такі прыгожы, як цяпер, але ён мне падабаўся, і гэта, мусіць, было не выпадковасцю, бо далейшы мой літаратурны лёс звязаны менавіта са штотыднёвікам "Літаратура і мастацтва".

Яшчэ ў далёкія юначыя гады тут я надрукаваў свае першыя вершы, нарысы, апавяданні. Усе лімаўскія публікацыі сёння нават немагчыма згадаць, але дэбют помніцца.

Мой першы верш "Хуткая дапамога" быў надрукаваны ў нумары "ЛіМа" за 4 лістапада 1966 года. Пазней былі і большыя, і меншыя паэтычныя публікацыі. Калі не кожны год, то цераз год. Сам я, жывучы ў палескай глыбінцы, асабліва не стараўся дакучаць газетам. Потым, задоўга да апавяданняў, у "Літаратуры і мастацтве" друкаваліся мае нарысы, галоўным чынам пра людзей працы і абнаўленне пасляваеннай вёскі.

А празаічны дэбют адбыўся 7 жніўня 1981 года, калі было апублікавана апавяданне пад назвай "Гром над сціртай саломы". Пазней, у плённыя для мяне 80-я гады, да чытача праз "ЛіМ" дайшлі апавяданні "Дзімка з Малога Сяла", "Жорны", "На водшыбе", "Вальс пад журлівымі таполямі" і інш.

"Гром над сціртай саломы" — у нечым трывіяльная, але рамантычная гісторыя пра тое, як двое маладых людзей сустрэліся пасля доўгай разлукі ў ваколіцы сваёй вёскі, і тут, каля сцірты саломы, іх заспела навальніца з грымотамі… Сюжэт я, можна сказаць, спісаў з натуры. Па-першае, усе пейзажы, абмаляваныя ў апавяданні, бачыў на ўласныя вочы: і тую вёску, і тыя сцірты саломы ў полі… Па-другое, гэтая гісторыя адбылася з маім сябрам і аднавяскоўцам Валодзем Майсюком. Калі ён мне яе распавядаў, то я ўжо ведаў, што гісторыю выкарыстаю, але сам не чакаў, што перадам яе так дакладна, амаль слова ў слова. Потым Валодзя прачытаў надрукаваны ў "Літаратуры і мастацтве" аповед і застаўся задаволены, як той чэхаўскі герой, які быў рады, што трапіў у фельетон. А дзяўчына дагэтуль жыве ў нашай вёсцы. Я пасля бачыў яе, але яна мне нічога не сказала. Ёсць і іншыя дзяўчаты, якіх я "пасяліў" у сваіх творах. Мінулі дзесяцігоддзі



— а адна дагэтуль не вітаецца: прачытала аповед, убачыла, што гісторыю я ўзяў з яе жыцця, і паглядае цяпер на мяне скоса.

Я надта не думаў і не выбіраў, куды даслаць апавяданне. Проста ўклаў рукапіс у канверт, заклеіў — і адправіў у рэдакцыю. Стасункі на той час былі толькі такія, "паштовыя". Дасылаеш — а там ужо глядзіш, надрукавалі ці не. Але ў мяне была нейкая ўпэўненасць, што гэтае апавяданне апублікуюць. Галоўным рэдактарам на той час быў Алесь Жук, аддзелам прозы загадваў Юрась Свірка. Пасля "Грому над сціртай саломы" ўзгадалі ў крытычным гадавым аглядзе. Пісалі, што гісторыя афарбаваная лёгкім гумарам, сюжэт нетрадыцыйны… Надалей я часцей друкаваўся ў часопісе "Полымя", нават цэлымі падборкамі: Іван Пташнікаў прыхільна ставіўся да маёй творчасці. І — быў пастаянным аўтарам "ЛіМа".

А з ганарарамі асобная гісторыя. Калі прыйшоў першы ганарар (яшчэ з "Чырвонай змены"), пошты ў маёй вёсцы не было. Трэба было ісці ў цэнтр калгаса. Я папрасіў суседа, маладога хлопца, атрымаць грошы, бо сам не меў часу. Пайшоў ён з маім квітком, а пасля кажа: "Ведаеш, не атрымаў я твой ганарар. Маці ўзяла кашулю і разам з ёй квіток памыла…" Было гэта рублі тры — пляшка гарэлкі. А за апавяданне "Гром над сціртай саломы" я атрымаў ужо рублёў трыццаць, калі не болей.

Сёння мой чытацкі "лімаўскі" стаж дасягае больш як 50 гадоў, з улікам тых нумароў, якія я яшчэ падлеткам спакойна "рэквізоўваў" у нашага сельскага кінамеханіка. Паўстагоддзя.

Чым я дужа ганаруся.

### Людміла Саянкова:

## 1977. Кінарэцэнзія «Побач з камісарам»

Мой дэбют у "Літаратуры і мастацтве" адбыўся з падачы прафесара Ефрасінні Леанідаўны Бондаравай. Яна адправіла мяне, студэнтку журфака БДУ, на кінастудыю, на паказ фільма. Вы ўяўляеце сабе, што значыць дзяўчынцы пайсці на кінастудыю, на якой ніколі не была? Яна тады нагадвала мурашнік: усё кіпела, гудзела, людзей — процьма… Але залу я адшукала. Там паказвалі фільм "Побач з камісарам" рэжысёра Аляксандра Чакмянёва. Гэта быў яго дэбют у ігравым кіно. Сюжэт быў пабудаваны на супрацьстаянні чырвоных і белых, і размова ішла пра сям'ю, дзе адзін брат выступаў на баку рэвалюцыянераў, а другі — на баку контры. І я дагэтуль памятаю фінал фільма: блакітнае неба, на фоне якога развіваецца пунсовы сцяг.

У зале знаходзіліся рэдактары кінастудыі, аўтары. Як толькі скончыўся прагляд і запалілася святло, адзін з іх кажа: "А вось сядзяць маладыя людзі. Яны будуць пісаць рэцэнзію. Што вы думаеце наконт фільма?" Калі вось так, у лоб, задаюць пытанне, вельмі складана нешта змястоўнае адказаць. І ты адчуваеш сваю нямогласць і слабасць, неспрактыкаванасць і нявопытнасць, і ўвогуле ведаў у цябе мала, і гаварыць ты не можаш, і з чаго пачаць — не ведаеш… Але нешта я ўсё ж сказала. Зразумела, атрымалася вельмі нескладна, наіўна і смешна, але людзі былі дарослыя і іронію сваю не паказалі.

Рэцэнзію я пасля так і назвала — "Побач з камісарам". Нічога больш разумнага прыдумаць не магла…

Пасля таго, як матэрыял апублікавалі, мы пасябравалі з рэжысёрам фільма.

Пачынаючы з той публікацыі я стала пісаць больш упэўнена. Не скажу, што ўсе крокі былі ўдалыя. Але ўсё адно — гэта быў пачатак, які ніколі не забываецца.

У "Літаратуры і мастацтве" працаваў цудоўны тэатральны крытык Барыс Іванавіч Бур'ян. Ён прымаў усе мае матэрыялы, хваліў: "Цудоўна, Люда, якая ты малайчынка!.." Потым — публікацыя, і я амаль нічога свайго ў ёй не знаходзіла, бо Барыс Іванавіч перапісваў мае рэцэнзіі. Вось такі ў яго быў падыход.

Аднойчы я атрымала ад яго заданне напісаць пра дакументальнае кіно. Трэба было звярнуцца да пісьменнікаў, якія працавалі над сцэнарыямі



дакументальных фільмаў. Шмат такіх сцэнарыяў было на рахунку Анатоля Вялюгіна. Каб "здабыць" яго, я паехала ў Каралішчавічы, дзе знаходзіўся Дом творчасці. А была на высокіх абцасах, ісці даводзілася нейкімі прасялкавымі дарогамі, і абцасы ўвесь час увязвалі ў зямлі…

Памятаю вельмі добразычлівыя адносіны Вялюгіна да мяне, хаця была зусім маладая і сарамлівая. Мы доўга размаўлялі пра яго ўдзел у стварэнні дакументальных фільмаў. Шмат з кім я пасля рабіла інтэрв'ю, але менавіта гісторыя ў Каралішчавічах пакінула самыя цёплыя і прыемныя ўспаміны.

Быў яшчэ адзін вельмі значны момант у маім жыцці. Па заданні "ЛіМа" я трапіла на пробы да фільма "Дзікае паляванне караля Стаха". Там пазнаёмілася з рэжысёрам Валерыем Рубінчыкам і аператарам Таццянай Логінавай (пра іх я пасля напісала невялікую замалёўку). Калі прыйшла на здымачную пляцоўку, Валерый Рубінчык спрабаваў на ролю Беларэцкага Уладзіміра Гасцюхіна. Па-мойму, Гасцюхіну вельмі хацелася атрымаць ролю, і ён увесь час паўтараў адзін і той жа маналог. Як гэта было доўга, ярасна, пакутліва!.. Памятаю маладога Рубінчыка, які літаральна марыў пра гэтую карціну, гаварыў пра яе бясконца… Памятаю маладую Таццяну Логінаву, якая была яго вачыма, бо лепшыя фільмы Рубінчыка здымала яна.

Шмат іншых знаёмстваў завязвалася менавіта дзякуючы "ЛіМу". У калідорах рэдакцыі можна было сустрэць самых розных людзей. І гэта не дзіўна: асяродак там быў жывы, творчы і прыемны.

### Віктар Шніп:

## 1978. Верш «На адкрыцці абеліска»

Так здарылася, што калі я вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, жыў на вуліцы Змітрака Бядулі. Яна ж знаходзіцца зусім блізка ад Захарава, 19, дзе была і ёсць рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва".

На той час я ўжо друкаваўся ў "Чырвонай змене", наведваўся ў "Маладосць", а ў літаб'яднанні "Крыніца" мне параілі схадзіць у рэдакцыю "Літаратуры і мастацтва". І я, сямнаццацігадовы хлапец, вырашыў знайсці гэтую рэдакцыю. У мяне звычайна часу не было: гэта ж не лета, калі дзень доўгі, а восень — тут і заняткі, і цямнее рана… Я ж вясковы хлапец, які прывык не бадзяцца па незнаёмым горадзе, тым больш што маці гаварыла — нікуды не хадзі, сядзі дома. Баялася. Я так сама думаў: раз мама сказала — трэба сядзець у інтэрнаце.

Але неяк вечарам выпадкова праходзіў міма і заўважыў шыльду: газета "Літаратура і мастацтва". Запомніў. Пасля падрыхтаваў вершы, спецыяльна на заняткі не пайшоў і выправіўся ў "ЛіМ". Хадзіў-хадзіў недзе паўдня, усё там абышоў — не знайшоў! Цяпер толькі дзіву даюся — як жа можна было не знайсці?..

Калі ж адшукаў, адразу скіраваўся ў аддзел паэзіі. Там працаваў Юрась Свірка. Вершы я прынёс, напісаныя ад рукі. Пакінуў. Сказалі зайсці праз месяц.

Я зайшоў праз месяц — Свірка кажа: "Не чытаў. Зайдзі яшчэ праз два". Заходжу праз два — не чытаў. Праз тры месяцы — не чытана нічога. Цякучка (як і цяпер). Тады хоць і людзей было многа, але не паспявалі чытаць.

Неяк раз прыходжу, а мне кажуць — будзем друкаваць. У якім нумары? "А вось хутка будзе Ленінскаму камсамолу 60 гадоў…"

У тым нумары (27 кастрычніка 1978 года, № 43) надрукаваліся Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Мікола Мінчанка, Уладзімір Васько, Вольга Русілка, Тадэвуш Чарнавус, Леанід Пранчак, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Мазго, Леанід Якубовіч, Валерый Шкурын, Таццяна Дзмітрусёва і я. Верш называўся "На адкрыцці абеліска". Патрыятычны такі… Пад нумар падбіралі. Для мяне гэтая публікацыя была вельмі значная, бо я ведаў, што ў такім узросце на той час друкаваліся толькі 17-гадовы Анатоль Шушко і Алесь Разанаў, яшчэ



школьнік. Хоць на год і выходзіла 52 нумары газеты, пачатковец мог туды трапіць толькі ў сувязі з такімі вось датамі ці прадстаўляючы нейкае літаб'яднанне.

Наступная публікацыя ў "Літаратуры і мастацтве" адбылася толькі праз тры гады — 11 снежня 1981 года (№ 50). Да гэтага маё прозвішча ўпаміналася хіба што ў аглядах. Нумар быў прысвечаны нарадзе маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. На адным развароце змяшчаліся творы Алеся Жыгунова, Алега Мінкіна, Васіля Сахарчука, Валянціны Хамчук, Леаніда Галубовіча, Адама Глобуса, Міколы Шайбака і мае.

*Ходзячы дарогамі зямнымі,*
*Прыкмячаю, што ў краях далёкіх*
*Гэтак, як і ў нас, красуюць кветкі,*
*Жыта спее, зеляненюць дрэвы,*
*Аднаго там не хапае — маці.*

З белымі вершамі тады наогул складана было. У Разанава не хацелі нават кніжку друкаваць.

Памятаю, калі працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва" (а я там працаваў 10 гадоў), патрабаванні былі вельмі высокія. Нават да старэйшых ставіліся строга. Лепшыя творы друкаваліся на восьмай і дзявятай старонках. А дванаццатую адводзілі для твораў "З літаратурнай пошты". Але: тут друкавалі тых, каго трэба надрукаваць, бо стары, заслужаны, але на дзявятую старонку, так бы мовіць, на першую прыступку, яго паставіць было нельга. Пра гэта ведалі толькі ў рэдакцыі, ды калі чытач бачыў творы, ён і сам выдатна ўсё разумеў.

# 1982 год


Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!
Літаратура і мастацтва
ЛіМ — 50
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
НАША ГАЗЕТА

Вольга ПАСІЯК

**Сёлета “ЛіМ” адзначае 80-годдзе — падводзіць вынікі працы, успамінае прыемныя сустрэчы і найбольш значныя падзеі. Сярод іх і паўвекавы юбілей газеты. Тады, трыццаць гадоў таму, “Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Ц. Я. Кісялёў зачытаў Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні «Літаратуры і мастацтва» ордэнам Дружбы народаў і пад бурныя апладысменты <…> прымацаваў ордэн да сцяга газеты” (ЛіМ, 1982, 16 красавіка).**

50 гадоў — дата значная, як для чалавека, так і для газеты. Не будзе перабольшваннем сказаць, што за гэты адрэзак часу “ЛіМ” даў дарогу ў жыццё многім таленавітым пісьменнікам. І цяпер яны ахвотна дзеляцца ўспамінамі. *“Калі пагартаць старонкі нашай газеты за ўсе пяцьдзесят гадоў, дык яны нам раскажуць аб тым, як ад этапу да этапу, усё вышэй і вышэй узнімаліся ў сваім развіцці беларуская літаратура і мастацтва, якія праблемы і на якім узроўні вырашалі нашы пісьменнікі і мастакі”* (ЛіМ, 1982, 26 лютага). Так віншуе “ЛіМ” майстар беларускай драматургіі Кандрат Крапіва. Але нават у такі святочны дзень творчая інтэлігенцыя не цешыцца поспехамі, а пераасэнсоўвае створанае, перажытае, напісанае і, зразумела, падводзіць вынікі, як, напрыклад, Пімен Панчанка: *“У нашай газеты, як і ў кожнага чалавека ў наш час, было складанае, часам нялёгкае жыццё з яго ўзлётамі і спадамі, удачамі і няўдачамі…”* (ЛіМ, 1982, 26 лютага).

Газета раздзяліла сваё свята менавіта з творцамі-аднагодкамі, сярод якіх пісьменнікі Адам Мальдзіс і Іван Пташнікаў, крытыкі Уладзімір Анісковіч і Анатоль Сабалеўскі, паэты Давід Сімановіч і Святлана Яўсеева і многія-многія іншыя. На працягу года ім прысвячаліся самыя светлыя і праніклівыя словы. Падумаць толькі: усё жыццё гэтага пакалення аўтараў — гэта і жыццё газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі. Але асаблівую ўвагу выданне звярнула на двух сваіх былых аўтараў: Янку Купалу і Якуба Коласа. На старонках “ЛіМа” за 1982 год мы знаходзім урывак з п’есы Караткевіча “Калыска чатырох чараўніц”, прысвечанай Купалу. А Мікола Чарняўскі друкуе сваё “Шчасце паэта”:

*І душа заспявала прадвеснем,*
*Песня кожнаму ў сэрца запала.*
*Неўміручая гэтая песня,*
*Як і сам неўміручы*
*КУПАЛА!*

(ЛіМ, 1982, 2 ліпеня)

На старонках “ЛіМа” знайшлося і лірычнае назіранне Алеся Камароўскага за тым, як “Калосіцца жыта”:

*Раніца зноў*
*распагоджвала думкі,*
*Сонца над садам*
*выкочвала кола…*
*Жыта буяла, гайдала лятункі.*
*Мо ад яго і абралася — Колас?*

(ЛіМ, 1982, 29 кастрычніка)

Нічога не скажаш, 1982-і — багаты на круглыя даты. Менавіта ў гэты час савецкі народ святкуе 60-годдзе з дня заснавання СССР. Столькі ж гадоў спаўнялася і нашаму выдатнаму мастаку Міхаілу Савіцкаму, чалавечае крэда якога — *“Я цвёрда веру ў перамогу добрага пачатку на нашай планеце. Веру, таму што само жыццё пераканала мяне ў найвялікшай каштоўнасці чалавека, у высакароднасці яго душы і розуму”* (ЛіМ, 1982, 19 лютага).

У шэрагу разнапланавых падзей юбілейнага года, магчыма, пад уплывам пераасэнсавання і пераацэнкі творчасці, “ЛіМ” актыўна звяртаецца да крытыкі. Разглядаючы спецыфіку гэтага кірунку дзейнасці, прадстаўнікі розных сфер мастацтва за творчае крэда прынялі меркаванне: *“Горш за ўсё, калі крытыка не гаворыць — чытачам і аўтару — праўды”*. Пры гэтым акцэнт пераносіцца на больш аб’ектыўную шкалу ацэнкі: *“Наша крытыка часта аддае перавагу разгляду паасобнага твора перад праблемным аналізам агульных тэндэнцый калі не ўсёй літаратуры, дык паасобных жанравых форм. Абагульняючы, праблемны артыкул — рэч дэфіцытная”* (ЛіМ, 1982, 29 студзеня). Важнай становіцца не толькі савецкае, але і замежнае ўспрыманне дасягненняў культуры, насуперак трывалай “жалезнай заслоне”: *“Сёння пра беларускую літаратуру пішуць не толькі нашы сябры. Беларуская крытыка абкрадвае сябе, калі ўхіляецца ад палемікі з саветолагамі”* (ЛіМ, 1982, 29 студзеня). У дыскусію на старонках газеты ўступаюць і ўплывовыя літаратары, тыя, хто піша і каго ахвотна чытаюць, сярод іх і Васіль Вітка: *“Яшчэ ні разу, па сутнасці, за ўвесь час у нашым саюзе [Саюзе пісьменнікаў БССР — **В. П.**] не было грунтоўнай размовы ні аб становішчы крытыкі наогул, ні аб творчай рабоце асобных яе прадстаўнікоў”* (ЛіМ, 1982, 19 лютага). І вось палеміка дасягае такой кропкі развіцця, калі першынство аказваецца на баку дагэтуль не вядомай з’явы — “крытыкі крытыкі”, што *“пачынае ў нас перарастаць і засноўвацца ў нейкі аўтаномны жанр, які, можа быць, хутка нават заявіць свае правы і прэтэнзіі, каб у саюзе была арганізавана яшчэ і секцыя або камісія па крытыцы крытыкі”* (ЛіМ, 1982, 19 лютага).

Час расставіў усё на свае месцы. Сёння відавочна, што 50-годдзе “ЛіМа” супала з многімі значнымі падзеямі і датамі для айчыннай культуры. У той год першыя чытачы “глыталі” старонкі Быкаўскага “Знака бяды”, а першыя гледачы сачылі за кожным кадрам мележаўскіх “Людзей на балоце”. І газета стала фіксатарам усіх гэтых падзей, іх крытыкам і, па сутнасці, PR-менеджарам.

2012 год таксама абяцае багацце падзей, пра якія распавядзе “ЛіМ”.

# Газета — мая сваха

**Пётр МАКАРЭВІЧ,**
**чытач “ЛіМа” з 1959 года**

Газета “ЛіМ” адыграла выключную ролю ў маім жыцці. У канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя я праходзіў тэрміновую службу ў памежных войсках у Закаўказзі, паблізу Ахалцыхе і Баржомі. Амаль трохгадовая разлука з Беларуссю, невыносны сум па матчыным слове сярод скал і цяснін высакагор’я прымусілі мяне выпісаць “ЛіМ”. Ад шчымлівага хвалявання сціскалася горла, калі, нарэшце, атрымаў газету і смакаваў родныя словы, зачытваючы да дзірак яе старонкі.

У адным з нумароў маю ўвагу прыцягнуў фотаздымак членаў літаб’яднання пры Гродзенскім педінстытуце, сярод якіх былі прыгажуні Данута Бічэль і Аліна Мацыевіч — ленінская стыпендыятка. Я “выбраў” апошнюю і паслаў ёй ліст. На вялікае здзіўленне і радасць, неўзабаве атрымаў сардэчную паштоўку! Завязалася перапіска, але ненадоўга. Аказалася, Аліна была заручана з аднакурснікам. Аднак дзякуючы ёй я пазнаёміўся з яе малодшай сястрычкай Янінай, з якою крочым побач ужо паўстагоддзя.

Вось чаму я выказваю вялікую ўдзячнасць “ЛіМу” — як шчодрай, бескарыслівай свасе.

Адносіны з газетай доўжыліся, умацоўваліся, калі я стаў студэнтам Мінскага педінстытута. У рэдакцыі пазнаёміўся з Р. Барозкіным, Х. Лялько, Г. Каржанеўскай… Прыносіў і дасылаў у “ЛіМ” карэспандэнцыі. Пад рубрыкай “Дзве думкі” надрукавалі мой водгук на рускамоўны зборнік вершаў Фёдара Яфімава. Час ад часу і цяпер дасылаю заметкі пра літаратурнае жыццё Лідчыны.

Напрыканцы хацелася б пажадаць рэдакцыі распачаць дыскусію пра стан сучаснай беларускай паэзіі і перакладчыцкай дзейнасці. Таксама лічу, што варта вярнуць на старонкі газеты рубрыку “Дзве думкі”.

# Успамінаю з удзячнасцю

**Уладзімір МЕХАЎ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

Лістапад 1945-га. Мне сямнаццаць гадоў, я — першакурснік аддзялення журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Усе даваенныя карпусы ўніверсітэта ў руінах, у адзіным, што ацалеў, месцяцца адміністрацыя і фізмат. Заняткі — вечарамі ў школах. Паколькі ўдзень я свабодны, вырашаю ўладкавацца куды-небудзь на працу. Звярнуўся да сяброўкі майго загінуўшага на фронце бацькі, якая працавала ў апараце Саўнаркома рэспублікі. Добра ведаючы Аркадзя Куляшова, тады галоўнага рэдактара “ЛіМа”, яна піша яму запіску, ці не знойдзецца ў рэдакцыі якое месца для маладога чалавека: бібліятэкара, падчытчыка карэктуры, кур’ера? З гэтым лістом адважваюся прыйсці да Аркадзя Аляксандравіча дамоў, бо папярэджаны, што ў рэдакцыі ён бывае рэдка. З рэзалюцыяй на запісцы, што просьбу пажадана задаволіць, назаўтра заяўляюся ў рэдакцыю — уся яна ціснулася ў адзіным пакоі, у двухпавярховым будынку радыёкамітэта.

Не помню дакладна, што намеснік рэдактара Алесь Кучар сказаў мне, — здаецца, каб падышоў дні праз два. Затрымаў мяне загадчык аддзела інфармацыі Рыгор Смоляр. Папрасіў, каб я схадзіў у Ленінскую бібліятэку, пазнаёміўся з выстаўкай літаратуры, прысвечанай чарговай гадавіне забойства С. Кірава — тады гэтыя даты ў друку адзначаліся, — і напісаў пра яе. Схадзіў, напісаў. Атрымаў яшчэ адно нескладанае заданне. Выканаў. Затым яшчэ адно, яшчэ. І не толькі ад Смоляра.

Словам, калі праз пару тыдняў Кучар зглядзеў для мяне ў штаце вакансію, газетчыкі, у прыватнасці, Анатоль Вялюгін, выказаліся за тое, каб я быў залічаны ў рэдакцыю “пяром”, а не падчытчыкам ці кур’ерам. Такое рашэнне было прынята не таму, што я праявіў надзвычайныя журналісцкія здольнасці. Проста газеце патрэбны не толькі артыкулы-цагліны, вершы, апавяданні, а і драбяза — інфармацыйная хроніка, аператыўныя водгукі на грамадскія падзеі, даведзеныя да ладу лісты чытачоў. Работнікамі ж рэдакцыі былі паэты, празаікі, крытыкі — дробная газетная падзёншчына іх не вабіла. Вось і дамовіліся між сабой: няхай гэта поле засявае маладзён-студэнцік.

Карацей кажучы, 10 студзеня 1946 года я быў прыняты на пасаду літработніка. І як самы малады супрацоўнік часта выконваў абавязкі не толькі збіральніка інфармацыі, але і кур’ера. Да кагосьці хадзіў забраць напісаны артыкул, камусьці адносіў лісты з рэдакцыйнай просьбай. Памятаю, бываў у Якуба Коласа, Міхася Лынькова, Ларысы Александроўскай… З маленства рос прагным кнігаглытальнікам, нястомным кінагледачом і радыёслухачом. Вядомыя пісьменнікі, артысты, музыканты ўяўляліся мне насельнікамі Парнаса. А тут заяўляюцца яны ў рэдакцыю, і аказваецца — звычайныя людзі! Хто сціплы, хто не вельмі, хто дасціпны, хто крыўдлівы.

Як цяпер бачу, з марозу, цяжка аддыхваючыся, уваходзіць Янка Маўр. Божачкі, я ж з маленства ведаю ягоныя “Палескія рабінзоны”, “ТВТ”, “Чалавек ідзе”, “Амок”, “Слёзы Тубі”! Ускокваю, падсоўваю стул. Сядае, апускае на падлогу партфель. На партфелі металічная пласцінка. Чытаю манаграму і ледзь стрымліваюся ад смеху. Напісана: “Шматшаноўнаму Янку Маўру ў дзень 60-годдзя ад Івана Міхайлавіча Фёдарава”. Ну і ну! Янка Маўр — псеўданім Івана Міхайлавіча Фёдарава.

Піліп Пестрак пабываў у савецкай зоне акупацыі Германіі задоўга да стварэння ГДР. У падарожных нататках, апублікаваных, здаецца, у “Звяздзе”, зазначыў, што ў Веймары пастаяў каля помніка Гётэ. Задумлівы Гётэ сядзіць на пастаменце ў парыку. “ЛіМ” адгукаецца на гэты штрых эпіграмай А. Вялзарава — псеўданім Вялюгіна і Зарыцкага:

*Дзень добры, Гётэ.*
*Я — Пестрак.*
*Вы ў парыку,*
*А я пакуль што так.*

Лысы, з выгаленай да бляску галавой, Пестрак прыйшоў у рэдакцыю нібыта сярдзіты, але са смяшынкай у вачах:

— Пэцкалі вы, от хто!..

З тых першых паваенных гадоў помню, як у сялянскім кажушку зайшоў у “ЛіМ” яшчэ не мінчанін, а цераховіцкі вясковец Іван Шамякін, аўтар надрукаванай у “Полымі” аповесці “Помста”. Помню аўтарам першай невялічкай кнігі апавяданняў “У завіруху” ўніверсітэцкага аспіранта Івана Мележа. Помню найдасціпнага Янку Брыля — таксама аўтарам адзінага яшчэ зборніка апавяданняў.

Адпрацаваў я ў “ЛіМе” два з паловай гады. Універсітэт адбудоўваўся, заняткі пачаліся з раніцы, сумяшчаць вучобу са службай у рэдакцыі стала немагчыма. Праўда, у 1961 годзе па запрашэнні рэдактара газеты Нічыпара Пашкевіча зноў стаў лімаўцам. Прыйшоў у рэдакцыю ўжо дастаткова вопытным газетчыкам, аўтарам дзвюх кніжак прозы, членам Саюза пісьменнікаў. Так сталася, што затрымаўся на дванаццаць гадоў. Узначальваў аддзел публіцыстыкі, працаваў адказным сакратаром газеты. Шмат што згадваю з удзячнасцю, штосьці — з горыччу.

Толькі ўпэўнены: не выпала б мне колішняе лімаўскае пачаткоўства — мой журналісцкі і літаратарскі лёс не склаўся б так, як склаўся.

# Светлы воблік паэта

Соф'я МАРОЗАВА

**Мяккія вусы, даверлівы погляд, іскрынкі ў вачах. Ад самога аблічча Алеся Пісьмянкова веяла паэзіяй, таму многія яго выявы можна "чытаць" як своеасаблівую ілюстрацыю да творчасці. Не такая і вялікая спадчына — 10 паэтычных зборнікаў (адзін з іх — "Думаць вершы" — выдадзены пасмяротна), разам з фотаздымкамі, успамінамі тых, хто ведаў паэта асабіста, і прысвечанымі яму вершамі — утварае гарманічнае цэлае, авеянае адным сумна-ўзнёслым настроем.**

Алесь Пісьмянкоў — з пакалення творцаў, што не сароменіся слова "паэт". "Белагаловы паэт з вёскі Бялынкавічы" — найменне, поўнае пяшчоты і ўдзячнасці ад Тацяны Мушынскай.

Вёска Бялынкавічы мела вялікае значэнне для Алеся Пісьмянкова. Менавіта там ён нарадзіўся 55 гадоў таму — і там жа праз некаторы час нарадзілася яго паэзія. Яна жыла на шырокіх палавах па-над Бесяддзю-ракой, дзе "ўздыхаюць сумна коні на мядовых берагах", "самотны белы бусел думу думае аб вечным", а недзе "за далёкай вярстой" "у садзе цёткі Ліксаны густа б'е ліставой". Неўзабаве Алесь Пісьмянкоў пераехаў у сталіцу, дзе скончыў філфак БДУ і заняў пасаду рэдактара "ЛіМа", затым працаваў у часопісах "Полымя" і "Вожык" — а яго паэзія засталася ў роднай вёсцы. Але нельга душу раздзяліць надвое, частка прагне злучыцца з цэлым — і паэзія прарывалася ў будзённае жыццё пахамі ("Аерам пахне Сёмуха // І яблыкамі — Спас"), нечаканымі згадкамі ("У сталічным метро // Санны ўспомніўся след").

Месца Алеся Пісьмянкова ў беларускай літаратуры мяжы стагоддзяў адметнае. Паэт з жалем прызнаваўся: "Мы апошнія з нашага роду, // Каму сняцца вясковыя сны". Будучы сучаснікам пераацэнкі мастацкіх каштоўнасцей і пошуку новых паэтычных формаў, паэт здолеў застацца жыхаром роднай вёскі, "саўдзельнікам" роднай прыроды. На яго вачах многія рэаліі адыходзілі ў нябыт, аднак Алесь Пісьмянкоў захаваў далучанасць да каранёў, увасобіў яе ў вершах — і пакінуў нам у спадчыну. Яго творчасць развівалася на стыку часоў, у пару перамен, прычым у поўным анахранізме да літаратурных тэндэнцый. Магчыма, гэта абумовіла ўнутраны канфлікт лірычнага героя, яго пранізліву боль і светлы сум (сам паэт прызнаваўся, што наш час неспрыяльны для паэзіі. Але не пісаць ён не мог). І адначасова ў гэтым — прыгажосць і абаяльнасць паэтычнай спадчыны Алеся Пісьмянкова. Яго пазіцыя была натуральная і шчырая да апошняй кропкі. У любові да радзімы паэт прызнаваўся ціха, амаль малітоўна:

*Вазьмі ў мяне поле,*
*вазьмі ў мяне лес,*
*І я згіну,*
*як той Ахілес,*
*Не ўвайшоўшы ні ў міфы,*
*ні ў кнігі,*
*Я сканаю па-нашаму,*
*ціха,*
*Як жораў*
*у меліярацыю.*
*Як зямляк*
*у эміграцыі...*
*("Ты кажаш: «Пята Ахілесава»...")*



Фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў.

Лірычнае "я" Алеся Пісьмянкова часам заглыблена-інтымнае, а часам — роўнае Сусвету (бывае, гэта спалучаецца). Паэт паглыбляецца ў гісторыю, і тады вершы выяўляюць яго асабістую прысутнасць у кожнай падзеі, якой яны прысвечаныя. Гэта вынік уражлівасці, дар адчування genius loci, сведчанне неабыякавасці і эмацыянальнасці аўтара. Нездарма ў раннім вершы "У Каменцы", уяўляючы размову Пушкіна і Бястужава, герой ускліквае: "Яны гавораць пра Расію, і можа нават — пра мяне". Такі нечаканы пераход, своеасаблівая "магія прысутнасці" ёсць і ў іншых вершах: "Калі цалялі ў ваша сэрца, маглі патрапіць і ў мяне", "чытаю Бялькевічаў слоўнік — нібыта гасцюю ў радні"... Паэт "саўдзельны" гісторыі, праз яго, нібы праз сэрца свету, праходзяць радасці і трывогі быцця. Лірыка пераплаўляе іх у спагаду. Мабыць, таму герой вершаў Алеся Пісьмянкова па-дзіцячы непасрэдна, стыхійна шкадуе ўсіх: у вершы "Царква" — і камбеда Іванова, што скінуў з царквы звон, а потым "згасаў, як свечка"; і старога дзяка, што беспрытульна "пасе на цвінтары казу"; і царкву, і вернікаў... У іншым жа вершы ён з жалем прызнаецца: "Шкада цябе, мой тлумны век".

Паэзію Алеся Пісьмянкова можна аднесці да візуальнай, пачуццёвай лірыкі. У яго творчасці не сустрэнеш складаных асацыятыўных канструкцый, аўталагічных вершаў, інтэлектуальнай гульні. Яны нагадаюць хутчэй шчырую размову ці споведзь. Сам паэт тлумачыў гэта: "Традыцыйна — каб жыццёва, // Пачуццёва — бо балюча".

Алесь Пісьмянкоў — майстар пейзажнай дэталі, яму быў падуладны гукапіс, вялікую ролю мелі колеры і пахі. Некалькімі маляўнічымі штрыхамі паэт мог стварыць яркі малюнак:

*Прыстань*
*І замры на імгненне,*
*Калі ты душой не аглух:*
*Скалелы алешнік,*
*Як статак аленяў,*
*Прылёг на заснежаны луг.*
*Прыселі*
*Азяблыя птушкі*
*На крохкі сярэбраны рог —*
*Звычайны пейзаж беларускі*
*Ля самых звычайных дарог.*
*("Малюнак")*

Нават філасофскую лірыку, роздум над вечным Алесь Пісьмянкоў агортваў у нацыянальназначныя вобразы. Так, ён узбагаціў беларускую галерэю вобразаў часу арыгінальнай метафарай:

*Вузельчыкі памяці,*
*Як маленькія курганы*
*З пахаваным болем...*
*Іх усё болей і болей*
*На тоненькай нітцы жыцця,*
*Як і маленькіх узгоркаў*
*На целе зялёнай зямлі...*
*("Вузельчыкі памяці...")*

Многія вершы Алеся Пісьмянкова авеяныя сумам. "Сумуем мы яшчэ па-беларуску", — прызнаваўся ён. Разам з тым, творчасці паэта ўласцівыя насычанасць светлымі колерамі, бель, чысціня, зіхаценне і прамяністасць. Алесь Бельскі называе гэта "музыкай святла", "святлакалераваным жывапісам слоў". "Белы свет <...> успрымаецца паэтам як цуд, ачышчальнае святло, сакральная па сваёй сутнасці з'ява", — піша даследчык.

Паводле Тацяны Мушынскай, магчыма, Алеся Пісьмянкова аднясуць да сонму класікаў. Час пакажа... Адно адчуваецца пэўна: гэты творца блізкі да класікаў духоўна — паводле болю, любові, паводле якасцей слова — чыстага, светлага, святога.

# Шлях даўжынёй у «ЛіМ»

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Памяць мне часта малюе Алеся Пісьмянкова ў інтэр'еры "ЛіМа". У ягоным кабінеце галоўнага рэдактара, куды амаль штодня ён клікаў мяне з Фрунзе, 5, кажучы: "Заходзь, тут у мяне вельмі сімпатычны чалавек сядзіць"; у калідоры, куды ён часам выходзіў з цыгарэтай, каб павітацца са знаёмымі пісьменнікамі, што прыходзілі ў "Полымя", "Беларусь", пажартаваць, расказаць чарговую пісьмянкоўскую байку, заўсёды незласлівую, з сяброўскім гумарам; у камп'ютарнай, дзе маладыя дзяўчаты вярсталі чарговы нумар.

Ён прыйшоў у штотыднёвік галоўным праз колькі гадоў з таго часу, як яго ўзялі туды на працу пасля філфака БДУ ў аддзел крытыкі і бібліяграфіі. Бо пасля быў часопіс "Полымя", сакратарства ў Саюзе пісьменнікаў, зноў "Полымя", але ўжо — пасада намесніка рэдактара і, нарэшце, — прызначэнне ў "ЛіМ".

"ЛіМ" тады знаходзіўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Штотыднёвік практычна друкавалі ў доўг, бо працаўнікам не было чым разлічвацца з Домам друку. Хапала і іншых праблем. І ўсё гэта трэба было, як кажуць, разрульваць яму, паэту, не спрактыкаванаму ў гаспадарчых справах.

Да гонару Алеся, ён справіўся з праблемамі даволі хутка. Безумоўна, з дапамогай надзейных сяброў, і ў першую чаргу, Паўла Вараб'ёва, якога паклікаў у свае намеснікі. Увогуле, гэта была адна з галоўных чалавечых рыс Пісьмянкова — гуртаваць вакол сябе надзейных людзей, не зважаючы на пасады, мацаваць сяброўства і ўменне падставіць адзін аднаму пляча. Такім верным сябрам і памочнікам быў для яго ў "ЛіМе" Віктар Шніп, затым Валодзя Марук, пазней Алесь Гаўрон...

Мне таксама давялося папрацаваць у "ЛіМе" намеснікам галоўнага рэдактара. І хай гэта было надоўга, але назаўсёды запомніў адметную лімаўскую атмасферу і яго — галоўнага на працы і галоўнага сябра ў жыцці.

Літаральна кожны нумар рыхтаваўся пры яго непасрэдным удзеле, пачынаючы з планавання, вычыткі матэрыялаў. Алесь заходзіў у кабінеты, раіўся з супрацоўнікамі... Гэта ён прыдумаў рабіць на старонках "ЛіМа" падарожжы з фотаапаратам па памятных мясцінах Мінска і Беларусі.

Кожны дзень у рэдакцыю заходзілі цікавыя асобы — пісьменнікі, мастакі, музыканты. Алесь заўсёды прыцягваў да сябе выдатных людзей. Сярод яго сяброў былі і тыя, чыя прафесія ніяк не звязана з літаратурай — рабочы, доктар, пракурор, дырэктар завода... Але яны цягнуліся да яго, яго непадробнай беларускасці, да яго эрудыцыі, чалавечых якасцей.



Фота з архіва "ЛіМа".

Памятаю, як мы рыхтаваліся да юбілею газеты. Я ўжо зноў працаваў у Саюзе пісьменнікаў, але паранейшаму лічыў сябе лімаўцам. Прыдумвалі юбілейную сімволіку, рыхтавалі сцэнарый. Алесь быў, як заўсёды, рухавіком ідэй. Увогуле, "ЛіМ" быў часткай яго жыцця, багатага і насычанага. Не раз мы там засяджваліся дапазна, не раз завітвалі і ў выхадны дзень. А колькі спрэчак і меркаванняў было пры падвядзенні вынікаў штогадовай прэміі за лепшы твор паэзіі, прозы, публіцыстыкі!.. Урэшце, пераможцамі выбіраліся найбольш вартыя, сапраўды таленавітыя, прызнаныя аўтары, бо планка якасці ў "ЛіМе" была самая высокая.

На жаль, Алесю Пісьмянкову быў наканаваны не вельмі доўгі жыццёвы шлях. Але на гэтым адрэзку жыцця быў пазначаны і вельмі плённы перыяд — шлях даўжынёй у "ЛіМ".

***На здымку: Навум Гальпяровіч і Алесь Пісьмянкоў.***

# Жыццё, багатае творчасцю

Іван ЦІТОЎ

Пісаць пра тых, каго добра ведаў, з кім побач працаваў, хадзіў аднымі і тымі ж сцежкамі і каго цяпер няма, — вельмі складана. Ды памяць многае падказвае, штосьці ўжо зацемненае часам, а нешта яскрава стаіць перад вачыма.

Кароткім было жыццё Алеся Пісьмянкова, але яркім, нібыта маланка, якая асвяціла беларускае наваколле. Асвяціла і навекі застыла ў нашай памяці.

Алесь Пісьмянкоў нарадзіўся на Касцюкоўшчыне ў вёсцы Бялынкавічы 25 лютага 1957 года. Там жа атрымаў сярэднюю адукацыю. І ў пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя прыйшоў працаваць у Касцюковіцкую раённую газету. Узялі яго карэктарам.

Задачай Алеся было выпраўляць памылкі на старонках раёнкі. А ў вольны час яго займала другое — складанне вершаў. Яны былі крыху наіўныя, але ў іх адчувалася шчырасць.

На пачатку творчага шляху Пісьмянкова падтрымаў паэт Сямён Пацёмкін. Затым на першыя спробы Алеся звярнуў увагу слынны беларускі творца Аляксей Пысін. І абодва яны не памыліліся.

Гартаю старонкі першай кнігі паэта "Белы Камень", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1983 годзе. Тут змешчаныя вершы, у якіх апяваецца хараство роднай прыроды, чысціня кахання. Адчуваецца, што аўтару найдаражэйшыя ў свеце мясціны, дзе працякае імклівая Бесядзь, так хораша апетая народным паэтам Беларусі Аркадзем Куляшовым.

Чаму ж сваю першую кніжку Алесь Пісьмянкоў назваў "Белы Камень"? Пытаюцца пра гэта тыя, хто мала знаёмы з касцюковіцкай геаграфіяй. А справа ў тым, што каля Бялынкавіч на беразе ракі прытулілася невялічкая вёсачка Белы Камень. Стаіць яна на пагорку на левым беразе рэчкі Зубар. Яна тут глыбокая, паўнаводная, на павароце запавольвае свой бег. І тут добрая купальня. Менавіта сюды прыходзіў Алесь са сваімі дружбакамі і малодшым братам Міколкам. Тут ён цешыўся свайму бесклапотнаму хлапечаму жыццю і знаходзіў творчае натхненне.

Зборнік Алеся Пісьмянкова "Жураўль над студняй", які пабачыў свет у 1998 годзе ў горадзе Горкі, фінансавалі магілёўчане. Гэта сведчыць пра тое, што паэт, часта пішучы пра малую радзіму, карыстаўся вялікай павагай у сваіх землякоў.

Неяк з групай беларускіх літаратараў Алесь Пісьмянкоў прыязджаў у Хоцімск. Сабраліся ў рэдакцыі раённай газеты "Шлях Кастрычніка". Потым рэдактар Адам Капусцін арганізаваў сустрэчу паэтаў і празаікаў з Мінска ў раённым Доме культуры. Былі яны і ў школах Хоцімшчыны. Выступалі. Чыталі свае творы.

Вечарам мы гаманілі — не нагаманіліся. Успомніць было што. Я добра ведаў бацькоў Алеся Уладзіміравіча — так цяпер называў яго, хоць і быў старэйшы. Прыгадвалі паходы ў лес пад Вялікую Крапіўню (вёсачка непадалёк ад Бялынкавіч) з братам Міколам…

Пра апошні зборнік А. Пісьмянкова "Думаць вершы" распавёў у сваёй публікацыі ў газеце "СБ — Беларусь сегодня" паэт, дырэктар радыёстанцыі "Беларусь" Навум Гальпяровіч. Пісьмянкоў гэтую кнігу паспеў толькі ўкласці, а сам яе ўжо не ўбачыў. Н. Гальпяровіч раіць чытачам звярнуць на яе ўвагу. Бо калі чытаеш такія творы, запэўнівае ён, душа ачышчаецца.

# Было...

Алесь МАРЦІНОВІЧ,
фота Уладзіміра Крука

**Як адно імгненне праляцела: працы ў “ЛіМе” я аддаў ажно дваццаць дзевяць з паловай гадоў. Праўда, пяць з іх працаваў толькі на паўстаўкі. Ды ўсё адно магу сказаць, што “ЛіМ” — гэта мой лёс. Калі ж гаварыць словамі некалі знакамітай песні, то ён — “та проходная, что в люди вывела меня”. За гэты час столькі ўсяго было! У тым ліку і смешнага. То, можа, і прыгадаю колькі такіх эпізодаў, што патрапляюць пад вызначэнне “се ля ві”?**



*Супрацоўнікі “ЛіМа”, першая палова 1970-х. Сядзяць: Анатоль Сапетка, Уладзімір Федасеенка, Іван Паўлюкоўскі, Яўгенія Данская. Стаяць: Аляксандр Капусцін, Хведар Жычка, Алесь Марціновіч, Міхась Замскі, Людміла Крушынская, Марыя Гілевіч, Раіса Баравікова, Тамара Клютко, Віктар Шымук, Алесь Мацкевіч, Тамара Нікіціна, Алесь Мажэйка.*

## Матлос ніколі не памыляецца!

Сядзім неяк у “ЛіМе” з крытыкам А. і паэтам С. і галаву ламаем. Калі ўжо на тое пайшло, то гэта праблема найперш паэта С., які загадвае аддзелам літаратуры. Толькі гэтак хочацца яму дапамагчы, знайсці для публікацыі патрэбны ўрывак з рамана, які напісаў паэт, таксама С. Дарэчы, стрыечны брат нашага С. Раман “Пад канвоем” аб’ёмны, а для публікацыі неабходна ўсяго нейкіх восем старонак машынапісу.

Спачатку сам загадчык аддзела літаратуры, потым мы з А. некалькі разоў рукапіс перагарнулі, але ні на чым спыніцца так і не змаглі: і гэта не падыходзіць, і тое не характэрнае.

Калі ўжо зусім адчаяліся, заходзіць у кабінет галоўны рэдактар Хведар Жычка.

— Над чым, блатва (“р” ён не вымаўляў — **А. М.**), галаву ламаем? — пытаецца ў нас.

— Ніяк урывак неабходны знайсці не можам, — адказвае паэт С.

— А што клытык, не можа дапамагчы? — звяртаецца галоўны да А.

— Спрабаваў, нічога не атрымліваецца, — апраўдваецца загадчык аддзела крытыкі і бібліяграфіі.

— А ты, малады? — Жычка глядзіць у мой бок. — Што, слабавата? — кажа ён і незласліва дадае: — Гэта табе не ў лаёнцы плацаваць.

— Кажуць, што яны самі, без маёй дапамогі справяцца, — апраўдваюся я, маючы на ўвазе А. і С.

— Самі... — галоўны рэдактар іранічна ўсміхаецца: — Ні на што вы не ждатныя. Толькі і ўмееце цалніла піць. Давайце лукапіс, — рашуча заяўляе ён. — Навучу вас, як плацаваць тлэба.

Узяўшы папку з рукапісам рамана, Жычка рашуча адкрывае яе і, паглядзеўшы на нас з пачуццём уласнай годнасці, пачынае:

— Глядзіце, салагі, як гэта лобіцца...

Жычка слініць палец і пачынае перагортваць старонкі, прамаўляючы ўголас: — Адна, дзве, тлы, чатылы, пяць... — Спыніўшыся недзе на дваццатай, радасна смяецца: — Адсюль і пачнём.

— Як пачнём? — нічога не разумее паэт С.

— Адлічым восем сталонак, — тлумачыць яму Жычка, як малому.

Зноў гучыць: адна, дзве, тлы, чатылы, пяць... Перагарнуўшы восьмую старонку, Жычка, задаволены, звяртаецца да нас:

— Усё ў паладку, а вы нюні ласпусцілі...

Мы здзіўлена глядзім на галоўнага, не ведаючы, як да ўсяго паставіцца. Нарэшце крытык А. асмельваецца выказаць сумненне:

— А калі ўрывак атрымаўся незакончаны?

— Ты што? — галоўны стараецца зрабіць строгі выраз твару. — Думаеш, бывалы матлос памыляецца?

Жычка ў юнацтве служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце, чым вельмі ганарыўся. Загадчык жа аддзела крытыкі і літаратуразнаўства, перш чым стаць журналістам, працаваў вадзіцелем тралейбуса. Цяпер Х. Жычка не прамінае ўпікнуць яго:

— Гэта табе не баланку клуціць.

Ніяк не зрэагаваўшы на гэта, А. хуценька прабягае старонкі рамана, узятыя ў якасці ўрыўка. Па меры чытання ягоны твар пачынае расплывацца ва ўсмешцы.

— Здорава! — нарэшце гучыць з ягоных вуснаў.

— Вы, салагі, шмат яшчэ чаго не ведаеце, — павучальна кажа галоўны. — Ніцога, пад маім мудлым кілаўніцтвам навучыцеся, — смеючыся дадае ён і пакідае наш кабінет.

Яшчэ адзін выпадак з Х. Жычкам. Праходзіць рэдакцыйная планёрка. Абмяркоўваецца план чарговага развароту-ўкладыша, прысвечанага нейкай сельскагаспадарчай кампаніі. Здаецца, жніву. Што такія ўкладышы павінны рэгулярна быць у “ЛіМе”, вырашылі ў Міністэрстве культуры, а яно з’яўлялася тады адным з заснавальнікаў штотыднёвіка. Таму такое распараджэнне трэба ўспрымаць загадам. Адпаведна да яго і паставіўся Жычка. Усе разумеем, што ў такіх укладышах няма ніякай неабходнасці, але маўчым. Трэба дык трэба. Загады, няхай і не прамыя, не абмяркоўваюцца. Больш за тое, хтось выказвае думку, што такія матэрыялы — добрая падмога ў рабоце палітінфарматараў і агітатараў. Неабавязкова чакаць адпачынку: камбайнер працуе сабе, а ў гэты час агітатар падае яму карысную інфармацыю. Тут я і не вытрымаў:

— Але ж па тэхніцы бяспекі забаронена старонняму чалавеку знаходзіцца на капітанскім мосціку.

У той час на камбайнах яшчэ амаль не было кабін. Як і амаль не было самаходных камбайнаў. Звычайна іх прычэплівалі да трактара.

Выказаўся я і здзівіўся, што ніхто пасля гэтага нічога не сказаў. Адно заўважыў, што галоўны неяк нядобра паглядзеў на мяне, але таксама нічога не сказаў. А пасля планёркі...

— Выклікае цябе, — сказала сакратарка, зайшоўшы ў наш кабінет.

Сумнення не заставалася, што гэты тэрміновы выклік “на ковёр” звязаны з маім выступленнем. Але што я такое сказаў, ніяк не магу ўцяміць. Галоўны патлумачыў, прытым не саромеючыся ў выразах.

— Маць тваю, — пачаў ён. — Я цябе без плапіскі ўзяў, а ты пачынаеш. Хіба я сам не ведаю, што ўсё гэта лухта? Але калі тлэба, то тлэба. Зразумеў?

Як не зразумець, калі ўсё было сказана проста, даходліва і пераканаўча.

## Як добра быць не загадчыкам

А гэта ўжо з часоў рэдактарства Алеся Асіпенкі. Мушу сказаць, што прыходу ягонага я чакаў з боязззю. Жычка, беручы мяне на работу са Слуцка, хоць і паставіў умову, каб я прапісаўся як мага хутчэй, пасля рабіў выгляд, што пра ўсё забыўся. Мае ж нядобразычліўцы, даведаўшыся, што галоўны рэдактар мяняецца, ад радасці пацiралі рукі. Тым больш што Асіпенка знаходзіўся з Жычкам мякка кажучы, у нацягнутых адносінах. Здагадваліся, што некаторых супрацоўнікаў новы галоўны заменіць. Такі лёс яны прадказвалі і мне.

Пробны камень быў кінуты, калі Асіпенка праз некалькі дзён пасля таго, як стаў галоўным рэдактарам “ЛіМа”, разам з У. завітаў у Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы. Прыйшлі дзеля наладжвання з навуковымі супрацоўнікамі творчых кантактаў, запрашалі іх актыўней пісаць у “ЛіМ”. Тут адна крытыкеса і не вытрымала, каб не прайсціся па мне. Рэакцыя з боку Асіпенкі для яе аказалася непрадказальнай. Новы галоўны сказаў прыкладна так: быў бы яшчэ адзін супрацоўнік, як Марціновіч, больш нікога для выпуску “ЛіМа” не трэба.

Аднойчы, калі мы ўтрох крыху пасядзелі ў кабінеце зусім не ў рабочай атмасферы, у дзверы нехта асцярожна пастукаў. Ніякага сумнення не заставалася: чалавек свой. Як такому не адчыніць. Адчынілі і не пашкадавалі. Завітаў да нас Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Для мяне гэта была асаблівая радасць. Пра тое, наколькі добрыя адносіны склаліся ў нас, гаворыць ужо тое, што свае кнігі ён мне падпісваў не іначай як “старому сябру”. У сэнсе даўняму сябру. Разгаварыліся, а ён папрасіў:

— То, можа, я пазваню свайму сябру Ліхадзіеўскаму.

Паэт, даследчык літаратуры Сцяпан Ліхадзіеўскі, з якім Станіслаў Пятровіч сябраваў яшчэ з гадоў юнацтва, жыў у Ташкенце. Далекавата, канечне. Ды хіба адмовіш? Адно папярэдзілі, каб доўга не гаварыў. Станіслаў Пятровіч, зразумела, паабяцаў. Але тыя, хто быў добра знаёмы з ім, ведалі, наколькі ён любіў пагаварыць. Асабліва калі пачынаў сваё традыцыйнае: “А ведаеце....”

Паступова мы страцілі пільнасць. Станіслаў Пятровіч з Ліхадзіеўскім размаўляе, а мы паміж сабой. Быццам і няма яго ў пакоі. Пагаварыў з Ліхадзіеўскім, колькі хацеў.

Праходзіць месяц. Мы ўжо і забыліся пра гэты званок. Раптам галоўны выклікае да сябе А. Паступіла раздрукоўка тэлефонных размоў для аплаты. На ташкенцкі нумар налічана ажно 65 рублёў. Для параўнання: гэта адпавядала амаль палове тагачаснай зарплаты загадчыка аддзела. Не сказаць каб надта строга ставіліся ў рэдакцыі да міжгародніх тэлефонных званкоў, але такая сума...

— Што ж, — сказаў галоўны А., — будзеш плаціць са сваёй кішэні.

— Чаму я адзін? — здзівіўся той.

Падумаў галоўны:

— Так і быць: палову плаціш ты, а палову С.

А. не хацеў мірыцца і з такім варыянтам.

— Але ж, — запярэчыў ён, — у кабінеце быў яшчэ і Марціновіч. Калі б не ён, то Станіслаў Пятровіч, магчыма б, і не зайшоў.

— Пакінь Марціновіча ў спакоі, — адказаў галоўны. — Вы з С. — загадчыкі аддзелаў, а ён радавы супрацоўнік. Вы і адказваеце.

Расказаў мне А. пра гэта.

— Не хвалюйцеся, — супакоіў я яго, — пайду папрашу, каб суму гэтую на трох падзялілі. Па справядлівасці.

Ды дзе там! Асіпенка і слухаць не захацеў. Паўтарыў тое, што і дагэтуль казаў. Маўляў, у загадчыкаў аддзелаў зарплата большая, таму з іх і спагнанне.

Так і вылічылі з А. і С. грошы. Ад такой “справядлівасці” я адчуваў сябе ніякавата, таму вырашыў кампенсаваць ім урон...

## Следства вядуць пакрыўджаныя

Калі прыгадваю празаіка Д., дарэчы, свайго земляка, ураджэнца Случчыны, і празаіка, а таксама нарысіста, аднаго з самых актыўных прыхільнікаў рабочай тэмы ў беларускай літаратуры М., заўсёды ўспамінаю выпадак, што адбыўся, калі галоўным рэдактарам “ЛіМа” працаваў Алесь Асіпенка. Ён, як да яго і Хведар Жычка, любіў друкаваць вострыя матэрыялы — такія, якія б выклікалі шырокі рэзананс. Праўда, Алеся Харытонавіча за гэта хвалілі, а Хведару Дзмітрыевічу даставалася. Маўляў, выбіраў не той аб’ект крытыкі. Як цяпер кажуць, давалі знаць пра сябе двайныя стандарты. Але каму крытыка падабаецца? Маю на ўвазе пісьменнікаў, якім выказваюцца, няхай і справядлівыя, заўвагі. Не знаходзілі сабе месца і празаік Д. з празаікам і нарысістам М., калі па іх у адным са сваіх артыкулаў прайшоўся крытык Т.

Асіпенка, загадзя ведаючы, якую рэакцыю гэтая публікацыя выкліча з боку пакрыўджаных пісьменнікаў, прапанаваў Т. падпісаць гэты матэрыял псеўданімам. Каб жа ніякай уцечкі інфармацыі пра гэта не было, галоўны папярэдзіў супрацоўнікаў рэдакцыі. Трымаць усё ў тайне.

Зразумела, што мы не маглі не паслухацца яго. Не збіраўся выдаваць тайну і я. Аднак не толькі таму, што тады працаваў у аддзеле крытыкі: на той час у мяне былі добрыя адносіны і з Д., і з М. Тым не менш, як ні стараліся яны, нічога не сказаў. Ды нездарма кажуць: “Голь на выдумки хитра”.

У дзень атрымання ганарару ў касу яны пайшлі ўдвух. Д., праўда, толькі падмацоўваў ход гэтай аперацыі сваёй прысутнасцю. Правядзенне ж яе цалкам узяў на сябе М. Падышоўшы да запаветнага акенца, ён паздароўкаўся з касіркай. Вольга Фамінічна, так звалі гэтую жанчыну, грошы выдавала ўжо не адзін дзясятак разоў, таму добра ведала ў твар сталых наведвальнікаў. М., у адрозненне ад Д., друкаваўся куды часцей, таму, убачыўшы яго, яна здзівілася:

— Нешта даўно вас не відаць.

Зацікаўленасць сталымі кліентамі ў яе была невыпадковай. Ганарары на той час плацілі немалыя, і многія аўтары, звычайна найперш тыя, хто ведаў касірку, адмаўляліся браць рэшту манетамі, а часам маглі ахвяраваць ёй і рубель-другі. За дзень набіралася даволі значная сума.

— Не друкаваўся, — адказаў М. на здзіўленне Вольгі Фамінічны. — Затое сёння будзе добрая сума, — ён даў зразумець ёй, што сёе-тое пакіне.

— І ў якой ведамасці шукаць вас? — абрадавалася касірка.

— У “ЛіМе”, — як ні ў чым не бывала, адказаў М.

Вольга Фамінічна ўважліва прагледзела ведамасць.

— Няма вашага прозвішча, — на яе твары з’явілася недаўменне.

— Не можа быць! — шчыра занепакоіўся М. і папрасіў: — Калі ласка, яшчэ раз паглядзіце.

— Няма, — зноў пачулася ў адказ. — Мабыць, нешта ў бухгалтэрыі наблыталі, — выказала яна меркаванне.

— То і схаджу ў бухгалтэрыю, — М. па-змоўніцку падміргнуў празаіку Д., які стаяў крыху ўбаку: усё ішло паводле задуманага плана.

У бухгалтэрыю зайшлі разам і адразу накіраваліся да стала галоўнага бухгалтара. Тая нікольկі не здзівілася, што па адным і тым жа пытанні звяртаюцца ўдвух: з’ява ў дзень ганарару звычайная. Калі хтосьці атрымліваў грошы, то ягоны сябра (ці сябры) з нецярпеннем чакаў (чакалі), калі можна будзе пайсці і адзначыць гэта.

Выслухаўшы М. і загадзя папрасіўшы прабачэння, галоўны бухгалтар запыталася ў яго:

— У якім нумары вы друкаваліся?

М. назваў сваё прозвішча і нумар газеты. Каб доўга не шукаць, удакладніў:

— Глядзіце там, дзе матэрыялы па крытыцы, звычайна пятая-шостая палосы.

— Ды няма тут вашага прозвішча, — роздумна адказала галоўны бухгалтар.

— Але ж сам бачыў, што мой артыкул надрукаваны. Можна, — папрасіў М., — я сам пагляджу.

Галоўны бухгалтар падала яму газету.

— Ведаеш, хто пісаў? — звярнуўся ён да празаіка Д. — Крытык Т.!

Зразумела, што ў ганарарным нумары стаяла сапраўднае прозвішча аўтара.

— Ну і Харытонавіч, — засмяяўся той. — Думаў, што мы не даведаемся.

У бухгалтэрыі запанавала цішыня. Усім так і карцела даведацца, што маецца на ўвазе. Давялося ім пра ўсё расказаць. А потым і Асіпенку расказалі.

**У юбілейным выпуску свае вершы друкуюць былыя супрацоўнікі “ЛіМа”: Віктар Шніп — з 1995 года адказны сакратар, намеснік і першы намеснік галоўнага рэдактара, у 2002 — 2003 гг. галоўны рэдактар; Тацця на Мушынская — у 1983 — 1988 гг. загадчык аддзела выяўленчага мастацтва і аддзела культуры; Янка Лайкоў — у 2004 — 2009 гг. рэдактар аддзела літаратуры.**



Віктар Шніп

## Год Валянціна Губарава ў Аляхновічах

### Студзень

*студзень не застудзіць студні*
*дзе ў вадзе як у небе зоры*
*залатымі крупінкамі снегу*
*якія прыляцеў з краіны дзяцінства*
*каб было светла*
*не толькі мастаку*
*які ідзе па гурбах*
*на гару дзе стаіць хата*
*у снезе як у аблоках*
*белых як фіранкі на вокнах*
*праз якія працэджваецца святло*
*і разліваецца Млечным Шляхам*
*перад табой*

### Люты

*люты пытаецца ці добра абуты*
*і вецер слізгае па цвёрдым снезе*
*як па белай паперы*
*нябачны пэндзаль*
*у руках мастака*
*і белая фарба зімы*
*з чырвонай фарбай раніцы*
*перамешваецца пераліваецца*
*і цені з дрэў спаўзаюць*
*і чапляючыся за сцябліны сухой травы*
*што тырчыць з-пад снегу*
*як антэны з падзямельнага царства*
*расцягваюцца як капронавыя панчохі*
*на каленях у аляхновіцкіх дзяўчат*
*што клічуць і цябе на танцы*
*у клуб дзе ў гармоніку*
*ужо трапечыцца вясна*
*як у горле пеўня*
*вада з капяжа*

### Сакавік

*сярод вазонаў на падваконні руды кот*
*глядзіць як белы снег*
*чарнее і ператвараецца ў ваду*
*што цячэ па вуліцы сярод хат*
*як сярод драўляных караблёў*
*па рэчышчы перасохлай ракі*
*і белыя гусі з двароў праз плот*
*высоўваюць жоўтыя дзюбы*
*якія як першыя вясновыя вясковыя кветкі*
*радуюць цябе*
*і ў тваіх слядах вада*
*спыняецца як спыняецца час*
*але на хвілю*
*і сонца як велікоднае яйка*
*выпаўшы з паўнюткага*
*кошыка валачобніка*
*коціцца па бязмежным небе*
*чыстым як бярозавы сок*
*ад тваёй хаты да суседняй*
*і радуюцца дзеці*
*пускаючы папяровы караблік*
*які ў тваім дзяцінстве*
*яшчэ не патануў*

### Красавік

*з першай травою купіны*
*як вожыкі зялёныя*
*пад сонцам грэюцца*
*якое як вялікая кропля*
*чырвонай фарбы*
*на тваім палатне*
*на якім як Бог ты ствараеш свет*
*дзе па полі ў гумовых ботах*
*ідуць людзі а над імі жаўрукі*
*што нядаўна вярнуліся з выраю*
*як вясёлыя думкі*
*і каменьчыкі ў калюгах як каралі*
*Снежнай каралевы*
*якая растала як мроя*
*на ўзгрэтым узлессі*
*дзе красуюцца кураслепы*
*як каганцы*
*ад якіх святло*
*трапляючы ў тваю душу*
*абуджае верад натхнення*

### Травень

*і ўжо тоне ў травах*
*і ў пене садовай квецені*
*тутэйшая туга*
*і ў барозны кладзецца бульба*
*як золата хаваецца за пазуху*
*і чорныя як манахі гракі*
*ходзяць па ворыву*
*сярод курэй і пеўня*
*і ты глядзіш на гэта*
*як Ной які сышоў з каўчэга*
*на незнаёмым востраве*
*дзе ўжо існуе жыццё*

### Чэрвень

*узыходзячае сонца*
*як раніцы ракавінка*
*якая раскрылася*
*а з яе вылецілі ружовыя матылі*
*і крышталёва-ізумрудныя стракозы*
*і цёплы вецер ад іх крылля*
*развеяў туман у нізінах*
*і ўзышло макавае сонца*
*і пачаўся дзень*
*і зачмурэлі чмялі і пчолы*
*над россыпам кветак у лузе*
*дзе пасецца чырвоны конь*
*і звініць ланцугом*
*нібыта ён прывязаны*
*да цэнтра Зямлі*
*дзе стаіш ты*
*як апостал мясцовы*



*Фота Кастуся Дробава*



Янка Лайкоў

* * *

*Дванаццаць свечак на куце,*
*і кожная — згарае.*
*А велізарны смутны цень*
*на хату наступае.*

*Ратуе нас з табой агонь —*
*гарачы, аж балючы.*
*І гэты сон вякоў спакон*
*трываць,*
*трываць нас вучыць.*

* * *

*Грымоты збіраліся на даляглядзе.*
*Чакала залевы зямля.*
*На пыльны гасцінец*
*выходзіла Маці*
*і моўчкі глядзела. Здаля*
*плылі набрынялыя важкія хмары,*
*дзе нібыта абрысы званіц,*
*свечкі нязгасныя храмаў —*
*вянчалі крыжы бліскавіц.*

*Жагналася, кленчыла Маці набожна.*
*Са слёзаў палын прарастаў.*
*І Нехта, крануўшы чало ёй,*
*“Навошта*
*Ты плачаш, жанчына?” — спытаў.*

*Спыніліся слёзы. І ў гэта імгненне*
*праясніўся далягляд.*
*І Маці спытала:”Ты, сыне, не сненне?*
*Ты праўда вярнуўся назад?”*

*Пачула: “Я першы вярнуўся з выгнання.*
*За мною — натоўпы сыноў.*
*За вечарам — ноч,*
*а пасля будзе ранне…”*
*Ён знік. Маці ўкленчыла зноў.*

* * *

*Слухай ноч,*
*працятую аглушальнаю цішаю,*
*слухай, як напінаецца ціш,*
*выштурхоўвае нас з сябе, —*
*туды, дзе прарастае з нябыту,*
*нараджаецца, вышае,*
*уздымаецца над прасцягамі,*
*уразаецца ў сэрца глыбей*

*нешта, што ёсць невымоўнае,*
*неспазнанае, поўнае*
*жуды, трымцення смяротнага,*
*прагі жыцця,*
*нешта таемнае,*
*роспачнае, маліто ўнае,*
*даверлівае і кволае,*
*святое, нібы дзіця...*

*Слухай ноч, слухай ноч,*
*ашалелую, агаломшаную*
*тысячамі нябачных маланак,*
*пасланых звыш.*
*Нешта вечнае — там,*
*яно большае, большае,*
*захінае сабою Сусвет*
*і пераўтвараецца ў ціш.*

* * *

*Я шукаў сябе ў тых далёкіх днях,*
*калі дом ссамотнелы*
*спавівалі замеці,*
*калі памяць гублялася ў снах,*
*калі сны губляліся ў памяці.*

*Мне шапталі шаты высокіх дрэў:*
*“Ачуняй, нічога яшчэ не страчана,*
*ты не знік, у вогнішчы не згарэў,*
*шмат сустрэнеш*
*дзівос нябачаных…”*

*Я шукаў паўсюль прыкметы вясны,*
*не знаходзіў, і разам з памяццю*
*адляталі мае залатыя сны*
*ў вышыню, і знікалі ў замеці.*



Тацця на Мушынская

## «Колерам белым зіма варажыла…»

* * *

*Ты — як сонца прамень,*
*Хоць у небе і поўня.*
*Ты — мой светлы дзень,*
*Хоць і зорак поўна.*

*Ты — усюды са мной,*
*Хоць цябе і няма.*
*Ты — буянне вясны,*
*Хоць віруе зіма.*

* * *

*Душа твая —*
*У контурах тваіх.*
*Крануся іх —*
*Душы тваёй крануся.*
*Тут сцежка вузкая —*
*Не размінуся.*
*Душа твая —*
*У контурах тваіх.*

* * *

*Панылы пейзаж —*
*І самота ў душы.*
*О, як мы залежым*
*Ад сонечных промняў!*
*А голыя дрэвы*
*Стаяць бессаромна.*
*Панылы пейзаж —*
*І самота ў душы.*

* * *

*Пад промнямі сонца*
*Бярозы гайдаюцца.*
*Іх лёгкія цені*
*Ува мне адбіваюцца.*
*А дрэвы гайдаюцца,*
*А дрэвы гайдаюцца...*
*Пад промнямі сонца*
*Ува мне адбіваюцца.*

*Адліга*
*Шэрае неба,*
*Гразкая глеба.*
*Цяжкія хмары*
*Плывуць.*

*Ціша, самота*
*Душу атуляюць,*
*Думцы ўзлятаць*
*Не даюць.*

* * *

*Мы будзем адраджацца кожны дзень*
*У пацалунках палкіх і бясконцых.*
*У промні месяца,*
*У промні сонца…*
*Мы будзем адраджацца кожны дзень,*
*І так адгонім мы нябыту цень.*

* * *

*Зімовая доўгая ноч...*
*Ідзеш праз яе — як праз поле.*
*Здаецца, што ранку святло*
*Ужо не наступіць ніколі.*

* * *

*Жанчына плакала,*
*Што шчасце немагчымае,*
*А за сцяной*
*Суседзі рагаталі.*

## Зацярушаныя нацюрморты

*Нацюрморты малюю*
*Я і ўзімку, і ўлетку.*
*На палотнах маіх —*
*Ўсе бабуліны кветкі.*

*Кветкі з саду самотнага,*
*Кветкі з саду маркотнага.*
*Небыццём ён аплецены,*
*Снегам белым замецены.*

*А сябе намалюю*
*Пад старою ігрушай...*
*Белы снег летуценны*
*Ўсю яе зацярушыў.*

# Сцерці межы? Проста!

**Сёння ў краінах СНД працуюць 8 кніжных палат дзяржаўнага ўзроўню і кніжныя палаты суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, у некаторых дзяржавах былога СССР установы такога кшталту ці спынілі сваё існаванне, ці ператвораны ў іншыя структуры з такімі ж функцыямі. Да прыкладу, у Таджыкістане створаны Дом кнігі. Ці могуць кніжныя палаты краін СНД даць новы імпульс міждзяржаўнаму супрацоўніцтву? Ці існуюць межы для інфармацыі пра навінкі кнігавыдання? На гэтыя і многія іншыя пытанні галіны стараліся знайсці адказы ўдзельнікі міжнароднага "круглага стала" "Кніжныя палаты краін СНД — патэнцыял узаемадзеяння", што адбыўся падчас XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Каб даведацца больш пра асаблівасці функцыянавання гэтых адметных устаноў у краінах СНД, а таксама пра перспектывы іх узаемадзеяння, наш карэспандэнт задала некалькі пытанняў дырэктарам кніжных палат Казахстана, Украіны, Расіі і Беларусі.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**



**Дырэктар Нацыянальнай дзяржаўнай кніжнай палаты Рэспублікі Казахстан Жанат Сейдуманаў:**

**— Казахстан для Беларусі ў некаторай ступені *terra incognita*. Што адбываецца сёння ў выдавецкай сферы краіны?**

— Думаю, што не зусім incognita (*смяецца*). На 1 студзеня 2012 года ў нас зарэгістравана больш як тысяча выдавецтваў, з іх 150 з'яўляюцца традыцыйнымі. Астатнія — выдавецтвы ВНУ, навукова-даследчых устаноў. У Казахстане няма ніводнага дзяржаўнага выдавецтва, але ў той жа час дзяржава аказвае падтрымку нацыянальнаму кнігавыданню — у выглядзе фінансавання сацыяльна значнай літаратуры. Думаю, што адметнасцю кнігавыдавецкай сістэмы Казахстана з'яўляецца тое, што і кнігавыданне, і кнігараспаўсюджванне — прыватныя. Таму ёсць неабходнасць існавання арганізацыі, што аб'ядноўвала б усіх удзельнікаў працэсу і дзейнічала б не ў адпаведнасці са сваімі прыватнымі інтарэсамі. У апошнія гады гэтыя функцыі на сябе ўзяла Кніжная палата.

Натуральна, мы выконваем функцыю рэгістрацыі ўсіх выданняў, што выходзяць у краіне, хоць у Казахстане няма закона аб абавязковым бясплатным экзэмпляры. Для кіраўніцтва краіны і шырокай грамадскасці штогод рыхтуем інфармацыйна-аналітычны даклад "Кнігавыданне і кнігараспаўсюджванне ў Казахстане", дзе змяшчаем як агульныя дадзеныя, так і рэйтынгі выдавецтваў, указваем працэнтныя суадносіны відаў выдадзеных кніг. Так, мы неяк нават паўплывалі на павышэнне ўвагі да дзіцячай літаратуры. Справа ў тым, што ў 2010 годзе ў ліку кніг, што фінансаваліся дзяржавай, было толькі 2,8 працэнта дзіцячай літаратуры. У 2011 годзе, пасля таго, як мы звярнулі ўвагу на такі нізкі працэнт, доля выданняў для дзяцей павысілася да 11. І гэта без уліку кніг, што выдавецтвы падрыхтавалі за свой кошт.

Сёння Кніжная палата ў Казахстане выступае не толькі як арганізацыя, што займаецца камлектаваннем архіва друку, але і як цэнтр, экспертная супольнасць, дарадца. Мы працуем і ў кірунку прасоўвання нацыянальнага кнігавыдання на ўнутраным і знешнім рынку, выступаем у якасці арганізатараў і суарганізатараў кніжных выставак.

**— Наколькі я ведаю, вы ўпершыню ў Беларусі…**

— Так, сапраўды. І ў мяне вельмі добрыя ўражанні і ад працы Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі, і ад кніжнага форуму, які арганізаваны на дзяржаўным узроўні. Вельмі добра, што ў Беларусі захаваная адзіная сістэма кнігараспаўсюджвання, бо адна справа выдаць цікавую кнігу, іншая — данесці яе да чытача. У нас шмат агульнага, але ёсць чаму вучыцца адно ў аднаго.



**Дырэктар Кніжнай палаты Украіны імя І. Фёдарава Мікалай Сенчанка:**

— Кніжная палата Украіны была створана ў 1919 годзе. І тыя функцыі, якія яна выконвала ў той час, мы і цяпер выконваем. Атрымліваем абавязковы экзэмпляр кніг, газет, часопісаў, ліставых выданняў, што выходзяць у свет ў краіне, праводзім іх навукова-бібліяграфічную апрацоўку, лічым і заносім звесткі ў базы дадзеных. Выпускаем восем тыпаў летапісаў друку, а таксама навукова-практычны часопіс "Веснік Кніжнай палаты", статыстычны зборнік "Друк Украіны" і некаторыя іншыя выданні. У межах Кніжнай палаты працуе Дзяржаўны архіў друку, у фондах якога сёння налічваецца 13,7 мільёна адзінак захоўвання, у іх ліку — каля мільёна кніг, выдадзеных на тэрыторыі Украіны. З-за асаблівасцей геапалітычнага станаўлення краіны ў нас няма выданняў Заходняй Украіны, што пабачылі свет да 1939 года, а таксама кніг Рэспублікі Крым, што выйшлі да 1954 года. Але тым не менш гэта найбольш поўны дзяржаўны архіў друку. Чаму? Па сутнасці прадукцыю, што збіраем і захоўваем мы, збірае і захоўвае таксама Нацыянальная бібліятэка Украіны імя У. Вярнадскага, але ў 1964 годзе ў бібліятэцы ў час пажару было знішчана каля 250 тысяч выданняў украінікі.

У 1989 годзе для нашай установы ўзведзены новы будынак у Кіеве, да гэтага часу Кніжная палата Украіны знаходзілася ў Харкаве. У цяперашнюю сталіцу краіны друкаваная прадукцыя з архіва ў Харкаве, дзе былі кепскія ўмовы захоўвання, перавозілася на працягу 10 год. Цяпер у нас вельмі добрае сховішча, разлічанае на 15 мільёнаў адзінак захоўвання. Але іх ужо 13,7 мільёна, таму час займацца праектаваннем і будаўніцтвам новага корпуса.

**— Колькі кніг выходзіць ва Украіне?**

— Штогод мы рэгіструем 22 — 23 тысячы найменняў кніг, іх агульны тыраж — каля 45 мільёнаў асобнікаў.



**Дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова:**

**— У якім выглядзе можа ажыццяўляцца супрацоўніцтва паміж кніжнымі палатамі краін СНД?**

— Формы супрацоўніцтва могуць быць самымі рознымі: дагаворы — шматбаковыя ці двухбаковыя, уніфікацыя нарматыўна-прававой базы, правядзенне сумесных даследаванняў, удзел у кніжных выстаўках... І вельмі добрым шляхам нам бачыцца супрацоўніцтва ў межах СНД пры падтрымцы Фонду гуманітарнага супрацоўніцтва і Міждзяржаўнага савета па супрацоўніцтве ў галіне перыядычнага друку, кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі. Пэўныя крокі ўжо зробленыя і яшчэ робяцца. Так, у 2010 годзе ў межах Маскоўскай кніжнай выстаўкі-кірмашу мы падпісалі дамову аб інфармацыйным супрацоўніцтве з Расійскай кніжнай палатай, такія ж дамовы ў межах сёлетняга форуму ў Мінску падпісаны і з кніжнымі палатамі Украіны і Казахстана. Такія дагаворы спрыяюць больш мэтанакіраванаму ўзаемадзеянню кніжных культур нашых краін, забяспечваюць паўнату архіўных фондаў друкаваных выданняў, бо выдавецкая справа ўсё больш выходзіць за межы асобнай краіны. Адно з пацвярджэнняў таму — Расійская інфармацыйная сістэма "Кнігі ў наяўнасці і друку" (Books in Print), дзе змешчана інфармацыя пра кнігі, што рыхтуюцца да друку ў выдавецтвах розных краін СНД, у тым ліку і ў Беларусі. Плануецца стварэнне падобнай сістэмы і ў нашай краіне.

Абмен статыстычнымі дадзенымі, выпуск сумеснага статыстычнага зборніка "Друк краін СНД" — таксама добрыя формы супрацоўніцтва. Гэтая інфармацыя дазваляе нам параўноўваць узровень кнігавыдання ў розных краінах. У цэлым задумак шмат, і патэнцыял узаемадзеяння вялікі, але нам бачыцца, што супрацоўніцтва кніжных палат павінна набыць нейкую арганізаваную форму, як гэта было раней. Магчыма, у межах Выканкама СНД будзе дзейнічаць савет дырэктараў кніжных палат. Палажэнне аб савеце ўжо распрацавана, а яго абмеркаванне з удзелам усіх зацікаўленых бакоў, у тым ліку прадстаўнікоў Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Казахстана, Расіі, Таджыкістана, Украіны, прайшло ў межах выстаўкі.



**Першы намеснік генеральнага дырэктара Расійскай кніжнай палаты Алена Нагіна:**

— У час існавання Савецкага Саюза наша ўстанова называлася "Усесаюзная кніжная палата", усе астатнія кніжныя палаты саюзных рэспублік, якія ўжо з'яўляюцца самастойнымі, у той час былі нашымі падраздзяленнямі.

**— Ці змяніліся функцыі Расійскай кніжнай палаты з часу "адпачкавання" падраздзяленняў?**

— Так, яны змяніліся, і ў першую чаргу па фондах. Сёння наша асноўная функцыя — рэгістрацыя абавязковага экзэмпляра і рассылка бясплатных асобнікаў па галоўных федэральных бібліятэках. Раней мы мелі банк дадзеных па ўсіх рэспубліках, але цяпер прадстаўляем толькі Расію. Таму наша задача — сабраць усе кнігі, што выйшлі ў Расіі.

Папярэднія гады, асабліва 2009-ы, былі вельмі ўраджайнымі па колькасці выдадзеных кніг. Мы нават казалі, што набліжаемся да паказчыкаў, якія фіксавала ў свой час Усесаюзная кніжная палата. Але і ўплыў крызісу адчуваецца — у зніжэнні агульнага тыражу. Памяншаецца і сярэдні тыраж выданняў. Раней у нашай краіне выходзілі кнігі накладам у 100 тысяч, цяпер жа спачатку выходзіць пробны тыраж — 1-2 тысячы асобнікаў, калі ён сябе апраўдвае, то наклад выдаецца яшчэ і яшчэ. Тэматычны аналіз выданняў паказвае, што сёння лідзіруе кніга лёгкага жанру, у асноўным жаночыя дэтэктывы. Але калі ўзяць пад увагу тэматычны зрэз, прынцыпы афармлення кніг, паліграфічны ўзровень іх выканання, становіцца бачна, што якасць кніжнай прадукцыі павышаецца.

**— Ці мае расійская кніжная палата ўласныя выдавецкія праекты?**

— Цяпер амаль не выдаём кніг. Працуем над дзяржаўнымі бібліяграфічнымі паказальнікамі, бягучымі і штогадовымі кніжнымі летапісамі, якім у гэтым годзе споўніцца ўжо сто пяць год. Паступова мы адмаўляемся ад выдання кніг у традыцыйным папяровым фармаце. Зборнік "Друк Расійскай Федэрацыі" ўжо два гады выпускаем толькі ў электронным варыянце. У выглядзе асобных брашур выходзяць спецыяльныя даследаванні кніжнага рынку. Таксама трэба адзначыць, што з 1929 года РКП выдае навуковы часопіс па бібліяграфіі і кнігазнаўстве "Библиография", які добра ведаюць ва ўсіх краінах СНД.

*Фота Кастуся Дробава*

# Прыклад для пераймання

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Адным з важных пунктаў у праграме Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу стаў “круглы стол” “Мы — маладыя. Першыя крокі ў Вялікую літаратуру: прысвячаецца вялікім юбілеям — 130-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, стагоддзю Максіма Танка”.**

Увага да маладых творцаў з’яўляецца абавязковай умовай стабільнага развіцця любой літаратуры. Роля такога клопату асабліва ўзрастае ў часы, калі толькі прыход моладзі можа даць штуршок для далейшага развіцця. Таму патрэба ў правядзенні “круглага стала” выглядала больш чым відавочнай.

У сваім выступленні пісьменнік Міхась Пазнякоў акцэнтаваў увагу на дзейнасці мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі СПБ, якую ён узначальвае. Узгадаў стыпендыі, заснаваныя кіраўніцтвам Саюза для маладых творцаў, адзначыў працу літаратурных студый, падрабязна спыніўся на канцэпцыях серый “Маладая паэзія Беларусі” і “Мінскія маладыя галасы”. Міхась Паўлавіч падкрэсліў, што будуць зроблены намаганні павялічыць наклад выданняў і зменшыць іх кошт у кнігарнях.

Дырэктар выдавецтва “Чатыры чвэрці” Ліліяна Анцух паведаміла прысутным пра праект указа, які прадугледжвае змяншэнне падатку на кнігавыданне.



Ліліяна Фёдараўна ўзгадала непрацяглы трохгадовы перыяд, калі такі прынцып дзейнічаў. Паводле яе слоў, ён надзвычай спрыяў і кнігавыдаўцам, і чытачам, і аўтарам.

Акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў параўнаў паэзію савецкага перыяду і сучаснасці. Выказаў думку, што цяперашнія творы набылі больш камерны, асабісты характар. Намеснік дырэктара РВУ “Літаратура і Мастацтва” Ала Корбут пазнаёміла прысутных з бліжэйшымі кнігавыдавецкімі планамі ўстановы па падтрымцы маладых творцаў. Таксама ў абмеркаванні ўзялі ўдзел галоўны рэдактар часопіса “Маладосць” Святлана Дзянісава і галоўны рэдактар газеты “Літаратура і мастацтва” Таццяна Сівец.

“Круглы стол”, прысвечаны праблемам маладой літаратуры, не мог абысціся без гучання твораў. Свае вершы аўдыторыі прапанавалі Максім Баравік, Таццяна Выскварка, Сямён Ісаеў, Валерыя Кустава, Маргарыта Латышкевіч, Дар’я Лёсава, Рагнед Малахоўскі, Вольга Норына, Яна Явіч і іншыя творцы.

Вельмі да месца прагучала думка паэта Навума Гальпяровіча, дырэктара радыёстанцыі “Беларусь”. Ён адзначыў, што літаратура, асабліва паэзія, заўсёды з’яўляецца маладой, і прывёў прыклад Фёдара Цютчава, які пісаў маладыя вершы на восьмым дзясятку. Зрэшты, гэта яшчэ адно сведчанне таго, што шлях як у маладую паэзію, так і да дыялогу з ёй заўжды адкрыты.

***На здымку: удзельнікі “круглага стала” Святлана Дзянісава, Уладзімір Гніламёдаў і Ліліяна Анцух слухаюць вершы Вольгі Норынай.***

# Не — суму і аднастайнасці

**“Урбатагірк” — сярэднявечны медыцынскі зборнік, сувенірнае выданне якога можна было ўбачыць і нават патрымаць у руках на XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, дзе Арменія ўпершыню атрымала статус цэнтральнага экспанента. Менавіта з “Урбатагірка” пачалася гісторыя кнігадрукавання Арменіі, якая налічвае не адно стагоддзе. Дзякуючы гэтаму камісія ў складзе ЮНЕСКА, Міжнароднай асацыяцыі кнігавыдаўцоў, Міжнароднай федэрацыі бібліятэчных асацыяцый і ўстаноў прыняла рашэнне аб’явіць Ерэван, сталіцу Арменіі, сталіцай кнігі 2012 года. Праект “500-годдзе армянскага кнігавыдання” аб’ядноўвае многія краіны: Беларусь, Расію, ЗША, Італію, Францыю, Румынію, Балгарыю, Кітай, Германію, Галандыю, Польшчу. Пройдуць кніжныя выстаўкі і кірмашы, прымеркаваныя да гэтай падзеі.**

Марына ЯЎСЕЙЧЫК, фота аўтара

Кнігадрукаванне Арменіі пачалося ў Венецыі, традыцыя працягнулася ў Мадрасе, Львове, Рыме, Мілане, Амстэрдаме ды больш як трыццаці іншых еўрапейскіх гарадах. Адзінаццаць тысяч кніг, якія выйшлі ў перыяд з 1512 па 1920 гады, былі надрукаваны ў Венецыі, Канстанцінопалі, а таксама Тбілісі. А за дваццацігадовы перыяд, які ахоплівае 1920 — 1940-я гады, пабачыла свет васямнаццаць тысяч найменняў кніг. Як бачым, армянскае кнігавыданне мае вельмі багатую гісторыю, якая пачалася праз шэсцьдзясят год пасля вынаходніцтва Гутэнбергам друкаванага станка.

Гагік Хачатран, каардынатар стэнда Арменіі на міжнародным форуме ў сталіцы, распавёў, што сёлета на выстаўку ў Мінск прывезена больш як 600 кніг, сярод якіх можна было знайсці выданні па архітэктуры, гісторыі, культуры армянскага народа, а таксама шмат дзіцячай літаратуры. Але, безумоўна, сапраўднай аздобай экспазіцыі сталі работы заслужанага мастака Арменіі Арарата Саркісяна — кнігі, старонкі для якіх робіць сам мастак. Іх стварэнне — досыць складаны працэс, які патрабуе вытрымкі і цярпення. Кожны жадаючы мог пазнаёміцца з некаторымі сакрэтамі вырабу гліняных таблічак па старажытных традыцыях. “Гэтаму метаду чатыры тысячы год, — расказвае Арарат Саркісян. — З яго дапамогай друкаваліся самыя старажытныя кнігі, напрыклад, шумерскі эпас пра цара Гільгамеша. Шмат гліняных таблічак было знойдзена на Армянскім нагор’і і ў раёне Ерэвана”. Мастак аднавіў старажытную тэхніку і цяпер, выкарыстоўваючы яе, працуе над стварэннем праекта ілюстраванага эпаса “Сасунці Давід”. Ён будзе складацца з 24 барэльефаў, дапоўненых аповедам. Саркісян мяркуе, што работа будзе завершана ў маі.

Мастаком рэалізаваны ўжо не адзін праект. Саркісян прыгадвае серыю “Архетыпы”: “На лістах вялікага фармату адцісную алфавіты і тэксты на сямідзесяці пяці мовах свету. Выстаўка праходзіла ў Нью-Ёрку, Лондане, Парыжы, Жэневе, усходніх краінах”. Адметна, што наведвальнікі не проста разглядалі работы, але і слухалі аповед пра іх стварэнне, пра тэхнікі, якія прымяняліся падчас працы. Саркісян — мастак, які не прызнае майстэрства, мастак, які баіцца быць сумным і аднастайным у сваіх творчых працах, менавіта таму ён пастаянна знаёміцца з новымі тэхнікамі, вучыцца прымяняць іх. Да таго ж, Саркісян яшчэ і змагар з культурным вандалізмам. Мастак узгадаў жахлівую гісторыю 2006 года з разбурэннем азербайджанцамі цудоўных хачкараў у Джэльфе, дзе было пабудавана стрэльбішча. Саркісяна настолькі ўразіла гэтая навіна, што ён задумаў аднавіць страчаныя помнікі па здымках, якія знайшоў у архівах. Пасля нават быў зняты невялікі фільм, у адной частцы якога паказваюць разбурэнне хачкараў, а ў другой частцы — іх аднаўленне.



***На здымку: творчая работа Арарата Саркісяна.***

## На паліцы

# Слова з водарам лесу

***Васіль Жушма. Гарэза. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.***



Хочацца шчыра сказаць: памыліліся тыя, хто калісьці адклаў свае знаёмства з такім незвычайным аўтарам, як Васіль Жушма. Пачытайце вось цяпер, калі ласка, аповесць, і вы пераканаецеся ў гэтым. Васіль — з Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Закончыў школу, Брэсцкі педінстытут, кандыдат у майстры спорту былога СССР па спартыўным арыентаванні, чэмпіён рэспублікі сярод спартакаўцаў. Цяпер — намеснік рэдактара Іванаўскай раённай газеты. Аповесць “Гарэза” — вынік больш як дзесяці гадоў вандровак па лясах Беларусі. Яны, гэтыя вандроўкі, былі пехатой, з фотаапаратам і без яго, з назіраннем за ўсім, што жыве-дзеецца ў прыродзе.

Генрых ДАЛІДОВІЧ

*“…З аблокаў пасыпаўся дробны снег. Лес адгукнуўся на яго своеасабліва. Спачатку рэдка і асцярожна пачуліся ціхія, амаль няўлоўныя, шолахі. Здалося, лес ажыў, пачаў асцярожна спрабаваць свае лёгкія: удых-выдых… Пошум гусцеў. Шапацела цяпер усюды: і ў хвоях, і ў кустах, і ў траве…”* Можна было б цытаваць і іншыя ўрыўкі з твора, у якіх таксама добры гукапіс, дакладная вобразнасць. Можна было б прыводзіць цэлыя раздзелы, якія ствараюць амаль фізічна адчувальныя карціны прыроды: заплюшчы вочы — сярод яе стаіш. На першы погляд мы маем справу з простым апісаннем прыроды і яе таямніцы. У той пары, калі пасля асенняга зацішку раптам уздыхнулі неба, лес, зямля. Перадалося ім дыханне тое, і асцярожна наўкол ступіла зіма. Але трэба быць мастаком, каб такое ўбачыць, адчуць.

Уладзімір САЛАМАХА

Усё — як намаляванае. Ад няўлоўнага руху пад нагамі жаласліва войкнула скурчаная ад начнога марозцу трава, нечаканым гукам парушыўшы зачараванне. Гарэза — не проста мянушка вавёрачкі, не толькі праяўленне знешняй няўрымслівасці паводзін, гэта яшчэ і ўнутраная неўтаймаванасць, вясёласць. Аповесць можа быць аднолькава цікавай як дарослым, так і дзецям. Яна, на мой погляд, вартая таго, каб заняць годнае месца ў школьных хрэстаматыях. Тым больш, яе зручна было б чытаць падлеткам, паколькі яна сюжэтна падзелена на асобныя часткі-апавяданні, праілюстравана малюнкамі Даны Руновай. Твор здольны стаць цудоўным узорам эстэтычнага ўспрымання навакольнага свету.

Ірына САЛОМКА

За дзесяць год вандровак па лесе Васіль Жушма стаў “сваім” у палескіх гушчарах ды балотах. Аднойчы, лежачы ў хмызняку, назіраючы за зышчым цецерукоў, не адразу заўважыў, як за ім самім назірае гаспадар лесу — воўк. Павярнуўшыся, навёў фотааб’ектыў проста на шэрага разбойніка, той кінуўся наўцёк. На плёнцы засталася адно спіна ды хвост. Затое ў калекцыі Васіля ёсць фотапартрэт цікаўнага ваўчаняці. На старонках аповесці “Гарэза” чытач знаёміцца з жыццём многіх лясных жыхароў: ляся, сарокі, куніцы, бурундука, сойкі, дзіўных птушак крыжадзюбаў, барсукоў, выдры, баброў, кажаноў, ваўкоў, рысяў…

Ала КАТКАВЕЦ

**Кнігу можна набыць:**

- у РВУ “Літаратура і Мастацтва” (вул. Захарава, 19);
- у краме № 13 “Белсаюздруку” (падземны пераход ля станцыі метро “Плошча Перамогі”);
- у краме “Кніжны салон” (вул. Калініна, 5);
- у крамах ААТ “Белкніга”.

тура, 2011. — 75 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1294-8.

**Житков, Б. С.** Что бывало: рассказы: [для детей] / Б. С. Житков. — Минск Мастацкая літаратура, 2011. — 198 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1295-5.

**Иван-дурак**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука; литературная обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Букмастер: Книжный Дом, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-091-4 (Букмастер). — ISBN 978-985-17-0356-8 (Книжный Дом).

**Коза-дереза**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0347-6.

**Козлята и волк**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука; литературная обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Букмастер: Книжный Дом, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-088-4 (Букмастер). — ISBN 978-985-17-0353-7 (Книжный Дом).

**Колобок**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0346-9.

**Курочка-Ряба**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0344-5.

**Маяковский, В. В.** Что ни страница, – то слон, то львица: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Владимир Маяковский; [художник Мацуро Юлия Владимировна]. — Минск: Промкомплекс, 2011. — 16 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6969-24-2.

**Петушок – золотой гребешок**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0342-1.

**Репка**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0343-8.

**Репка**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука; литературная обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Букмастер: Книжный Дом, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-085-3 (Букмастер). — ISBN 978-985-17-0350-6 (Книжный Дом).

**Сборник произведений для внеклассного чтения учащихся начальной школы**: [для младшего школьного возраста / составители: Л. А.Довнар, Л. А. Одновол]. — Минск: Беларусь, 2011. — 286 с. — Содержит авторов: Артюхова Н., Барто А., Берестов В., Бианки В., Воронкова Л., Гаршин В., Горбовский Г., Драгунский В., Дружинина М., Заходер Б., Катаев В., Козлов С., Митяев А., Михалков С., Мориц Ю., Мошковская Э., Носов И., Носов Н., Осеева В., Остер Г., Пантелеев Л., Паустовский К., Пермяк Е., Постников В., Пришвин М., Сапгир Г., Скребицкий Г., Сладков Н., Снегирев Г., Соколов-Микитов И., Сутеев В., Толстой А. Н., Толстой Л., Успенский Э., Ушинский К., Цыферов Г., Чарушин Е., Шим Э. — 19500 экз. — ISBN 978-985-01-0924-8 (в пер.).

**Снегурочка**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука; литературная обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Букмастер: Книжный Дом, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-087-7 (Букмастер). — ISBN 978-985-17-0352-0 (Книжный Дом).

**Теремок**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 7030 экз. — ISBN 978-985-17-0345-2.

**Цветочек аленький**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / иллюстрации Виктора Чайчука; литературная обработка Сергея Кузьмина]. — Минск: Букмастер: Книжный Дом, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-090-7 (Букмастер). — ISBN 978-985-17-0355-1 (Книжный Дом).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Абрамов, И.** Кто в лесу главнее всех?: сказка / Игорь Абрамов. — Мозырь: КПУП «Колор», 2011. — 12 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-6830-30-6.

**Абрамов, И.** Чудесное утро: рассказ: [для детей] / Игорь Абрамов; [художник Виталий Бондарь]. — Мозырь: КПУП «Колор», 2011. — 6 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-6830-29-0.

**Гончарова, А. И.** Азбука для малышей: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Анна Гончарова; художники: Марина Гончарук, Сергей Козырко. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011. — 32 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-603-2 (в пер.).

**Гончарова, А. И.** Счет для малышей: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Анна Гончарова; художник Петр Орловский. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011. — 32 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-602-5 (в пер.).

**Карнаухова, Т. Г.** Киса: стихи для малышей: [для чтения взрослыми детям дошкольного и младшего школьного возраста] / Тамара Карнаухова; [художник А. Ю. Кожановский]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011. — 31 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-605-6 (в пер.).

**Кастрючин, В. А.** Приключения в Долине Пяти Ветров: фантастические повести: [для среднего школьного возраста] / Валерий Кастрючин, Владимир Цветков; [художник А. П. Коршакевич]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 198 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6994-60-2.

**Кастрючин, В. А.** Сказки волшебного родничка: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Кастрючин; художник Елена Карпович. — Минск: Букмастер, 2011. — 43 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-036-5 (в пер.).

**Кастрючин, В. А.** Сказки волшебного сада: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Кастрючин; художник Елена Карпович. — Минск Букмастер, 2011. — 43 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-041-9 (в пер.).

**Кастрючин, В. А.** Сказки старой черепахи: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Кастрючин; художник Елена Карпович. — Минск: Букмастер, 2011. — 44 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-035-8 (в пер.).

**Кудлачев, В. С.** Азбука культурной речи: [для младшего школьного возраста] / Виктор Кудлачев, Ирина Фоменкова; [художник Дана Рунова]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 39 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6994-67-1.

**Новогодние приключения, 2012** / [автор текста М. А. Деревянко; художник П. В. Орловский]. — Минск: Белорусский Дом печати, 2011. — 32 с. — 30500 экз. — ISBN 978-985-6587-99-6.

**Поздняков, М. П.** Забавная азбука: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Михаил Поздняков. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011. — 31 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-604-9 (в пер.).

**Сила непобедимая**: [рассказы о житиях святых воинов: для младшего и среднего школьного возраста / художник – Игорь Беличенко; пересказ Дмитрия Харченко]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 31 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-038-3.

**Тайное сокровище**: [рассказ о житии святого Филарета Милостивого: для младшего и среднего школьного возраста / пересказ Дмитрия Харченко; иллюстрации Игоря Беличенко]. — Минск: Издательство Дмитрия Харченко, 2011. — 20 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-545-031-4.

### Тэорыя літаратуры

**Белорусский государственный педагогический университет имени Максима Танка (Минск). Кафедра русской и зарубежной литературы**. Научные труды кафедры русской и зарубежной литературы БГПУ / Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка, Факультет белорусской и русской филологии; [редколлегия: А. И. Гаранина и др.]. — Минск: РИВШ, 2010–

Вып. 2. — 2011. — 115 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-488-3.

**Боразнова, Г. Д.** Учимся читать-2: пособие по чтению для учащихся 1-х классов средней общеобразовательной школы / Боразнова Г. Д. — Могилев: Могилевская областная укрупненная типография, 2011. — 136 с. — 17000 экз. — ISBN 978-985-6848-78-3.

**Воропаева, В. С.** Тетрадь по литературному чтению: 4-й класс: приложение к учебнику «Литературное чтение» для 4-го класса общеобразовательной школы с русским языком обучения (авторы: В. С. Воропаева, Т. С. Куцанова) / В. С. Воропаева, Т. С. Куцанова. — 4-е изд. — Минск: Аверсэв, 2011. — 110 с. — 9100 экз. — ISBN 978-985-529-910-4.

**Мировая детская литература**: практикум: учебное пособие для учащихся специальности «Начальное образование» учреждений, обеспечивающих получение среднего специального образования / [составители: Автухович Т. Е. и др.]. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 310 с. — 900 экз. — ISBN 978-985-6994-65-7 (в пер.).

**Новогродская, Н. В.** Литература ближнего зарубежья: учебно-методическое пособие для студентов филологического факультета / Н. В. Новогродская; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2011. — 65 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-473-745-4.

**Поэтика и риторика диалога**: сборник научных статей (к 60-летию профессора Т. Е. Автухович) / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: И. С. Скоропанова и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 382 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-515-434-2.

**Радечко, П. И.** Есенин и Беларусь / Петр Радечко; [автор вступительной статьи: Фатнев Ю. С.]. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 405 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6981-91-6 (в пер.).

**Радечко, П. И.** Реабилитированный Есенин / Петр Радечко; [автор вступительной статьи: Фатнев Ю. С.]. — Минск: Четыре четверти, 2011. — 405 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-69-81-90-9.

**Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности**: сборник научных статей / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; под научной редакцией С. Ф. Мусиенко. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 383 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 80 экз. — ISBN 978-985-515-445-8.

**Виталий Гранский – жизнь и деятельность**. — Орша: Оршанская типография, 2011. — 31 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7016-03-7.

### Беларуская літаратура

**Галяш, Г. А.** Кніга запрашае ў падарожжа: 2-гі клас: дапаможнік для вучняў установаў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / Г. А. Галяш; Нацыянальны інстытут адукацыі. — Мінск: Жасскон, 2011. — 68 с. — 1208 экз. — ISBN 978-985-6923-58-9.

**Дасаева, Т. М.** Беларуская літаратура ў кантэксце часу: літаратуразнаўчыя артыкулы, рэцэнзіі, эсэ: вучэбна-метадычны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных установаў, якія навучаюцца па спецыяльнасцях: 1-23 01 08 «Журналістыка (па напрамках)»; 1-23 01 09 «Журналістыка міжнародная»; 1-23 01 07 «Інфармацыя і камунікацыя (па напрамках)»; 1-23 01 10 «Літаратурная работа (па напрамках)» і спецыяльнасці 1-21 05 01 «Беларуская філалогія» / Т. М. Дасаева. — Мінск: БДУ, 2011. — 257 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-223-9.

**Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы**: успаміны, артыкулы, прысвячэнні / [укладанне Таццяны Шэляговіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 349 с. — Змяшчае аўтараў: Агняцвет Э. (Каган Эдзі Сямёнаўна), Агурцоў М., Акулін Э., Александровіч А., Александровіч С., Аўрамчык М., Багдановіч А., Барадулін Р., Барскі А. (Баршчэўскі Аляксандр Андрэевіч), Бачыла А., Бічэль Д., Броўка П., Бутэвіч А., Быліна Я. (Семашкевіч Іван), Бядуля З. (Плаўнік Самуіл Яфімавіч), Валасовіч-Гразнова Г., Валодзька С., Ватацы Н., Верас З. (Сівіцкая Людвіка Антонаўна), Вітка В. (Крысько Цімох Васільевіч), Вольскі А. (Вольскі-Зэйдэль), Вярцінскі А., Галубовіч Л., Гальпяровіч Н., Гарбацэвіч В., Гарэцкі М., Гаўрук Ю., Гілевіч Н., Глебка П., Гнацюк І., Годнеў Ц., Грачанікаў А., Дзябольскі Д., Дранько-Майсюк Л., Дубоўка У., Ермаловіч М., Жуковіч В., Жылка У., Забалоцкая Л., Загорская Н., Залатароў А., Заяц Л., Зуёнак В., Імшэнік Х., Кабржыцкая Т., Кавалёў С., Казакоў М., Камейша К., Каныгін С., Караткевіч У., Карызна У., Каско А., Каханоўская Я., Конан У., Кунцэвіч Н., Ластоўскі В., Лось Е., Лубкіўскі Р., Лужанін М. (Каратай Аляксандр Амвросьевіч), Львовіч М., Магульскі М., Мазго У., Маляўка М., Марціновіч П., Мележ І., Мінкін А., Пазнякоў М., Панізьнік С., Паўлікава-Хейдарава Л., Пестрак П., Пруднікаў П., Прыходзька П., Пысін А., Радкевіч (Савёнак) А., Рублеўская Л., Рудкоўскі М., Русецкі А. (Бурдзялёў), Салавей А. (Радзюк Альфрэд Васільевіч), Свірка Ю., Семашкевіч Р., Сітніца Р., Скарынкін У., Смоліч А., Сокалаў-Воюш С. (Сокалаў), Спрынчан Б., Стральцоў М., Танк М. (Скурко Яўген Іванавіч), Тарасюк Л., Тармола (Тармола-Мірскі) Р., Цвірка К., Цітоў А., Чыгрын С., Шніп В., Шушкевіч С., Янішчыц Я. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1292-4 (у пер.).

**Некрашэвіч-Кароткая, Ж. В.** Беларуская лацінамоўная паэма: позні Рэнесанс і ранняе Барока / Ж. В. Некрашэвіч-Кароткая; [навуковыя рэдактары: В. П. Рагойша, У. Г. Кароткі]. — Мінск: БДУ, 2011. — 229 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-545-2.

**Пазнякоў, М. П.** Залаты ключык духоўнасці: [выбраныя літаратурна-крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы] / Міхась Пазнякоў; [прадмова У. В. Гніламёдава]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2010. — 277 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-6981-18-3.

**«Пісьменнік – асоба – час», міжнародныя Шамякінскія чытанні (2; 2011; Мазыр)**. Міжнародныя Шамякінскія чытанні «Пісьменнік – асоба – час»: матэрыялы II Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, Мазыр, 20–21 кастрычніка 2011 г. / [рэдкалегія: Сузько А. У. (адказны рэдактар) і інш.]. — Мазыр: МзДПУ, 2011. — 280 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 100 экз. (1-шы з-д 52). — ISBN 978-985-477-463-3.

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Археалогія

**Минское замчище: материалы исследований северо-восточной части в 2009 году (участок I, раскопы 1, 2)**: сборник научных статей; [научный редактор: О. Н. Левко]. — Минск: Медисонт, 2011. — 236 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-29-6. — ISSN 2220-4717.

### Краязнаўства

**Бялыніччына**: краязнаўчы энцыклапедычны даведнік / укладальнік Міхась Карпечанка. — Мінск: В. Хурсік, 2011. — 137 с. — Частка тэксту на англійскай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-6888-64-2.

**Магілёўшчына**: [гісторыка-краязнаўчы зборнік] / Упраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама, Установа культуры "Магілёўскі абласны краязнаўчы музей ім. Еўдакіма Раманавіча Раманава". — Магілёў, 1992–

Вып. 11 / [рэдкалегія: А. А. (адказны рэдактар) і інш.]. — 2011. — 359 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 120 экз.

**Малады горад на зямлі старажытнай**: [гісторыя і сучаснасць горада Светлагорска / укладальнік Іван Штэйнер; мастак Т. А. Мельянец]. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 229 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-6994-59-6 (у пер.).

**Маліноўскі, М. М.** Квадра творчасці, альбо Чатыры сшыткі: [матэрыялы на краязнаўчыя тэмы] / Міхась Маліноўскі. — Мінск: Ковчег, 2011. — 319 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6950-85-1 (у пер.).

**Мінск – сталіца Беларусі** / [Н. Я. Гальпяровіч і інш.; рэдкалегія: Н. Г. Ваніна і інш.; фота В. В. Дняпроўскага і інш.]. — Мінск: Пачатковая школа, 2011. — 167 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6947-99-8. — ISBN 978-985-6947-98-1 (асобн. кн.) (у пер.). — ISBN 978-985-6988-01-4 (CD-R).

**Шчэрбацэвіч, А. П.** Вёска Палонка і навакolle / Алесь Шчэрбацэвіч; [автор предисловия Анатолий Денисейко]. — Брэст: Альтернатива, 2011. — 275 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 83 экз. — ISBN 978-985-521-269-1.

**Слутчина**: история и современность / Слуцкий районный исполнительный комитет. — Минск: БЕЛТА, 2011. — 95 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6828-68-6 (в пер.).

### Геаграфія. Падарожжы

**Галай, И. П.** География: термины и понятия: словарь для учащихся и абитуриентов / И. П. Галай, Е. И. Галай. — Минск: Белкартография, 2011. — 223 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-508-082-5.

**Гурьянова, Л. В.** Аппаратно-программные средства ГИС: компьютерный практикум для студентов географического факультета / Л. В. Гурьянова. — Минск: БГУ, 2011. — 179 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-317-5.

### Агульная геаграфія

**Еловичева, Я. К.** Проблемы физической географии: пособие для студентов географического факультета / Я. К. Еловичева. — Минск: БГУ, 2011. — 270 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-542-1.

### Геаграфія Беларусі

**Сікорскі, А. М.** Геаграфія Беларусі: ведай і ўмей: крыжаванкі, рэбусы, галаваломкі, займальныя заданні, падарожжа з картай / А. М. Сікорскі. — Мінск: Экоперспектива, 2011. — 151 с. — 800 экз. — ISBN 978-985-469-393-4.

### Біяграфічныя і падобныя даследаванні

**Папко, В. М.** Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX–XX стст. / В. М. Папко. — 2-е выд., папраўленае і дапрацаванае. — Брэст: Альтернатива, 2011. — 245 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 250 экз. — ISBN 978-985-521-258-5 (у пер.).

**Статкевіч-Чабаганаў, А. В.** Я – сын ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша», Карафа-Корбуты герба «Корчак» / Анатоль Статкевіч-Чабаганаў; [прадмова: У. Ліпскі]. — Мінск: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2011. — 589 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90254-1-9 (у пер.).

**Стецкевич-Чебоганов, А. В.** Я – сын ваш: Стецкевичи, Сацкевичи-Стецкевичи герба «Костеша», Карафа-Корбуты герба «Корчак» / Анатолий Стецкевич-Чебоганов; [предисловие: В. Липский]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2011. — 590 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-511-401-8 (в пер.).

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Актуальныя праблемы крыніцазнаўства айчыннай гісторыі**: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 450-годдзю віцебскага гарадскога права і 100-годдзю выдання першай кнігі зборніка «Полоцко-Витебская старина», Віцебск, 6–7 кастрычніка 2011 г. / [рэдкалегія: А. М. Дулаў (адказны рэдактар) і інш.]. — Віцебск: ВДУ, 2011. — 349 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Бібліяграфія ў канцы дакладаў. — 88 экз. — ISBN 978-985-517-314-5.

### Усеагульная гісторыя

**Боевое братство славян на защите мира**: сборник научных статей / Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Пивоварчик С. А. (гл. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 455 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 60 экз. — ISBN 978-985-515-432-8.

### Гісторыя зарубежных краін

**Колб, Е. Г.** Политика французских правительств и политическая борьба во Франции в 1988–2002 гг. / Е. Г. Колб. — Минск: БГУ, 2011. — 261 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-508-7.

**Костян, И. С.** Камневары страны гризли / Игнат Костян. — Минск: Право и экономика, 2011. — 164 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-979-3.

**Шабельцев, С. В.** Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев / С. В. Шабельцев. — Минск: РИВШ, 2011. — 92 с. — Часть текста на белорусском языке. — 80 экз. — ISBN 978-985-500-487-6.

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Пілецкі, В. А.** Вялікая Айчынная вайна савецкага народа (у кантэксце Другой сусветнай вайны): канспект лекцый: [для студэнтаў] / В А. Пілецкі; [Прыватная ўстанова адукацыі «Мінскі інстытут кіравання»]. — Мінск: МІК, 2011. — 267 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-775-8.

**Гуревич, Э.** Полевая почта 43177 Д: [воспоминания участницы Великой Отечественной войны] / Эсфирь Гуревич. — Минск: Право и экономика, 2011. — 106 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-978-6.

**Лазуркин, А. П.** Октябрьский поворот истории 1917-го: «за» и «против» / Лазуркин А. П. — Минск: Энциклопедикс, 2010. — 43 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6958-15-4.

**Леви, А.** Я вольная птица: [воспоминания] / Алла Леви; перевод с иврита Светланы Шенбрунн; [художник Ирена Бат-Цви]. — Минск: МЕТ, 2011. — 221 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-436-589-3 (в пер.).

**Павлович, Р. К.** Выходцы из белорусских губерний в годы русско-японской войны (1904–1905) / Р. К Павлович; [научный редактор В. В. Тугай]. — Минск: В. Хурсик, 2011. — 169 с. — Часть текста на немецком языке. — 110 экз. — ISBN 978-985-6888-61-1.




## Кнігарня «Акадэмкніга», г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Максім Багдановіч: энцыклапедыя. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2011.

*Персанальная энцыклапедыя, якая асвятляе жыццё і творчасць класіка беларускай літаратуры. У ёй змешчаны артыкулы, прысвечаныя лірычным творам паэта, перакладам, крытыцы, публіцыстыцы, паасобным жанрам, вобразам, артыкулы пра яго эстэтычныя погляды, сувязі з фальклорам і літаратурамі замежных краін, пра ўвасабленне багдановічаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры і кіно.*

2. Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы: успаміны, артыкулы, прысвячэнні. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.

3. Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI — XVIII стагоддзяў. — Мінск: Беларуская навука, 2011.

4. Беларуская літаратурная спадчына: анталогія. У 2 кн. — Мінск: Беларуская навука, 2011.

5. Александр Локотко и др. Туристическая мозаика Беларуси. — Минск: Беларуская навука, 2011.

6. Анатоль Бутэвіч. Таямніцы Мірскага замка. Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.

7. Беларусь. Краіны Еўропы. — Мінск: Міжнародны цэнтр культуры кнігі, 2011.

8. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.

9. Михаил Голденков. Огненный всадник. — Минск: Букмастер, 2011.

10. Яўген Сахута. Беларускае народнае мастацтва. — Мінск: Беларусь, 2011.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Пауло Коэльо. Алхимик. — Москва: Астрель, 2010.

2. Габриэль Гарсиа Маркес. Сто лет одиночества. — Москва: Астрель, 2011.

3. Джером Сэлинджер. Над пропастью во ржи. — Москва: Астрель, 2011.

4. Александр Солженицын. Архипелаг ГУЛАГ. Кн.1-3. — Москва: Азбука-классика, 2011.

5. Эрих Мария Ремарк. Тени в раю. — Москва: Астрель, 2011.

6. Джейн Остин. Гордость и предубеждение. — Москва: Мартин, 2011.

7. Дэн Браун. Утраченный символ. — Москва: Астрель, 2011.

8. Ронда Берн. Тайна. — Москва: Эксмо, 2011.

9. Михаил Веллер. Всё о жизни. — Москва: АСТ, 2011.

10. Джордж Мартин. Битва королей. — Москва: АСТ, 2011.

**Думаю, што насамрэч гэтак яно і ёсць: "ЛіМ" — як своеасаблівае акно ў літаратуру. Атрымаеш па падпісцы ці набудзеш у кіёску, разгорнеш — і, прачытваючы старонку за старонкай, бачыш перад сабою ўвесь літаратурны працэс… Таму і многія пісьменнікі, каб заўсёды ведаць, што ж адбываецца ў гэтым працэсе, іншымі словамі, каб пастаянна быць у курсе літаратурнага жыцця, падчас чарговай падпіскі перавагу аддаюць менавіта "ЛіМу". І яшчэ ёсць адзін момант… Цяжка знайсці пісьменніка, хто б хоць некалькі гадоў ды не папрацаваў у штотыднёвіку, і гэта ўжо адчуванне павечнай прывязанасці, я сказала б нават любові, калі "ЛіМ", як бы ў далейшым ні складвалася жыццё, усё роўна застаецца ў нейкай ступені тваім выданнем.**

# Акно ў літаратуру

Раіса БАРАВІКОВА,
фота Уладзіміра Крука

Асабістая мая любоў да "ЛіМа" завязалася на самым пачатку сямідзясятых, з месяцаў студэнцкай практыкі, калі яшчэ і не думалася, што ўсяго праз нейкія два гады стану супрацоўніцай рэдакцыі. Праўда, тады ўзнікла адна даволі істотная праблема. Было размеркаванне як маладога спецыяліста ў Саюз пісьменнікаў для далейшага ўладкавання на працу, але не было мінскай прапіскі, без якой уладкавацца было практычна немагчыма. І тут усё вырашыў вялікі аўтарытэт Івана Пятровіча Шамякіна, пра што мне да канца дзён ніколі не забыцца. Хведар Дзмітрыевіч Жычка, які тады быў галоўным рэдактарам "ЛіМа", пад яго націскам на працу мяне ўзяў, але, па-мойму, ад Саюза пісьменнікаў запатрабаваў нават нейкую паперу, што неўзабаве мне дадуць жыллё, а значыцца, і вырашыцца пытанне з прапіскай. Чаму я згадваю пра гэты момант?.. Напэўна, вінавата маладосць — юначыя мары, натхненне, акрыленасць, наіўная ўзнёсласць, але праз шмат гадоў дагэтуль жыве туга па тым часе, калі ўсё яшчэ было толькі наперадзе, але як грэлі душу тыя "маладыя гады — маладыя жаданні"! Вось і "ЛіМ"… Кожны дзень здаралася штосьці такое, што ўзрушвала, і як правіла, гэта быў прыход таго ці іншага вядомага пісьменніка, калі кожны абавязкова расказваў штосьці цікавае з пісьменніцкага жыцця, з нейкіх вандровак. Тады шмат куды пісьменнікі выязджалі: і на Дні літаратур той ці іншай рэспублікі, і ў складзе самых розных дэлегацый… У "ЛіМ" абавязкова прыносілі свае нататкі з гэтых падарожжаў, а расказвалі пра тое, што было "не для друку", і дзякуючы гэтаму усталёўвалася нейкая вельмі жывая, цёплая атмасфера, якая тады ўвогуле панавала ў пісьменніцкім асяродку.

Дзіўна, але ўсялякі прагрэс, рух наперад успрымаецца неяк вельмі звычайна і натуральна. Так… Было мінулае стагоддзе, у рэдакцыі былі адно пішучыя машынкі — не падняць! Былі дзяжурствы ў Доме друку, лінатыпныя машыны — у друкарні… Цяпер спрэс — камп'ютары, мабільныя тэлефоны! І гэтаму зусім не здзіўляешся. Дзівішся іншаму. Часам штосьці прыгадваеш з таго даўнішняга лімаўскага жыцця і міжволі думаеш: "Божа, ну няўжо гэта ўсё напраўду было… Адчыняліся дзверы кабінета — і ўваходзіў, скажам, Уладзімір Караткевіч ці Аркадзь Куляшоў… Альбо Еўдакія Лось ці, зрэдку, Іван Мележ, Андрэй Макаёнак, а то і Максім Танк!.." Як бы ні рухалася жыццё, якія б змены ў ім ні адбываліся, а паперадзе ўсяго заўжды стаіць Чалавек! Творца! Усё мінаецца і змяняецца — талент застаецца: і ў памяці, і ў стагоддзях… І гэта галоўнае, гэта аснова любой цывілізацыі, самая вялікая каштоўнасць і гонар.

Ну, а калі непасрэдна пра "ЛіМ", дык працаваць я пачынала стыльрэдактарам, змяніўшы Алеся Разанава, які перайшоў тады на рэдактарскую працу ў выдавецтва. Потым быў аддзел публіцыстыкі і трошкі пазней — аддзел пісьмаў і інфармацыі. А ўсё разам я назвала б гэта лімаўскай школай — добрай, патрабавальнай і грунтоўнай. Вучыцца было ў каго! Тымі гадамі ў штотыднёвіку я для сябе зрабіла адкрыццё, што вельмі тонкі і чуйны да паэзіі Мікола Гіль, якога мы ўсе ведалі як празаіка. Я на сваіх вершах, якія тады друкаваліся ў "ЛіМе", адчула, наколькі ў яго бездакорны слых, як ён умее адчуць паэтычнае слова, і адразу запісала яго ў настаўнікі, пра што Мікола Сымонавіч, можа, нават і не ведае. А Міхаіл Замскі! Ён загадваў аддзелам публіцыстыкі, і спачатку, як толькі пачала працаваць у яго ў аддзеле, пасылаў мяне зрабіць той ці іншы невялічкі рэпартаж. А што тычылася рэдагавання чужых матэрыялаў — аддаваць мне не спяшаўся. Мне ж вельмі хацелася выпрабаваць свае рэдактарскія здольнасці… А Міхаіл Маісеевіч паліў сваю люльку і ўсё марудзіў, марудзіў, а потым аднойчы, зусім для мяне нечакана, паклаў перада мною на стол даволі аб'ёмны матэрыял: "А ты ведаеш, цікавы нарыс… Але ўсе праўкі, калі ў цябе будуць, узгадні з аўтарам, хай прыйдзе ў рэдакцыю…" Гэта быў першы матэрыял, які мне давялося рэдагаваць у аддзеле публіцыстыкі, таму, відаць, і добра запомніўся: нарыс "Канвеер" — пра мінскі трактарны. Яго аўтарам быў Уладзімір Глушакоў, і, як потым высветлілася, гэты нарыс быў і яго першым нарысам. Менавіта з яго пачалася для мяне школа рэдагавання… А што да настаўнікаў у гэтай школе, дык акрамя Міхаіла Маісеевіча хочацца тут успомніць і Уладзіміра Львовіча Мехава, і Аляксандра Пятровіча Капусціна…



Вядома ж, пісаліся і ўласныя вершы, але лірыка, тым больш любоўная, у той час не надта ўхвалялася, я і не прапаноўвала іх да друку, насіла ў рэдакцыі часопісаў, а вось проста чытаць іх любіла, асабліва калі быў прыхільны слухач. І такім слухачом у "ЛіМе" сярод супрацоўнікаў быў для мяне Уладзімір Канстанцінавіч Федасеенка, які і цяпер нярэдка ўспамінае тыя мае радкі, а разам з імі і час сумеснай працы ў штотыднёвіку. Так, працавалі пісьменнікі старэйшых пакаленняў, але было многа і творчай моладзі: Алесь Марціновіч (мы амаль адначасова прыйшлі ў рэдакцыю), Людміла Крушынская, трошкі пазней — Святлана Берасцень, Марыся Гілевіч… Захавалася шмат фотаздымкаў з таго часу, якія нярэдка рабіў незабыўны Уладзімір Андрэевіч Крук. І, вядома ж, шмат што помніцца. Ну, хоць бы вось такі трошкі нязвыклы момант, што даволі рэдка бывае ў рэдакцыйнай практыцы. Патрэбен быў публіцыстычны матэрыял да 23 лютага — Дня савецкай арміі. У рэдакцыі вырашылі звярнуцца да пісьменніка, генерала Аляксеева. Міхаіл Маісеевіч папрасіў мяне пазваніць генералу і замовіць матэрыял. Званю, прашу напісаць, а той катэгарычна адмаўляецца, спасылаецца на недахоп часу, маўляў, цяпер ніяк не можа! Што рабіць? Вырашылі, што трэба яшчэ раз паспрабаваць пазваніць яму і папрасіць, каб генерал проста са мной пагутарыў, адказаў на пытанні, з чаго потым я і зраблю матэрыял — зразумела, за подпісам Аляксеева. Гэтак усё і адбылося, матэрыял я зрабіла, завезла вычытаць генералу, ён з усім пагадзіўся, і матэрыял пайшоў у друк… І вось праз некалькі тыдняў у наш рэдакцыйны кабінет з'яўляецца Аляксееў, выкладвае перада мною на стол, як цяпер помню, дваццаць два рублі і шэсцьдзясят капеек і з папрокам прамаўляе: "Дзяўчынка вы мая, у якое непрыгожае становішча вы мяне паставілі?! Я цалкам задаволены публікацыяй, але я гэтага не пісаў. Як маглі мне прыслаць ганарар, калі гэта не мая, а ваша праца. Вазьміце гэтыя грошы, я ні ў якім разе не магу іх прыняць!" І тут я разгубілася, пачала даводзіць, што гэта ўваходзіць у мае службовыя абавязкі, што за чыім подпісам ідзе матэрыял, таму бухгалтэрыя і налічвае ганарар. Што гэта ўсё яго словы, а я толькі запісала іх. Мяне падтрымалі супрацоўнікі, хто тады быў у кабінеце. Але генерал стаяў на сваім, у выніку я проста расплакалася. І Аляксееў узяў назад грошы, але літаральна праз паўгадзіны вярнуўся з неймаверна вялізнай каробкай цукерак, і мы зноў пачалі спрачацца… Апошняе слова ў гэтай спрэчцы засталося за пісьменнікам Аляксеевым, ён усё-ткі быў генералам! А галоўнае — чалавекам, які і дасюль вельмі добра мне помніцца.

У "ЛіМе" я адпрацавала ледзь не шэсць гадоў, і тая праца была вельмі карыснай школай. Але штотыднёвік — гэта ўсё-ткі газета, і той вопыт, які ў ёй назапашваўся, — найперш вопыт журналісцкай працы. Мне ж хацелася цалкам увайсці ў сваю творчасць і займацца толькі ёю. Нішто іншае, дарэчы, як сам "ЛіМ" падрыхтаваў мяне і падштурхнуў да такога рашэння. Так… З аднаго боку ён — акно ў літаратуру, а з другога… тое ж самае акно, праз якое, як птушка, адчуўшы сілу ў крылах, хочацца вылецець на прасцяг, на волю… Таму, як толькі ў 1977 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, я адразу ж напісала заяву на звальненне, пайшла на той самы "вольны хлеб", пра які заўжды мараць пісьменнікі, і пражыла на ім ажно чатырнаццаць гадоў. І ўвесь гэты час, як і цяпер, "ЛіМ" заставаўся адным з самых любімых выданняў, на старонках якога друкаваліся і мае вершы, і большасць апавяданняў, якія потым увайшлі ў кнігу "Вячэра манекенаў". А дзесьці ў канцы васьмідзясятых у штотыднёвіку былі надрукаваны і славуты "Рэквіем" Анны Ахматавай у маім перакладзе. І як не сказаць цяпер, у гэтым юбілейным нумары: "Дзякуй табе, дарагі "ЛіМ", што ты быў і ёсць у жыцці, і, вядома ж, будзеш… Для ўсё новых і новых пакаленняў, як пісьменнікаў, так і тваіх чытачоў!" Я ў гэта веру.

## *Школа добрых пачуццяў*

# Добры паэт

Раіса БАРАВІКОВА

Пра "ЛіМ" на самым пачатку майго літаратурнага шляху мне шмат расказваў Анатоль Грачанікаў, і не проста расказваў, а і час ад часу даваў чытаць асобныя нумары. Я — студэнтка, ён быў слухачом, як тады казалі, Вышэйшых літаратурных курсаў пры Маскоўскім літінстытуце і два гады, на працягу ўсёй той сваёй вучобы, жыў у нашым студэнцкім інтэрнаце. Можа, ён падпісваўся і яшчэ на нейкія выданні, але мне заўжды прапаноўваў пачытаць менавіта "ЛіМ", маўляў, вось тая асноўная пляцоўка, з якой можна дазнацца пра ўсё літаратурнае жыццё: тут і паэзія, і проза, і крытыка, і шмат самай рознай інфармацыі пра пісьменнікаў, хто што выдаў, дзе і якія літаратурныя сустрэчы адбыліся… І сапраўды, чытаць "ЛіМ" заўжды было вельмі цікава. Таму і не дзіўна, што па прыездзе ў Мінск на некалькі месяцаў пераддыпломнай практыкі ў Саюзе пісьменнікаў я папрасілася менавіта ў гэтае выданне… І як жа была ўзрадавана, калі пачула, што аддзелам літаратуры, куды я размеркавалася, загадвае Анатоль Сямёнавіч Грачанікаў!

Мне шмат што дала тая студэнцкая літаратурная практыка. Яна была своеасаблівымі ўводзінамі ў нашу літаратуру. З першага дня Грачанікаў узяў за звычку даваць мне чытаць ужо ім самім падрыхтаваную да друку нізку вершаў таго ці іншага паэта, пры гэтым заўжды прамаўляў: "Вазьмі і вельмі ўважліва прачытай… Добры паэт!" Вось тады я і пабачыла, як многа ў нас добрых паэтаў! Зразумела, ёсць і шмат добрых празаікаў. І Міхась Стральцоў, які тады ў лімаўскім літаратурным аддзеле адказваў за прозу, паглядзеўшы на Грачанікава, таксама пачаў даваць мне прачытаць тое ці іншае апавяданне, якое ён рыхтаваў, але ўжо пры гэтым казаў па-свойму: "Хм-м… Цікавы празаік!" — альбо: "Можа атрымацца цікавы празаік!" І ўсё ж: добры паэт! — гучала часцей, таму што ў кожным нумары, як і цяпер, друкавалася некалькі паэтычных падборак. І ўжо праз некалькі гадоў, калі пасля заканчэння інстытута я прыехала ў Мінск і сама пачала працаваць у "ЛіМе", а Анатоль Грачанікаў тым часам ужо быў сакратаром Саюза пісьменнікаў, ён неяк падпісаў мне адзін са сваіх паэтычных зборнікаў і пры выпадку запытаўся: "Ну як табе мая кніжка?"… Я адказала яму яго ж словамі: "Добры вы паэт, Анатоль Сямёнавіч!"

І сапраўды, вельмі добры паэт Анатоль Грачанікаў. У яго трагічны лёс: загінуў у яшчэ даволі маладым узросце, што называецца, у самую-самую пару літаратурнага ўздыму і сталасці. Напісаў з дзясятак выдатных кніг паэзіі, стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Ленінскага камсамола, якая ў той час была вельмі прэстыжнай. А самае галоўнае: праз час, калі мінулася ўжо амаль некалькі дзясяткаў гадоў, яго паэзія нічога не страчвае. Яна застаецца цудоўнай! Перада мною дзве кніжкі Анатоля Грачанікава: "Грыбная пара" і "Палессе". Адна выходзіла ў 1973 годзе, другая праз дзесяць гадоў — у 1983-м. Але па сваіх мастацкіх вартасцях яны выключна роўныя. "Усё часова на зямлі, часова… // Але жыве дзіцячы смех і слова, // у небе — сонца, пад гарой — крыніца, // і завязі жывая таямніца…", — можна прачытаць радкі ў адным з вершаў у кнізе "Грыбная пара", а ў "Палессі" не могуць не крануць "Актавы кахання" альбо вось гэтая страфа: "…Якія хмары ні плылі, // якая ні пякла спякота, // але не зніклі на зямлі — // надзея, радасць і пяшчота". Менавіта гэтыя пачуцці, без якіх ну ніяк нельга ў жыцці, чытач і знойдзе ў паэзіі Анатоля Грачанікава.

А ў мяне асабіста ёсць яшчэ адзін успамін… Дзесьці напрыканцы васьмідзясятых рэдакцыя музычных перадач Рэспубліканскага радыё ладзіла творчую вандроўку — сумесныя выступленні спевакоў, кампазітараў, паэтаў па Міншчыне і Магілёўшчыне. І так здарылася, што Анатоль Грачанікаў і я ад пісьменніцкага Саюза сталі ўдзельнікамі той цікавай вандроўкі. Помню, тады, уладкоўваючыся ў аўтобусе побач, мы з Грачанікавым заспрачаліся, каму сядзець каля акна. Я адстойвала сваё, маўляў, вельмі люблю глядзець у прасцяг і пра нешта думаць, ён казаў тое ж самае, але ўрэшце саступіў мне жаданае месца. Я і да гэтага часу заўжды стараюся сесці каля акна… Не ведаю, што калісьці будзе з маёй паэзіяй, але радкі Анатоля Грачанікава, як і пры яго жыцці, працягваюць бегчы, бруіцца чыстай крыніцай у свой прасцяг… Гэта і ёсць неўміручасць Паэзіі.

## Мастак і кніга

# Вернасць жанру

**У маім дзяцінстве, дарэчы, гэты жанр меў тысячы прыхільнікаў. Дастаткова прыгадаць толькі папулярныя часопісы "Крокодил" і "Вожык". Ды і астатнія выданні часта друкавалі малюнкі "на злобу дня". Мова ліній, пры дапамозе якіх стваралíся вобразы, злоўленае літаральна некалькімі штрыхамі падабенства… Засталіся ў памяці прозвішчы: Х. Бідструп, Кукрыніксы...**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

## Лаканічная мова ліній

Знаёмае прозвішча заўважыла і на карашку адной з кніг, якіх нават на працы ў Алега Карповіча некалькі палічак. Мастак, малюнкі якога — водгук на актуальныя падзеі ў штодзённай газеце "СБ — Беларусь сегодня", шмат гадоў верны рэдкаму цяпер жанру сатырычнай графікі. Сам ён напаўжартам расказвае, як 7 гадоў таму перапалохаў маладзенькую журналістку з тэлебачання, калі ў эфіры сфармуляваў: "Карыкатура патрэбна толькі падчас вайнаў і рэвалюцый. А гэта значыць — заўсёды. На жаль, сусветная гісторыя толькі пацвярджае гэта".

Школьнікам хіба што не начаваў у раённай бібліятэцы, перагортваючы старонкі падшывак гумарыстычных выданняў ды разглядаючы альбомы карыкатур Дамье, Кукрыніксаў, Бідструпа. Сын настаўнікаў, Алег вырашыў стаць менавіта мастаком дзякуючы чалавеку, што першы прафесійна вучыў маляваць, — Уладзіміру Шэферу, у якога страшны 1941 год адабраў магчымасць закончыць апошні курс Сурыкаўскага вучылішча. А потым лёс дарогамі вайны і вайсковай часці, у якой ён служыў, з Расіі праз Польшчу і Германію прывёў у Слонім. Гэта ён паставіў першы нацюрморт і навучыў адбельваць алей, дапамог зрабіць першую палітру і падзяліўся фарбамі. І гэта яму, быццам на справаздачу, Алег привозіў спачатку з "глебаўкі", а потым з інстытута свае курсавыя работы — слова мудрага майстра шмат значыла…

Як усе творчыя людзі, Карповіч не можа прапусціць добрай кніжкі. Перада мной з'яўляецца яшчэ адзін альбом. Зноў Мінск? Такія пазнавальныя па стылістыцы будынкі! Мастак тлумачыць: "Гэта Ташкент да землятрусу — ён быў вельмі падобны на наш горад — сапраўдны Горад сонца! Аднаўляючы пасляваенны Мінск, дойліды не мудруючы ўнослі ў аблічча сталіцы Беларусі ўсе лепшыя архітэктурныя напрацоўкі, што былі ў Савецкім Саюзе да пачатку 1950-х. Атрымаўся сапраўдны сінтэз савецкай архітэктуры".

Сёлетняя ХІХ Мінская Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш падарыла яму сустрэчу з выданнем "Парыж" у сатырычных малюнках. Можна ўбачыць горад і так, выцягваючы з будзённасці характэрныя рысы, мяняючы перспектыву, трошкі перабольшваючы. Жанчыны, дзеці, паліцэмены і клашары — насельнікі парыжскіх вуліц, сусветна вядомыя і мала прыкметныя воку, але такія любыя парыжанам куточкі іх сталіцы у дзень і ноччу, у дождж і сонечную спёку. Не рэкламна-бліскуча-пампезны, а жывы, сапраўдны Парыж!

"Ведаеце, я некалі такім чынам маляваў Мінск. Дзякуючы гэтым малюнкам і трапіў на факультэт графікі. На абароне вучылішчнага дыплома паказваў "абавязковую праграму" — работу алеем — і чамусьці вырашыў прадэманстраваць выкананую тушшу (для душы) кампазіцыю на тэмы малюнкаў, што з натуры рабіў у старым Мінску. Васіль Шаранговіч, у той час загадчык кафедры графікі, як толькі ўбачыў, адразу прапанаваў: "Прыходзь да нас, на графіку". Такім быў першы крок да справы ўсяго жыцця.







**Візітка:**

*Алег Карповіч нарадзіўся ў 1960 годзе ў Ляхавічах, жыў у Слоніме, закончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава і факультэт графікі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (сёння — Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Аформіў нямала кніжак, удзельнічаў у розных выстаўках: экслібрыса, плаката, станковай і кніжнай графікі, карыкатуры.*

*Лаўрэат Гран-пры Міжнароднага экслібрысцэнтра Бельгіі, дыпламант шэрагу конкурсаў на лепшую кнігу Беларусі, аўтар ілюстрацыйшаржаў да кнігі Міколы Шабовіча "Хор болей не спявае". Галоўнымі кірункамі творчасці мастака з'яўляюцца сяброўскі шарж і карыкатура.*

## Перыёдыка як лёс

А потым, у 1980-я, для працы ў часопісе "На экранах Беларусі" яго запрасілі на пасаду мастацкага рэдактара, таму што валодаў не толькі пёркам і майстэрствам рэжысуры друкарскіх выданняў, але і беларускай мовай.

"Гэта быў рэдкі шанц — я тады не меў мінскай прапіскі і ўладкавацца мог хіба школьным лабарантам. Рэдакцыі часопісаў "Маладосць", "Бярозка", "Вожык" і амаль усіх цэнтральных газет былі побач — у старым будынку Дома друку. Прапанавалі зрабіць малюнкі і для іх. Менавіта тут пачалося маё шматгадовае сяброўства з супрацоўнікамі гэтых выданняў — Анатолем Грачанікавым, Анатолем Казловым і іншымі. Гэта былі рэдкія людзі. Помню, Грачанікаў паглядзеў некалькі маіх работ і сказаў адказнаму сакратару: "Не губляйце дарма часу, не прыходзьце да мяне кожны раз на ўзгадненне, я вам давяраю, ведаю — усё будзе добра".

Нават калі пайшоў пасля інстытута служыць у армію (апынуўся ажно ў Волагдзе), атрымліваў поштай заданні і гэтак жа адсылаў малюнкі. Ганарары за іх былі істотнай падтрымкай маім жонцы і маленькаму сыну. (Калі я скончыў інстытут, мне было 25 гадоў і ўжо меў сям'ю.)

Па ініцыятыве супрацоўніка "ЛіМа" Алеся Гаўрона ў газеце з'явілася знакамітая "13-я паласа". Доўга трымалася на яго энтузіязме. Вакол яго згуртаваліся аўтары, вострыя "рэплікі" якіх на розныя падзеі я перакладаў на мове карыкатуры. Потым не стала Гаўрона, адказнымі за паласу былі розныя людзі, знакамітыя паэты, але праз некаторы час яна знікла. Чаму? А. Гаўрон ведаў і верыў у звышідэю "13-й паласы" (у нас з ім была распрацавана, як гэта цяпер модна гаварыць, канцэпцыя гэтай газетнай старонкі). Ён разумеў, што адна газетная палоска ў месяц, адданая пад афарызмы, літаратурныя пародыі і шаржы на работнікаў культуры і іх творы не тое што не замінае друкавацца майстрам "высокага" мастацтва — наадварот! Яна эканоміла дзясяткі газетных палос, якія трэба было б аддаць пад тое, каб у звычайным журналісцкім фармаце раскрыць чытачу вочы на той ці іншы твор, на тую ці іншую персону. Трапны афарызм з карыкатурай — гэта ж як трапны стрэл з дубальтоўкі! Ці сапраўдны віншавальны салют. Хто чаго заслугоўвае. Я ведаю, што Гаўрон спрабаваў данесці гэтую ідэю, марыў нават рабіць выстаўкі "13-й паласы" ў сценах рэдакцыі. Але не ўсё яго разумелі".

Пра асабістыя зносіны з Гаўронам Алег Карповіч узгадвае з цеплынёй: "Уявіце сабе, калі я зламаў нагу, Алесь прывозіў мне заданні на дом (не кожны адказны сакратар здольны на такое: я, начальнік, буду яшчэ тэксты развозіць!), тэлефанаваў: "Табе трэба хадзіць, так што чакаю цябе ўнізе, у альтанцы, прыпаўзай". Адразу і ўявіць было страшна, як гэта сысці з трэцяга паверха з загіпсаванай нагой, на мыліцах. Ледзь не праз слёзы зірнуў праз акно ўніз, а ён сядзіць у альтанцы і махае мне рукой — чакае. Давялося ісці".

Прашу прыгадаць які-небудзь нешараговы выпадак, звязаны з малюнкам.

Алег Іванавіч расказвае: "Карыкатурыст, як і кожны мастак, павінен прачуць матэрыял душою, сэрцам. Іншым часам проста дакументальна адчуваеш вобраз, намаляваны таленавітым словам. Аднойчы ішоў матэрыял з серыі пра крымінал. Расказвалася пра дзяўчынку-ахвяру, і было даручана зрабіць малюнак, бо фота змяшчаць было некарэктна. Я ніколі яе не бачыў, але на маім малюнку атрымалася знешняе падабенства, маці звярнулася са скаргай у газету, маўляў, абяцалі ж, што па публікацыі дачку не пазнаюць тыя, з кім сям'і кожны дзень прыходзіцца сустракацца".

На шчасце, ёсць выданні, якія ў апошнія дзесяцігоддзі не адмовіліся кантактаваць з чытачом на мове карыкатуры, шаржу, граматнага малюнка і ўвогуле — газетнай графікі. У сучасным свеце хапае тэм. Можа, некалі і ў нашу газету вернецца слаўтая "13-я паласа"? На пытанне, пры якіх умовах яе магчыма адрадзіць, Алег Карповіч адказвае: "Толькі калі з'явіцца асабіста зацікаўленая асоба. Тады і аўтары збяруцца. І я з задавальненнем паўдзельнічаю ў праекце. Няхай бы гэта паласа стала помнікам яе пачынальніку — Алесю Гаўрону".




***На здымках: вокладка да кнігі Міколы Шабовіча, карыкатуры на літаратурную тэму.***

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА




**Сямнаццатай вясной: зборнік сучаснай беларускай прозы і крытыкі / уклад.: Лада Алейнік, Мікола Мінзер. — 2-е выд., папраўл. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 192 с.**

Першае выданне гэтага зборніка пабачыла свет у мінулым годзе. Яно знайшло свайго чытача — зацікаўленага, крэатыўнага настаўніка і дапытлівага вучня. І вось — новае выданне кнігі. Тут пад адной вокладкай сабраны хрэстаматыйныя творы, літаратуразнаўчыя артыкулы, а таксама расповеды пра жыццёвы і творчы шлях пісьменнікаў. Яны дапамогуць настаўніку арганізаваць працу на ўроку, а вучню — лепш засвоіць матэрыял. Змест кнігі склалі творы, што вывучаюцца ў адзінаццатым класе сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Гэта аповесць Васіля Быкава "Пакахай мяне, салдацік", апавяданні Івана Навуменкі "Сямнаццатай вясной", "Хлопцы самай вялікай вайны", Івана Чыгрынава "Дзівак з Ганчарнай вуліцы", "У цікім тумане", Міхася Стральцова "Двое ў лесе", "На чацвёртым годзе вайны".




**Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: гісторыя і сучаснасць: зборнік навуковых прац / Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў; склад. Л. І. Доўнар, Т. А. Самайлюк. — Мінск, 2011. — 348 с.**

Спецыяльныя выданні, цалкам прысвечаныя кніжнай культуры — рэдкасць для Беларусі. Таму выхад гэтай кнігі — сапраўдны падарунак бібліёфілам. У зборнік увайшлі матэрыялы даследчыкаў з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, ЗША па тэорыі кнігазнаўства, гісторыі і сучасным стане кнігавыдання, бібліятэчнай справы, чытання, распаўсюджвання і мастацтва афармлення кніг, кнігазбораў. Сярод аўтараў зборніка — вядомыя даследчыкі Юры Лаўрык, Ларыса Доўнар, Алесь Суша, Аляксандр Сцефановіч і іншыя, а ў якасці аднаго з рэцэнзентаў выступіў доктар кнігазнаўства, прафесар Кшыштаф Міганъ.




**Пясецкі, С. Пяты этап / Сяргей Пясецкі; пераклад з польскай і прадмова Я. Янушкевіча. — Мінск — Варшава: Выдавецтва літаратараў і журналістаў Pod Wiatr, 2011. — 294 с.**

Гэты раман — першая кніга празаіка. Ён быў напісаны ў 1934 годзе, але рукапіс не прапусціла турэмная цэнзура, таму твор выйшаў у свет толькі пасля з'яўлення іншага, цяпер ужо вядомага рамана Пясецкага "Каханак Вялікай Мядзведзіцы". Як і іншыя кнігі гэтага аўтара, раман захапляе, бо ў ім распавядаецца пра жыццё мытнікаў на ракаўска-стаўпецкім памежжы, а таксама пра шпіёнска-дыверсійныя калізіі, а пра іх заўсёды ох як цікава чытаць!




**Акунин, Б. Любовь к истории / Борис Акунин. — Москва: ОЛМА Медиа Групп, 2012. — 304 с.**

Хто сказаў, што інтэрнэт перашкаджае развіццю літаратуры, а электронныя кнігі выцясняюць традыцыйныя? Па сутнасці, яно так і ёсць, але выхад гэтага выдання — добрая ілюстрацыя сімбіёзу двух рознаскіраваных жанраў і спосабаў існавання тэксту. Так, гістарычныя мініяцюры, што ўвайшлі ў кнігу, былі напісаны папулярным аўтарам для яго блога. Але і ў кнізе яны глядзяцца досыць гарманічна і чытаюцца лёгка. Тым больш што тэксты суправаджаюцца шматлікімі ілюстрацыямі і каментарыямі наведвальнікаў блога ў інтэрнэце.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**




# Прышэлец, альбо Гульня ў хованкі

## *Апавяданне-фэнтазі*

Паліна Сяргееўна, а лепш проста мама Поля, як яе ласкава нярэдка называлі сямейнікі — сын Віця і муж Аркадзь Нічыпаравіч, — прачнулася раптоўна, так моцна хтосьці драпаўся ў зачыненыя балконныя дзверы. "Пэўна, птушка нейкая прыбілася, — прамільгнула імгненная думка. — Не зачыняла ж на ноч акно на балконе. Вось і заляцелі хутчэй за ўсё галубы, каб чым-небудзь пажывіцца!" Але мама Поля памылялася, таму што тут жа за балконнымі дзвярыма пачулася гучнае і надзіва пранізлівае, ажно скаланулася сэрца: "Мя-я-яў!" Гэта было як покліч: ратуйце! Паліна Сяргееўна зараз жа падхапілася: кошка! Відаць, іхняя кошка! Хто ж яе мог зачыніць на балконе?! Як такое магло ўвогуле адбыцца? Калі яна сама ўкладалася спаць, добра памятае, што кошка Люся ўжо ляжала на сваім дыванку ў прыхожым пакоі. І вось на табе! Як жа гэта?! Яна ж можа выскачыць у расчыненае акно, возьме і скочыць уніз?! "Мя-я-яў!" — але ўжо больш спакойна адазвалася за дзвярыма кошка, быццам пацвердзіла гэтыя думкі мамы Полі: "Ну вядома, магу і скочыць! Ці ж гэта вышыня для кошкі: скокнуць з другога паверха?!"

Паліна Сяргееўна ўключыла святло і амаль запрычытала: "Коцечка наша, коця… Люсечка, дарагая! Хто ж цябе там зачыніў, бедную! А ты ж ужо спала на дываночку сваім!.." З гэтым прычытаннем яна і адчыніла балконныя дзверы, чакаючы, што кошка Люся ўмомант куляю вылеціць з іх. Але ніхто не вылецеў. Затое ў пакой зазірнуў Аркадзь Нічыпаравіч і прамармытаў незадаволена і сонна:

— І што гэта ты пасярод ночы робіш на балконе, га-а?! З табою ўсё добра?! Толькі разаспаўся… А тут — ляскатня… А ў мяне заўтра заказчык прыязджае… Кантракт перагледжваем!

— Дык жа… Аркадзь… Люська на балконе!

— Спаць ідзі! — у голасе мужа чулася абуранасць. — Якая табе Люська! Кошка вунь спіць у сваім кутку! І вухам не вядзе!

Аркадзь Нічыпаравіч моцна бразнуў дзвярыма, а мама Поля сумелася… Праўда, на ўсякі выпадак выйшла на балкон і прычыніла балконнае акно. А калі ўжо ляжала ў ложку, дык і занепакоілася: муж запытаўся, ці ўсё з ёю добра. Дык можа, гэта на яе неяк па-асабліваму нязвыклая летняя гарачыня гэтак уздзейнічае?! Чэрвень вельмі спякотны… Але чулася ж ёй! Вельмі выразна чулася, і як нехта скробся… І потым гэтае дзікае мяўканне!.. З пачуццём вялікага недаўмення яна і заснула, а калі прачнулася, дык адразу зразумела, што спала доўга…

"А як жа Віця?! Я ж бутэрброды яму ў дарогу зрабіць хацела! — адна на адну набягалі думкі. — У яго ж сёння службовая камандзіроўка ў Гомель! Казаў, што недзе а сёмай і выедзе! А ўжо ледзь не восем…"

Ускочыла з ложка, накінула на плечы халацік і кінулася на кухню, на хаду зашпільваючы гузікі. Даткнулася да электрачайніка: халодны! Відаць, і гарбаты не паспеў выпіць… Ды, напэўна, і Аркадзь каву не піў. А ўсё з-за яе! Дакладней, з-за гэтага начнога здарэння! Ва ўсіх сон перакалаціўся. Яна заспала, заспалі і сын з мужам… Збіраліся, спяшаліся на злом галавы, адзін — у камандзіроўку, другі — на сустрэчу з заказчыкам… Адна Люська выгінаецца, трэцца каля ног! Нахілілася, каб пагладзіць кошку, якая адразу ж завуркатала, дык так і застыла…

Са свайго пакоя выйшаў Віця ў незашпіленай кашулі і неяк залішне бадзёра кіўнуў ёй:

— Добрай раніцы, мамачка! Харошая ты мая, мама Поля, добрай раніцы…

Ёй здалося, што апошнія словы ён нібыта праспяваў. Імгненна разагнулася, уважліва паглядзела на сына:

— А як жа камандзіроўка? Віктар, ты ж казаў, што ў Гомель трэба… Ты ж учора і заправіўся з вечара, каб сёння не заязджаць на запраўку, а зусім раненька выехаць!

— А-а?! Кажаш, камандзіроўка? Ну, вядома ж… Вядома… Ты ведаеш, я перадумаў… — Ён падышоў да ваннага пакоя, спыніўся. — Ага… Перадумаў! Ты прагноз надвор'я чула?! Сёння — навальніцы… Абяцаюць моцныя дажджы і па Міншчыне, і па Гомельшчыне… Дык хто ж у навальніцу едзе ў камандзіроўку, ды яшчэ і на сваім транспарце!

Ён зайшоў у ванны пакой і тут жа выглянуў:

— А навальніцы будуць… Вось пабачыш! Абавязкова будуць! Чайнік уключы, калі ласка...

Яна ўключыла чайнік і ў гэты ж момант пачула, як у яе пакоі зазваніў мабільнік. Кінулася ў пакой з думкай, што, можа, Аркадзь тэлефануе, можа, нешта пільнае. Але тэлефанаваў не Аркадзь Нічыпаравіч. Званок быў з турыстычнага агенцтва, дзе яна зрэдку падзарабляла ў якасці перакладчыцы. Паведамілі, што дзесьці ў канцы чэрвеня маецца быць сям'я аднекуль з поўдня Францыі, дык ці зможа яна на некалькі дзён ад'ехацца з імі на Браслаўскія азёры? Яны на гэты маршрут просяць перакладчыка.

Ну канечне… Канечне, яна зможа! Хіба можна адмовіць сям'і з поўдня Францыі, якая хоча пабавіць час на Браслаўскіх азёрах! Ні ў якім разе!

Але адказвала Паліна Сяргееўна, не ўдаючыся ў падрабязнасці, ды, зрэшты, асабліва і не слухаючы, што там хто просіць. Яе вельмі ўстрывожыў Віктар, і інтанацыі голасу, і тое, што, практычна без дай прычыны, адмяніў камандзіроўку, у якую павінен быў ехаць ад фірмы, дзе працуе менеджарам. Дык гэта ж патрэбна было нейкім чынам узгадніць з кіраўніцтвам!

— Я ўсё зразумела. Абавязкова заеду. Падпішу дамову. Да пабачэння!

І з палёгкай уздыхнула: зараз не да тэлефонных размоў! Трэба разабрацца з сынам: чаму ён усё-ткі вырашыў не ехаць у гэтую камандзіроўку?! Гм-м… Навальніцы! Калі сур'ёзна, дык хіба гэта прычына?!

Яна выйшла з пакоя і адразу ж гукнула:

— Віця, ты дзе? Яшчэ ўмываешся?

Але ніхто не адазваўся. Зазірнула на кухню, паціснула плячамі:

— Можа, ён у сябе?

Але Віктара не было і ў яго пакоі. "Трэба ж, як хутка знік, пабачыў, што спазняецца, і паляцеў"… І тут да яе данёсся нейкі дзіўны гук. Прыслухалася… Ну далібог жа, рыпіць канапа ў мужавым пакоі. Прачыніла дзверы, зазірнула і войкнула, закрычала:

— Аркадзь! Ды што ж гэта сёння такое?! Яшчэ ў ложку? А ў цябе ж заказчык… Ужо недзе чакае там, у лабараторыі. А ты тут яшчэ спіш!

— Што?.. Які заказчык? — высунуў галаву з-пад коўдры Аркадзь Нічыпаравіч. — Прашу цябе, адчапіся. — І ён павярнуўся на другі бок, зноў нацягнуўшы коўдру на галаву.

І Паліна Сяргееўна не вытрымала. Хутка падышла да канапы, дзе ляжаў муж, і рашуча сцягнула з яго коўдру:

— Зараз жа паднімайся! Кантракт можа згарэць!

— Ага-а, можа! — сонна пагадзіўся муж і падняўся…

Мама Поля пайшла ў свой пакой. У думках, што Аркадзь Нічыпаравіч заспаў, вінавацiла сына: "Ну добра, я заспала, але калі выйшла на кухню, ён жа ўжо не спаў! Мог бы пабудзіць бацьку! Звычайна ж з-за душа сварацца, каму першаму ісці! Падзяліць душ не могуць! А тут нават не пацікавіўся, чаму бацька не выйшаў са свайго пакоя! Ну я зараз патэлефаную…"

Яна ўзяла мабільнік, села на канапу, пачала набіраць сынаў нумар, адкашлялася, каб голас быў чыстым і гучным.

— Алё-ё… Віця! Ты мяне чуеш?! А што гэта за гул там у цябе, ну нічагусенькі не чую! На якой ты трасе? На звычайнай? — мама Поля зрабіла паўзу і зноў запыталася. — Дык ты што… Усё ж паехаў у камандзіроўку?! Што-што?.. Засталася толькі нейкая гадзіна да Гомеля?.. — Зноў зрабіла паўзу. — Я не ачулася? Ты праўду кажаш? Ужо дзве гадзіны едзеш па трасе? Ненармальны! — крыкнула сыну і шпурнула мабільнік на канапу.

На нейкае імгненне затрымалася, спрабуючы разабрацца, што ж такое гэтай раніцай адбываецца, але тут жа падхапілася з канапы і кінулася ў пакой да мужа:

— Арка-а-адзь!

Калі пабачыла акуратна засланую стракатым дыванком канапу, міжволі падалася назад…

— Аркадзь, ты на кухні?

Але Аркадзя Нічыпаравіча не было ні на кухні, ні ў ванным пакоі…

"І як жа гэта ён мог паспець за нейкія тры хвіліны, пакуль я размаўляла з Віцем, апрануцца, памыцца і пайсці ціхенька,



цалкам бязгучна?! Я ж не чула, каб адчыняліся дзверы! — гэтыя думкі бы апяклі яе, і мама Поля кінулася на балкон… — Можа, яшчэ не паспеў з пад'езда выйсці?" Як мага шырэй расчыніла балконнае акно, высунулася ў яго… Заўважыла, што з усходу на Мінск нацягваецца цяжкая цёмна-сіняя хмара, там ужо і маланкі бліскалі: — Вось табе і навальніца! — гэтую апошнюю фразу прамовіла ўслых. І ў тое ж імгненне ззаду пачулася неймаверна гучнае: "Мя-я-яў!" Паліна Сяргееўна нават не паспела азірнуцца, гэтак імкліва міма яе праляцела штосьці бялюткае і вельмі пушыстае. Гэта яна добра заўважыла, але як праляцела, так і знікла за акном…

— Кацяня! — выдыхнула яна. У пакоі было кацяня. Яно і скрэблася ноччу, і мяўкала! Толькі ж адкуль узялося яно ў кватэры?! Можа, сама і ўпусціла, як выходзіла ўчора ў магазін, не заўважыла, як прашмыгнула… Тут жа іх процьма каля пад'езда… бяздомных, нічыйных! І хоць ці не разбілася яно? Трэба выйсці ў двор, паглядзець… Як-ніяк жывая істота!..

Мама Поля так і зрабіла… У двары якраз пад іхнім балконам рос невялікі куст язміну, каля якога яна і спынілася. Агледзелася… З-пад машыны, якая ўжо гатова была ад'ехаць, выскачыў вялікі і тоўсты рыжы кот. З суседняга пад'езда выйшла жанчына з гаспадарчай сумкай у руках, відно, спяшалася ў магазін, каб паспець да дажджу. "Не паспее!" — падумалася Паліне Сяргееўне, таму што цяжкая хмара ўжо вісела над іхнім домам і гром з перакатам правуркатаў проста над ёю. Якраз у гэты момант яна і пачула зусім блізка ціхае "Мя-яў"… Зараз жа разгарнула куст і заўсміхалася ад замілавання:

— Беднае, беднае кацяня… Якое ж ты пушыстае і ўсё беленькае, нідзе аніякай плямкі… Ну ідзі, ідзі да мяне на рукі…

І кацяня пайшло, прыціснулася да яе. "Свойскае, — тут жа падумалася ёй. — Дзікае нізавошта б не далося, каб узялі яго! Ну і што цяпер? Трэба несці ў кватэру, калі ўчора само змагло нейкім чынам ушчаміцца ў яе. Весялей будзе Люсьцы!"

Праўда, кошка Люся гэтак не думала. Таму што, як толькі мама Поля зайшла ў кватэру з кацяняткам у руках, Люська адразу ж уся натапырылася, выгнула хвост дугою, нават зашыпела…

— Зараз жа сціхні, Люся!.. Пашыпіш, пашыпіш і прывыкнеш! — Паліна Сяргееўна прыкрыкнула на кошку і прайшла ў свой пакой. Пасадзіла кацяня на падлогу, і яно нікуды не шмыгнула, так і засталося сядзець проста перад ёю.

— А ў цябе вочы зялёныя-зялёныя, мілае ты маё, — сказала мама Поля і села на канапу. Узяла мабільнік, хутка набрала нумар мужа:

— Алё-ё…

— Перазвані пазней, я заняты! У нас яшчэ тут ідуць перамовы. Не стаў цябе будзіць, як сыходзіў, — і Аркадзь Нічыпаравіч адключыўся.

Мама Поля паглядзела на кацяня і глядзела доўга-доўга… Яна думала, аднаўляючы ўсё, што адбывалася гэтай раніцай ад пачатку, ад таго самага моманту, калі яна толькі-толькі прачнулася… І самыя розныя думкі віраліся ў яе…

— Ты не кацяня, — зусім нечакана нават для сябе, нарэшце прамовіла мама Поля. — Ты — прышэлец! Цікава, і з якіх жа далёкіх светаў?

Кацяня жаласна мяўкнула. Мама Поля схілілася над ім:

— Ты "Кіцікэт" ясі?

Кацяня злёгку варухнула вушкам…

— Значыцца, ясі!.. — І Паліна Сяргееўна ўзяла яго на рукі. — Зараз на кухню пойдзем, там яшчэ, здаецца, пакецік застаўся. Люсьцы на сняданак рыбу дам.

Яна зазірнула ў зялёныя вочы кацяняці і працягнула:

— Ну і калі ты ўжо прышэлец, дык Прышэльцам і заставайся. Толькі чуеш, без выбрыкаў, без усялякіх гульняў у хованкі… Сёння ты ў вобраз Віцькі схаваўся, а заўтра кракадзіл мяне на кухні можа сустрэць! Прывыкай жыць па-людску… Чуеш? Ты ўсё зразумеў, Прышэлец?!

І ў той жа момант гучнае, нават радаснае "Мя-я-яў!" патанула ў шуме моцнага ліўня, які літаральна ўсё заглушыў сабою, акрамя аднаго… Паліна Сяргееўна чула, як моцна б'ецца маленькае сэрца Прышэльца, і ад гэтага яшчэ мацней прыціснула кацяня да сябе.

*Малюнак Марысі Лось*

# У лютым 1957-га...

## Са згадак старога і ўдзячнага лімаўца

Анатоль САБАЛЕЎСКІ,
доктар мастацтвазнаўства,
прафесар

**На пачатку лютага 1957 года, 55 гадоў таму (вось і яшчэ адзін юбілей!), я быў прыняты на працу ў "ЛіМ". Пры якіх акалічнасцях? У рэдакцыі мяне, тады студэнта БДУ, ужо ведалі, я часта друкаваўся тут. Але з часам адчуў, што аўдыторныя заняткі, лекцыі пачалі мне надакучваць, хацелася не толькі пісаць у газету, а і ўдзельнічаць у жывой працы яе творчага калектыву. З гэтымі думкамі я звярнуўся да Кастуся Губарэвіча — вядомы драматург загадваў у тагачасным "ЛіМе" аддзелам мастацтва.**

**Колішні штат** рэдакцыі быў невялікі, але Губарэвіч даведаўся, што неўзабаве з'явіцца вакантнае месца, і прапанаваў пачакаць. Потым выклікалі мяне на размову да галоўнага рэдактара — тады гэта быў Васіль Вітка. Я прайшоў гэты "вусны іспыт" і адпаведна рэдакцыйнаму загаду з 1 лютага мусіў прыступіць да працы. Але калі прыйшоў у рэдакцыю, там было ўжо іншае кіраўніцтва. Што ж здарылася? У "ЛіМе" быў надрукаваны вялікі аглядны аналітычны артыкул М. Ларчанкі, дзе сярод іншага прайшла думка пра тое, што трэба звяртацца да творчасці Алеся Гаруна. Алесь Гарун быў тады пад забаронай, і радка ў газеце аказалася для таго часу дастаткова, каб, як кажуць, узбудзіць справу. На шчасце, пры канцы 1950-х людзей за такія правіны сурова не каралі, перамяшчалі на іншую пасаду, бывала, што і не горшую за папярэднюю.

Не ведаю нават, кім быў падпісаны загад наконт майго прызначэння на працу: зрабіў гэта Васіль Вітка ці ўжо яго пераемнік, але ў "ЛіМ" я прыйшоў, калі галоўным рэдактарам стаў Мікола Ткачоў. Намеснікам яго быў Раман Сабаленка, адказным сакратаром — Аркадзь Марціновіч. Словам, кіравалі рэдакцыяй добра вядомыя ў літаратуры людзі. Мяне прынялі ў штат у якасці раз'язнога карэспандэнта. У абавязкі ўваходзілі рэгулярныя камандзіроўкі ў абласныя ці раённыя цэнтры з мэтай падрыхтоўкі ўласных матэрыялаў, але галоўнае — арганізацыя публікацый нештатных аўтараў. Гэта займала 10 дзён, астатні час месяца я, адпаведна дамоўленасці, супрацоўнічаў з аддзелам мастацтва, загадчыкам якога быў Кастусь Губарэвіч, а літсупрацоўнікам — Міхась Модаль.

**Яркія эпізоды** рэдакцыйнага жыцця былі звязаныя з вядомым тэатральным крытыкам Тамарай Бушко. Як бы ні "падціскаў" графік здачы матэрыялаў на вёрстку, колькі б часу ні заставалася да адпраўкі нумара ў друкарню, яе рукапісы рэдакцыя цярпліва чакала да апошняга моманту. І калі з'яўлялася Тамара Бушко, пачынаўся актыўны, жывы і шумны працэс афармлення яе матэрыялу, і ў гэтай працы я ўдзельнічаў з цікавасцю і захапленнем.



*Барыс Бур'ян — пісьменнік, тэатральны крытык, супрацоўнік "ЛіМа" ў 1952 — 1953, 1962 — 1985 гадах, з 1967-га загадваў аддзелам тэатра, музыкі і кіно.*



*Пісьменнікі Васіль Вітка, Янка Брыль, Іван Чыгрынаў, Алесь Асіпенка (фота зроблена легендарным лімаўцам Уладзімірам Крукам 30 гадоў таму).*

Помніцца і тое, як я рыхтаваў артыкул да юбілею кампазітара-класіка Міхаіла Глінкі. Там было сабрана шмат "дзяжурных" фактаў, але пры канцы даваліся прозвішчы беларускіх кампазітараў, якіх можна лічыць спадкаемцамі творчасці Глінкі. Пасля публікацыі гэтага артыкула ў рэдакцыю прыйшоў кампазітар Аляксей Туранкоў разам са сваёй жонкай. Ён быў ужо рэабілітаваны, але толькі-толькі вярнуўся ў Мінск, адбыўшы пакаранне за тое, што заставаўся тут працаваць падчас гітлераўскай акупацыі. Ужо было высветлена і дакументальна пацверджана, што кампазітара абгаварылі, бо ён не працаваў на немцаў, а шчыраваў на карысць беларускай культуры. І Аляксей Туранкоў з крыўдаю пытаўся, чаму сярод кампазітараў, названых у артыкуле беларускімі спадкаемцамі М. Глінкі, няма яго прозвішча. Давялося пераконваць, што супраць яго, таленавітага кампазітара, ні ў чым не вінаватага перад народам, не чынілася ніякай інтрыгі праз тую публікацыю.

З цікавага боку раскрывалася для мяне лімаўскае жыццё ў другой палове дня перад выхадам газеты ў свет. Жыццё гэтае перамяшчалася ў друкарню, у пакойчык на чацвёртым паверсе ўсім знаёмага будынка на рагу сённяшніх праспекта Незалежнасці ды вуліцы Сурганава (былой Друкарскай). Там збіраліся Мікола Ткачоў, Аркадзь Марціновіч, карэктары — Ніна Іларыёнаўна Глебка (жонка паэта, якая мною, "сынком", шчыра апекавалася) ды я, "прыстаўлены" да яе ў памочнікі, а яшчэ дзяжурны па нумары і "свежае вока". Мікола Ткачоў не вельмі ўважліва ставіўся да сваёй творчасці, а вось рэдактарскай, грамадскай справе аддаваў вялікую ўвагу. Як вядома, тады была традыцыйная друкарская тэхніка, набор тэкстаў ажыццяўляўся рабочымі ўручную, даводзілася даволі доўга чакаць гатовыя гранкі, адбіткі палос. У гэты час у нашым пакойчыку ішлі гутаркі пра літаратуру, пра мастацкія падзеі. А калі выхад нумара зацягваўся за поўнач, пад'язджаў Пятро Фёдаравіч Глебка — па жонку, і наша гутарка пра літаратуру, творчасць, людзей і падзеі набывала новае дыханне. Прытым размова заўсёды вялася ў добрым тоне, без ценю злаславасці або зайздрасці.

**Для творчай інтэлігенцыі** некалькіх пакаленняў, у тым ліку і для майго, "ЛіМ" заўсёды быў унікальным духоўным асяродкам літаратараў і людзей мастацтва, нават цэнтрам літаратурнай і мастацкай творчасці. У рэдакцыйных аддзелах людзі збіраліся проста пагаварыць, пакантактаваць, наладзіць або падтрымаць стасункі, падзяліцца навіной, параіцца. З тых, хто працаваў у тагачасным "ЛіМе", асабліва помніцца фотамайстар Ісак Салавейчык, ціхі і працавіты Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, Сцяпан Александровіч, літаратурны рэдактар Алена Міхайлаўна Броўка (жонка Пятра Усцінавіча)...

Я пакінуў "ЛіМ" у 1958 годзе: паступіў у аспірантуру ў Маскве. А калі вярнуўся, новы галоўны рэдактар Нічыпар Пашкевіч прапанаваў мне папрацаваць у аддзеле літаратуры і перайсці ў аддзел мастацтваў, бо К. Губарэвіч збіраўся пакінуць працу ў "ЛіМе". Але мяне дарогі вывелі на іншы занятак. Аднак тады, калі аддзел узначаліў Барыс Бур'ян, у нас наладзілася добрае супрацоўніцтва. Барыс Іванавіч не проста замаўляў мне матэрыялы пра тэатральнае мастацтва, але і дасылаў канверты з паведамленнямі: маўляў, рукапіс падрыхтаваны да друку і запланаваны ў такі ці такі нумар.

І колькі б я ні друкаваўся ў "ЛіМе" (а наша супрацоўніцтва працягваецца больш як паўстагоддзя!), для мяне заўсёды кожная публікацыя тут — гэта і гонар, і асабістая радасць. "ЛіМ" для мяне — школа: і карэктарская, і рэдактарская, і чалавечая. Дзе б ні быў, што б ні рабіў, лімаўская школа заўжды была пры мне, ува мне, і вельмі дапамагала. Я і сёння лічу сябе лімаўцам.

## ART-архіў

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Фотаздымкі, захаваныя ў рэдакцыйных шуфлядах, — неацэнны "куток памяці", зазірнуўшы ў які, знойдзеш аб'ектыўны люструнак даўняй падзеі, убачыш знаёмыя твары, прыгадаеш акалічнасці, што засталіся па-за кадрам... І раптам зразумееш: у тваіх руках — унікальны артэфакт. Маленькі сколак з напластаванняў гісторыі, у якім — часцінка тых своеадметных з'яў, што ствараюць непаўторнае аблічча нашай культуры.**

**Самы сціплы, часам не надта выразны чорна-белы адбітак на фотапаперы і лаканічны подпіс на адваротным баку — дакумент падзеі, сведкам якой (адным з першых, а нярэдка і адзіным з калег) быў лімаўскі карэспандэнт. Гляджу на здымкі, зробленыя 10, 15, а то і 35 гадоў таму. Хор у інтэр'еры Сафійскага сабора — як візітоўка самага першага Міжнароднага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі ў Полацку.**

**Сцэна са спектакля "Паляванне на качак" — напамін пра станаўленне мінскага Тэатра-студыі кінаакцёра. Людскі натоўп на Пакроўскай вуліцы, прамоўца ля мікрафона — і адчуваеш атмасферу таго гарачага віцебскага ліпеня, калі ўпершыню ладзіліся міжнародныя Шагалаўскія чытанні і ў старым кутку горада адкрывалі помнік славутаму земляку. А тут — юнак з камічнай, "фактурыстай" знешнасцю, апрануты ў стылізаванае сялянскае зрэб'е, — персанаж беларускага вадэвіля "Мікітаў лапаць", дэбют выпускніка БДТМІ Яўгена Крыжаноўскага ў спектаклі купалаўцаў...**

**Многія з архіўных лімаўскіх здымкаў з цікавасцю пераглядзелі б і чытачы. Што ж, спрычынімся разам да "спыненых імгненняў" нашай гісторыі.**




На мяжы 1970 — 80-х гг. прафесар Гурый Барышаў пачаў друкаваць у "ЛіМе" артыкулы па гісторыі айчыннага музычнага тэатра ("Прыгонная Тэрпсіхора Слуцка" ды інш.). Тады публікацыі такога кшталту з цяжкасцю выходзілі ў свет нават на лімаўскіх старонках. Але мінуў дзясятак гадоў, і тэма беларускай культурнай спадчыны зрабілася актуальнай і перспектыўнай у навуцы, літаратуры, мастацтве. Разгарнулася дзейнасць творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" пад мастацкім кіраўніцтвам Віктара Скорабагатава, якое, дарэчы, летась адзначыла сваё 25. Аднойчы Г. Барышаў і В. Скорабагатаў, не згаворваючыся, завіталі ў аддзел мастацтваў "ЛіМа", пачалі абмяркоўваць вернуты з нябыту нотадрук і заспявалі старадаўні кант...



Сёлетняя культурная сталіца краіны будзе прымаць ужо XVIII фестываль "Музы Нясвіжа". Прыгожае свята з вялікай гісторыяй, адзін з эпізодаў якой захаваў здымак 1998 года: тагачасныя старшыня Нясвіжскага райвыканкама Уладзімір Дражын і намеснік начальніка Мінскага абласнога ўпраўлення культуры Леанід Пашкун, музыказнаўца Вольга Дадзіёмава, мастацкі кіраўнік фестывалю Міхаіл Фінберг.



На фестываль "Мінская вясна-1995" сабралася музычная эліта краіны: ён быў парадам музычных прэм'ер беларускіх аўтараў. Чый жа твор абмяркоўвалі тады ў філармоніі Настаўнік і яго колішні вучань, народныя артысты Беларусі, кампазітары Анатоль Багатыроў ды Андрэй Мдзівані, — засталося па-за кадрам...

16 студзеня 1998 г. у Мінску на доме, дзе жыў народны артыст БССР, кампазітар Уладзімір Алоўнікаў, адбылося адкрыццё яго мемарыяльнай дошкі. Прадстаўнічасць мітынгу засведчыў здымак: на ім — дырэктар НММ Беларусі У. Пракапцоў, кампазітар Э. Ханок, мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Ю. Гільдзюк, маэстра М. Казінец, тагачасныя намеснік міністра культуры В. Гедройц і начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама В. Кураш, кампазітары Ц. Хрэннікаў (Расія), І. Лучанок, Г. Вагнер, піяніст І. Алоўнікаў побач з маці.



# Такі быў лад жыцця



Фота прадастаўлена Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў.

**Фрыдрых МОДАЛЬ,**
**фота Кастуся Дробава**

**“ЛіМ” у нашай сям’і** быў не проста газетай. Хутчэй, ён сімвалізаваў наш лад жыцця. Думаю, гэта датычыла не толькі нас, а многіх. Уся эліта беларускай літаратуры і мастацтва хілілася да гэтай газеты, як да цэнтра прыцягнення. Трапіць на яе старонкі ў якасці аўтара ці героя твора было гонарам. Вакол “ЛіМа” згуртавалася рэальная і вельмі шчырая, братэрская сябрына беларускіх пісьменнікаў.

У нашым доме ўсе гэтыя людзі ўспрымаліся як родныя, незалежна ад таго, прыходзілі яны да нас ці бацька сустракаўся з імі на працы і потым дома расказваў пра іх. Усе яны былі, безумоўна, людзі розныя, з неаднолькавымі поглядамі, густамі, прыхільнасцямі, стылем творчасці ды жыцця. Але гэта перадусім быў саюз. Творчы саюз людзей, якія робяць адну справу і адчуваюць гэта, і разумеюць. Яны сеялі разумнае, добрае, вечнае. Часта спрачаліся. А бацька мой быў проста адзін з іх. Бадай, было толькі двое, прысутнасць якіх выклікала трапяткую пачцівасць: Янка Купала і Якуб Колас.

Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў… Іх імёны ў мяне былі заўсёды на слыху. Калі яны ездзілі ў камандзіроўкі за мяжу, дык прывозілі мне адтуль падарункі, шакалад… Я тады быў малы, і мне гэта вельмі падабалася. Такі вось быў лад жыцця. Не толькі ў сям’і М. Модаля, а, як мне здавалася, у многіх лімаўцаў, калі называць гэтым словам усіх, хто пісаў, пра каго пісалі і хто збіраўся вакол нашай цудоўнай газеты.

Магчыма, такое маё адчуванне звязана з тым, што я выхоўваўся ў дзіцячым садзе пад кіраўніцтвам “цёці Уладзі”, Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, нязменнай спадарожніцы Янкі Купалы. Яна для мяне зрабілася не толькі добрай, улюбёнай выхавальніцай, яна была як матуля. Цёплая такая, добрая… Абараняла і мяне, і ўсіх сваіх выхаванцаў, усіх дзяцей ад розных жыццёвых нягод і ліхіх людзей.

І яшчэ адна адметная дэталь жыве ў маёй памяці. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў горадзе Ташкенце воляю лёсу сабралася група эвакуіраваных беларускіх пісьменнікаў. Усе імкнуліся падтрымліваць стасункі і па магчымасці адно аднаму дапамагаць. Дык вось, жонка Якуба Коласа мяне, хлапчука маленькага, падкормлівала, адрываючы харч ад сваёй сям’і, ратуючы ад голаду. Зямны ёй паклон за гэта сёння. Я ведаю, што дапамагала Коласава сям’я ўсім, каго можна было падтрымаць у той цяжкі час. Бо там, у Ташкенце, амаль усе аказаліся без сродкаў, без жытла. Нялёгка было і сям’і Якуба Коласа.

**Бацька падчас бамбёжкі** сышоў з Мінска пешкі — што называецца, “як стаяў, так і пайшоў”. Потым ён працаваў у франтавых брыгадах і сустрэўся з маці і са мной у Ташкенце.

Сёння ўспамінаюцца віншавальныя паштоўкі, якія з нагоды розных свят дасылаў бацьку Міхась Лынькоў. Там, у зваротах да бацькі, ужывалася вельмі смешнае для нас і кранальнае слова “вуюнаш”. Што яно значыла, мы не ведалі.

Дык вось, у Ташкенце бацька нямала намаганняў прыклаў для таго, каб стварыць секцыю беларускіх пісьменнікаў пры Саюзе пісьменнікаў Узбекістана. Гэта было вельмі важна ў шмат якіх сэнсах. Апроч такой неабходнай кансалідацыі творчых сіл секцыя падтрымлівала людзей матэрыяльна, дапамагала знайсці працу і жытло. У цяжкія ваенныя гады гэта было надзвычай важна. Важна па-чалавечы.

Неўзабаве бацьку прапанавалі пасаду дырэктара рускага тэатра ў Ташкенце. Ды пабыў ён на гэтай пасадзе нядоўга. Было вырашана пераехаць у абласны цэнтр Андыжан, дзе знаходзіўся музычна-драматычны ўзбекскі тэатр імя Ахунбабаева і дзе лягчэй было з жытлом і наогул з жыццём. Бацьку прызначылі намеснікам дырэктара гэтага творчага калектыву.

Мяне ўразілі яркія, маляўнічыя спектаклі гэтага тэатра і аблічча яго мастацкага кіраўніка. Гэта быў высачэзны прыгажунузбек, сапраўдны народны волат. Дарэчы, ён і іграў галоўныя ролі ўзбекскіх волатаў, якія былі амаль у кожным спектаклі.

Атабарыліся мы ў гліняным дамку ў старым горадзе, дзе мясціўся і сам тэатр. З вуліцы было відаць толькі глухія сцены пабудоў. Вокны выходзілі ў дворыкі. Каб уявіць, як нам жылося, прывяду прыклад: усе, ад намесніка дырэктара да работніка цэха, у абед атрымлівалі місу поснай мучной заціркі і былі шчаслівыя гэтым.

Аднак зала тэатра заўсёды была поўная гледачоў, якія захоплена ўспрымалі спектаклі, музычныя, з танцамі, гераічна-патрыятычнай накіраванасці, з народнымі волатамі, спектаклі пра каханне, такія, як “Лейла і Меджнун”.

Дзіўна было, што ў гарачыню, амаль саракаградусную, узбекі хадзілі ў цёплых халатах і шапках з лямцу; я не разумеў, чаму. Але мне патлумачылі, што менавіта гэткае адзенне ратуе ад спёкі, ад пякучага паўднёвага сонца.

Тым часам бацьку запрасілі да кіраўніцтва вобласці і прапанавалі пасаду дырэктара рускага тэатра, эвакуіраванага з занятых фашыстамі абласцей. Гэта быў тэатр з горада Славянска, уладкаваны ў новай частцы Андыжана. Жыць мы засталіся ў старым горадзе, хоць бацька і заняў прапанаваную пасаду. Перад ім была пастаўлена нялёгкая задача: захаваць калектыў, тэатральную маёмасць і падрыхтаваць да рээвакуацыі, г. зн. да вяртання на радзіму, забяспечыць яго ў дарозе і на новым месцы. Задача была выканана. Тэатр захаваў выдатны рэпертуар, абсталяванне, касцюмы, а галоўнае — людзей, і без прыгод вярнуўся ў горад Славянск.

**Як толькі быў вызвалены** ад акупантаў наш родны Мінск, беларускае кіраўніцтва даручыла бацьку вярнуцца ў сталіцу і заняцца аднаўленнем.

З Прывакзальнай плошчы я ўбачыў фасад Інстытута фізкультуры. Усё, што раней знаходзілася ўздоўж галоўнай вуліцы горада, было змецена вайной.

Бацьку прызначылі загадчыкам літаратурнай часткі тэатра оперы і балета. Ішло адраджэнне калектыву; з усіх канцоў Савецкага Саюза ўрад Беларусі пачаў збіраць прадстаўнікоў літаратуры і мастацтва і вяртаць у рэспубліку.

Яшчэ ў Андыжане я змог зразумець галоўнае ў працы майго бацькі. Так, рэцэнзій ён не пісаў у той перыяд: займаўся арганізацыйнай працай. Пазней, ужо ў Мінску, калі Міхась Модаль вярнуўся да літаратурна-крытычнай дзейнасці і я пачаў чытаць яго артыкулы, я ўбачыў гэтае галоўнае: ён ашчадна ставіўся да чалавека, раскрываў і паказваў багацце асобы, падтрымліваў словам. Дайце веры, у тыя гады не ўдары крытычнага бізуна, а падтрымка творчай асобы была важная найперш. Зразумела, такая пазіцыя вымагала асаблівага стылю працы і літаратурнай мовы. Я такую крытыку сёння назваў бы стваральнай, навучальнай, скіраванай на глыбокі аналіз з’яў мастацкага працэсу. Міхась Модаль не захапляўся пераказам зместу твораў. Асноўным, вызначальным для яго была праява чалавечага духу на сцэне, аналіз рэжысуры і акцёрскай тэхнікі, што дазваляла выявіць сутнасць героя, вобраза. Вызначальнай была праява чалавечай асобы артыста і асобы яго героя.

Ён працаваў у вельмі нялёгкі, але дзівосны час, калі на небасхіле беларускай літаратуры і айчыннага мастацтва загараліся зоркі першай велічыні. Імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб раскрыць творчыя індывідуальнасці сваіх герояў, менавіта ў гэтым бачыў звышзадачу тэатральнага крытыка. Ён трапятлівa, пяшчотна і патрабавальна ставіўся да залатога фонду беларускага тэатра. Сёння я не магу назваць усе слынныя імёны: іх было багата. Вось толькі некаторыя: Барыс Платонаў, Ірына Ждановіч, Уладзімір Дзядзюшка, Мікалай Яроменка… Можа, гэта містыка, не ведаю, але гэтыя людзі ўвесь час жылі з намі, у нашых размовах пра мастацтва. Бацька не толькі, седзячы моўчкі за аркушамі паперы, пісаў. Ён шмат гаварыў пра іх, перш чым напісаць, ды і пасля, ужо напісаўшы. Увесь час казаў пра гэтых людзей, пра сваю творчую працу. А я хадзіў у тэатр і бачыў іх на сцэне. У мяне была магчымасць глядзець усе новыя пастаноўкі мінскіх тэатраў. Я помню народных і заслужаных артыстаў Аляксандру Клімаву, Алімпіяду Шах-Парон, Ільзу Лакштанаву, Ганну Абуховіч, шматвобразных і каларытных Яўгена Карнавухава, Юрыя Сідарава, Рыгора Качаткова, Івана Шацілу, Дзмітрыя Арлова. Усе яны былі героямі лімаўскіх публікацый.

Крытык Міхась Модаль — гэта не проста грамадзянін Беларусі, не проста чалавек. Ён больш за ўсё — асоба ў коле герояў сваіх артыкулаў. Яго нельга ўспрымаць асобна ад людзей, пра якіх ён пісаў, з якімі ён жыў і якімі ён жыў. Тое, што ён жыў тэатрам, сваёй працай, — абсалютная праўда. І гэтая повязь не перарывалася да апошніх імгненняў: ён пісаў кнігу пра балерыну А. Нікалаеву.

**Асаблівая старонка** яго жыцця — наш тэатр оперы і балета. Цэлую кніжку прысвяціў бацька Ларысе Пампееўне Александроўскай. Яна была цудоўным чалавекам: прыгажуня, разумніца, са сваім адметным характарам. Мы ўсе яе называлі “наша перапёлачка”. Мноства артыкулаў прысвяціў М. Модаль выбітнай танцоўшчыцы Аляксандры Нікалаевай, майстру танца Сямёну Дрэчыну. На вачах нашых вырасла ў цудоўную салістку балета юная Аляўціна Карзянкова. На слыху ва ўсіх і, вядома ж, у лімаўскіх публікацыях быў спявак-тэнар Ісідар Балоцін і многія іншыя.

На старонках “ЛіМа” набіралі творчую моц і набывалі папулярнасць крытыкі і тэатразнаўцы, такія, як Уладзімір Няфёд, Барыс Бур’ян, Таццяна Арлова. Тут Юлія Чурко прайшла шлях ад захопленай прыгожым пісьменствам балерыны да мастацтвазнаўцы... І нагадваюць мне пра гэта іх кнігі з аўтографамі, дарчымі надпісамі майму бацьку.

Вялікая дружба звязвала бацьку з маладым, энергічным, разумным і таленавітым Барысам Бур’янам, які ў тую пасляваенную часіну вельмі актыўна і заўважна ўваходзіў у журналістыку і літаратуру.

Вы ведаеце, мінулае нейкім чынам застаецца з намі ў памяці, у матэрыяльных сведчаннях, і гэта добра. На стале ў мяне — больш як 50 кніг з бясцэннымі аўтографамі выбітных асоб.

Вось у шэрай вокладцы кніжка, на якой напісана “Ты і я”. Яна прысвечана памяці народнага артыста Беларусі Дзмітрыя Арлова. Напісана яго дачкой Таццянай, выдадзена ў 1969 годзе. Там — надпіс, зроблены яе рукой: “Дарагому Міхаілу Майсеевічу, чалавеку, які першы пачаў уводзіць мяне ў свет тэатральнай крытыкі, з глыбокай павагай”. Загаловак аднаго з артыкулаў у гэтым зборніку — “Якога гледача выхоўвае для сябе тэатр?” — для мяне дарагі па-свойму. Некалькі гадоў я спецыяльна займаўся вырашэннем гэтай праблемы, калі загадваў псіхолага-педагагічнай службай у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача.

Усё гэта — гісторыя, і яе, скажу дарэчы, трэба ведаць. Я ўспамінаю асфальтаваную шашу, па якой еду ў мясціны баявой славы нашага народа. І раптам у Лепельскім раёне — паказальнік дарожнага павароту: “в. Камень”. Менавіта тут нарадзіўся мой бацька. А ў Лепелі — працаваў. Арганізоўваў мясцовы камсамол. Таксама — гісторыя, якую не можаш забыць. Нельга.




***На здымку: Міхась Модаль — тэатральны крытык, супрацоўнік рэдакцыі газеты “Літаратура і мастацтва” (чэрвень 1956 года); дарчыя надпісы і аўтографы знакамітых беларускіх творцаў з сямейнай бібліятэкі Модаляў.***

# Ад пажоўклых старонак да электронкі

**Калі гавораць пра газету, звычайна згадваюць яе тыраж. Пакуль яшчэ не стала традыцыяй звяртацца да статыстыкі наведванняў сайтаў. Тым не менш галоўная кніжніца краіны — Нацыянальная бібліятэка Беларусі — вядзе электронны архіў перыёдыкі, у якім каля 300 перыядычных выданняў.**



**Ірына ТУЛУПАВА**

“І многія, хто ў электронным выглядзе выдае свае СМІ, заключылі з намі кантракт. Таму газеты можна прачытаць на камп'ютары, яны ў нас ёсць, — распавёў штотыднёвіка дырэктар НББ Раман Матульскі. — Ёсць у архіве і “ЛіМ”, і магу сказаць, што рэсурс вельмі запатрабаваны. Хаця ён, так бы мовіць, лакальнага характару: даступны толькі ў межах бібліятэкі”.

Летась электронную версію “ЛіМа” ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі “выдавалі” 2 282 разы. Гэта поўных загружаных тэкстаў — значыць, усяго нумара газеты. Самым запатрабаваным аказаўся 40-ы нумар, яго адразу пасля выхаду выдалі 75 разоў і шмат разоў звярталіся пасля. З невялікім адрывам адстаюць ад лідара нумары 2, 3 і 7.

Пагартаўшы № 40, спрабавала вызначыць, што ж выклікала такі рэзананс. Магчыма, допіс Міхася Мушынскага — “У гады выпрабаванняў на грамадзянскую мужнасць” — пра эпоху 1910 — 1950 гг. у асвятленні Коласа-публіцыста. Альбо калонка “Рэдактарскае” Андрэя Федарэнкі: “Магчыма сапраўднае”. Ці “Чарнобыльскі пастскрыптум” Кастуся Жука на старонцы “Паэзія”. Магчыма, спыніла погляд шматгалоссе думак, прысвечанае творчасці і актыўнай жыццёвай пазіцыі спачылага пісьменніка Янкі Сіпакова…

“А сам я чытаю “ЛіМ” не ў электронным выглядзе, а на паперы”, — падзяліўся меркаваннем дырэктар бібліятэкі.

**— Раман Сцяпанавіч, а калі вы пачалі чытаць “ЛіМ” і што звязвае вас з газетай?**

— Той час дакладна нават і не памятаю. Але думаю, што пачаў чытаць штотыднёвік у студэнцкія гады. А што звязвае? Цікавая газета, вось і звязвае.

**— Публікацыі якіх раздзелаў чытаеце найперш?**

— Быў перыяд, калі публікавалі, і я з задавальненнем чытаў інтэрв'ю, сустрэчы з жывымі класікамі. Гутаркі з Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Іванам Шамякіным, Раісай Баравіковай інтрыгавалі. Бо самому сустрэцца з такімі людзьмі для мяне ў той час было немагчыма, а пабываць у іх у гасцях дзякуючы газеце — гэта вельмі і вельмі цікава!

**— Якая, магчыма, найбольш яркая публікацыя вам запомнілася?**

— Нейкі адзін артыкул назваць складана, ды, напэўна, і не варта. Але тыя змены ў “ЛіМе”, якія адбыліся, заўважныя. Нельга не адзначыць праект, які з'явіўся летась, — “Бібліятэчны сшытак”. Гэта тое, што цікава і мне, і бібліятэчнай грамадскасці, і нашым карыстальнікам. Ды і творчым людзям, напэўна, таксама цікава ведаць, што адбываецца ў кніжніцах, як людзі чытаюць,


Гэта мы, Госпадзе...

якія сустрэчы праходзяць. Я думаю, што “Бібліятэчны сшытак” павінен рухацца далей па ланцужку “аўтар — выдавецтва — гандаль — бібліятэка — чытач — зноў аўтар”, і так па крузе. Каб усе ўдзельнікі сашчэпленага ланцужка бачылі не толькі свае інтарэсы, а і клопаты адзін аднаго ў справе падрыхтоўкі ды далейшага выхаду ў свет кнігі. Часам узаемныя прэтэнзіі апраўданыя. Да прыкладу, аўтары гавораць: вось, мяне не друкуюць, таму мяне і не ведаюць. А выдавец не разумее: “Як жа я цябе надрукую, калі цябе ніхто не ведае? І кніга не будзе прададзена”. Вось пра знаходкі ў гэтым кірунку цікава пачытаць.

**— Раман Сцяпанавіч, вы зазвычай разглядаеце праблемы ў гістарычным кантэксце. Назіраючы за развіццём газеты “ЛіМ”, які перыяд дзейнасці лічыце найбольш плённым, і якім вам бачыцца яе будучае ў інфармацыйнай прасторы?**

— Думаю, што найбольш цікавы перыяд быў у пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя — гэта быў час пошуку. Не толькі газеты, а і цікавых імёнаў — на скрыжаванні гістарычных поглядаў, ідэй і канцэпцый. Можа, з-за гэтага нам тады не зусім утульна было жыць, але што было цікава — бясспрэчна.

Калі гаварыць пра перспектывы, то я ўпэўнены ў тым, што газета будзе заўсёды запатрабаваная, чытэльная, яна будзе жыць!

Так што — маё сардэчнае віншаванне “ЛіМу” з 80-гадовым юбілеем. Са святам вас, удзячных чытачоў, пішучых аўтараў і творчага натхнення.

***На здымках: дырэктар НББ Раман Матульскі; матэрыял рубрыкі “Варункі”, “ЛіМ”, 1998 г.***

*Пра што пісаў “ЛіМ” у 1990-я гады, згадала Марыя Гілевіч — цяпер у РВУ “Літаратура і Мастацтва” яна працуе стылістычным рэдактарам. А тады шчыравала ў аддзеле пісьмаў і грамадскай думкі, працавала як журналіст, падпісвала матэрыялы — Марыя Міхайлава. Інтэрв'ю з Іванам Шамякіным рабілася да юбілею Вялікай Перамогі.*

*— Спакойная, павольная гутарка атрымалася, — расказвае журналістка. — Іван Пятровіч быў ужо хворы, а памятаў усё вельмі добра, расказваў, шмат паказваў фотакартак. Пасля надрукавалі яго партрэт з унукам. Ванечка, унук пісьменніка, годзікі тры яму было, усё забягаў да нас. Бібліятэка ў Шамякіна была вялікая, шафы да столі, жыў ён на вуліцы Янкі Купалы.*

*Тады рабілі шмат інтэрв'ю з міністрамі — культуры, інфармацыі, розных галін гаспадаркі.*

*— Пісалі пра ўсё: і пра ветэрынарных урачоў, і пра п'янства, і пра жыццё наша, — распавядае Марыя Міхайлаўна.*

*Для сустрэч з класікамі асобнай рубрыкі не было, але арганізоўвалі іх часта. Цяпер архіў даўніх сустрэч захоўваецца ў Марыі Міхайлаўны на лецішчы. Аддзелы ў газеце былі, пераважна, як і цяпер: паэзіі і прозы, публіцыстыкі, пісьмаў і грамадскай думкі, тэатра, музыкі, кіно. Агляды пошты рабілі. І пошта была самая розная…*

**Тамара ДАНІЛЮК,**
**дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага**

# Верная прыкмета



**Любая дзяржаўная газета — гэта адлюстраванне жыцця краіны. “ЛіМ” на працягу васьмі дзясяткаў гадоў прадстаўляе творчы бок чалавечай дзейнасці. Упэўненая, што быць газетай творчай інтэлігенцыі Беларусі — задача больш складаная, цікавая і таленавітая, чым шматлікія іншыя кірункі журналісцкай дзейнасці.**

У Брэсцкую абласную бібліятэку імя Максіма Горкага першы нумар “ЛіМа” паступіў 1 студзеня 1946 года. Прагледзеўшы падшыўку газеты, прыйшла да высновы, што газета можа ганарыцца вернасцю на дзіва прыгожай беларускай мове і абранаму шляху. Першы пасляваенны год! У калонцы рэдактара са словамі навагодняга віншавання прачытала радкі, якія можна лічыць злабадзённымі і сёння: “…Мы маем сталае мастацтва і сваю вялікую нацыянальную літаратуру… Але гэта не азначае, што нам можна супакоіцца. Наадварот, тое, што мелі ўчора, сёння нас не задавальняе…”.

Мне імпануе сённяшні “ЛіМ”, яго адданасць роднай мове, шырокі дыяпазон адлюстравання творчых намаганняў чалавека. Газета знаёміць з маладымі аўтарамі і пакідае на сваіх старонках месца вопытным і прызнаным празаікам, паэтам, літаратуразнаўцам. Сумесны праект “ЛіМа” і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі “Кніжны свет” дапамагае прафесіяналам працаваць з кнігай. “Бібліятэчны сшытак” (праект “ЛіМа” і НББ) — мой любімы! Ён адрозніваецца асаблівай цеплынёй у адносінах да кнігі, да бібліятэкара, да шматграннага бібліятэчнага жыцця краіны. Думаю, энергетыка “Бібліятэчнага сшытка” ідзе ад журналістаў, якія рыхтуюць яго па прынцыпе “шукай людзей, размова з якімі вартая добрай кнігі, і кнігі, чытанне якіх вартае размовы з філосафам” (П. Буаст).

Асобна хачу назваць Алеся Карлюкевіча, былога галоўнага рэдактара “ЛіМа”, цяпер галоўнага рэдактара газеты “Звязда”. Менавіта яго надзвычайная энергія і працаздольнасць дазволілі Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага і РВУ “Літаратура і Мастацтва” запусціць у жыццё сумесны праект “Берасцейскае вогнішча”. З 2007 года ў рамках праекта было выдадзена 14 найменняў кніг брэсцкіх аўтараў. Партнёрскі ўдзел бібліятэкі заключаецца ў тым, што менавіта нашы супрацоўнікі фарміруюць спісы да выдання. Асноваў такіх спісаў з'яўляецца і чытацкі попыт, і прафесіяналізм бібліятэкара, і давер да бібліятэчных работнікаў як да першых чытачоў рукапісу. Усё выдадзенае РВУ “Літаратура і Мастацтва” ў рамках праекта атрымала высокія адзнакі літаратурнай і навуковай грамадскасці краіны. Кніга “Літаратурная Берасцейшчына” была адзначана як узор для стварэння падобных выданняў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Хачу адзначыць, што шэраг кніг, выдадзеных у рамках праекта, сталі лаўрэатамі літаратурнай прэміі імя У. Калесніка, заснаванай Брэсцкім абласным выканаўчым камітэтам. У 2007 годзе гэта зборнік вершаў “Трохперсце” (М. Рудкоўскі, М. Пракаповіч, А. Каско), у 2008-м — “Пастка для рэха” А. Паплаўскага, у 2009-м — зборнік вершаў “У прыгаршчах ветру” Н. Мацяш і “Свята для сэрца” А. Бензерука, у 2010 годзе — “Берёза чёрная, берёза белая…” А. Валковіча і “Казкі навагодняга лесу” З. Гарадзецкай.

У перспектыве на 2012 год — выданне кнігі В. Мароза “Сакральная архітэктура Берасцейшчыны”, дзе сабраныя ўнікальныя звесткі пра драўляныя культавыя пабудовы на тэрыторыі рэгіёна. Пяць гадоў наша супрацоўніцтва дапамагае нам з гонарам заяўляць пра Брэстчыну як пра самабытны і багаты ў літаратурных адносінах край.

***Шаноўныя лімаўцы!***

***Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага і шматлікія яе чытачы віншуюць газету з 80-годдзем. Ваш юбілей супаў з Годам кнігі, аб'яўленым у Беларусі. Гэта верная прыкмета таго, што “ЛіМ” і надалей будзе высока трымаць планку разумнай і таленавітай газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі.***

**У рамках XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбыўся “круглы стол” “Кніга і чытанне ва ўмовах фарміравання электроннага асяродка” з удзелам першага намесніка міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Рамана Матульскага, начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і мастацтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Вадзіма Шчэрбіча. Разглядаліся магчымасці электронных камунікацый у прадастаўленні інфармацыі карыстальнікам.**

# У інтэрнэце — дарослыя і дзеці

Алена ДРАПКО

### Хатняе мультымедыя: “за” і “супраць”

Адна з задач дня сённяшняга — гэта стварэнне нацыянальнай электроннай бібліятэкі мультымедыйных рэсурсаў. Як вядома, бібліятэкі нашай краіны і свету працуюць з рознымі відамі інфармацыі. Змяняюцца тэхналогіі, а разам з ім і інфармацыйнае асяроддзе. Бібліятэкі сёння застаюцца адным з самых даступных сацыяльных інстытутаў, якія працуюць з інфармацыяй, надоўга забяспечваюць яе захоўванне і доступ да самых запатрабаваных архіваў. І гэтыя традыцыі склаліся на працягу стагоддзяў. “Але патрэбна рэагаваць на тэхналагічныя змены ў грамадстве і, арыентуючыся на іх, фарміраваць якасныя інфармацыйныя рэсурсы”, — падкрэслілі ўдзельнікі сустрэчы за “круглым сталом”.

Кошт кнігі сёння ўзрастае. Гэта прымушае прапаноўваць чытачу іншыя варыянты. Нацыянальная бібліятэка арганізуе доступ да інфармацыйных рэсурсаў праз рабочыя месцы супрацоўнікаў, віртуальную чытальную залу. У перспектыве з’явяцца зарэгістраваныя рабочыя месцы карыстальнікаў. У гэтым выпадку чытачу не абавязкова прыходзіць у бібліятэку — можна карыстацца базай дадзеных дома.

### Адамкніцеся, адчыніцеся!

Удзельнікі сустрэчы падкрэслівалі: менавіта літаратура фарміруе гарманічную асобу інтэлектуальна развітай і здольнай усведамляць ролю маралі ды этыкі ў асабістым альбо грамадскім жыцці. Засяродзілі ўвагу на трывожнай агульнасусветнай тэндэнцыі: зніжаецца цікавасць дзяцей да чытання! А між тым узровень пісьменнасці і культуры грамадзян, занятасць на працы, бяспека грамадства залежыць ад таго, што чалавек чытае. І цяпер трэба гаварыць не толькі пра недастатковую начытанасць школьнікаў, але і пра тое, што кніга страціла прыярытэтную каштоўнасць у сям’і. Знікае і звычка чытаць услых.

На чым жа варта зрабіць акцэнт? Напэўна, на тым, што карысна правільна выбіраць час і месца, каб пачытаць разам з дзецьмі. І на тым, што першапачаткова менавіта ў сям’і дзіця прывучаецца пісаць водгукі, весці чытацкія дзённікі. А гэта дапамагае асэнсоўваць твор, развівае ўяўленне, без якога немагчымы прагрэс. Патрэбна акцэнтаваць увагу і на змесце дзіцячай літаратуры. Дарослыя мусяць цікавіцца тым, якую літаратуру чытае іх сын альбо дачка, скіроўваць іх да дакладных крыніц.

Маладыя добра засвоілі: сённяя актуальны інтэрнэт. Але мала хто з іх скажа, што ў віртуальнай прасторы дзейнічаюць кніжныя інтэрнэт-магазіны, дзе можна рабіць замовы па каталогах, прайс-лістах. І толькі пры сумеснай працы сям’і, навучальных устаноў і бібліятэк можна дабіцца станоўчых змен у больш актыўным карыстанні імі. Магчыма нават, арганізоўваць у бібліятэках сустрэчы, дзе бацькі з дзецьмі змогуць атрымаць кансультацыі па арганізацыі чытання ў сям’і. Таму што якраз дзіцячае чытанне — ключ да жыцця ў інфармацыйным грамадстве.

### Чытаць круглыя суткі

Існуе таксама праблема камплектавання дзіцячых бібліятэк электроннымі выданнямі. Кніжніцы імкнуцца забяспечваць наведвальнікам доступ да розных рэсурсаў, як на традыцыйных носьбітах, так і на электронных: для гэтага ствараюцца каталогі, інфармацыйныя базы — дапаможнікі для адукацыі і развіцця асобы. Пытанне камплектавання электроннымі выданнямі прапрацоўваецца ў краіне недастаткова актыўна. На сённяшні дзень электронныя выданні для дзіцячых бібліятэк могуць прапанаваць выдавецтвы “Вышэйшая школа”, “Мастацкая літаратура”, “Пачатковая школа”. Застаецца незабяспечаным попыт на адукацыйныя гульні і праграмы. Карыснымі і дарэчнымі былі б мультымедыйныя даведнікі і энцыклапедыі, па якія дзеці прыходзілі ў бібліятэкі. Але не заўсёды кніжніцы маюць магчымасць набыць якраз самыя неабходныя выданні. Праблематычным часам пры набыцці мультымедыйных выданняў становіцца той факт, што… ім не адпавядае састарэлае камп’ютарнае абсталяванне. Таму самы сучасны інфармацыйны рэсурс застаецца нявыкарыстаным.



Фота з інтэрнэт-сайта www.focus.de

Электронная кніга дазваляе абслугоўваць чытача кругласутачна. Але набыццё такіх крыніц, дзе можна знайсці для сябе неабходнае, таксама немагчымае без дастатковага фінансавання. Ды часам з-за фінансавых праблем ад падпіскі на базы дадзеных даводзіцца адмаўляцца. Карысна было б працаваць таксама з сацыяльна значнай літаратурай, выкарыстоўваючы досвед ужо існуючых электронных інтэрнэт-магазінаў і выдавецтваў, вывучыць магчымасці прачытання водгуку на такую кнігу, якаснай да яе анатацыі.

“Круглы стол” з удзелам прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый аб’яднаў спецыялістаў у імкненні пашыраць інфармацыйную культуру чытацкай аўдыторыі. Зразумела, што сёння амаль кожнаму даступныя інфармацыйныя рэсурсы свету. І гэта прадастаўляе вялікія перспектывы для больш шырокага і мэтавага выкарыстання назапашаных чалавецтвам ведаў.

Не мець доступу да ведаў у інфармацыйным асяродку — нонсэнс па мерках сённяшняга часу. Але для таго, каб прадаставіць як мага больш шырокі доступ, неабходна дэталёвая распрацоўка пэўнай заканадаўчай базы, якая закране праблемы сферы электроннага кнігавыдання і распаўсюджвання прадукцыі. Шмат пытанняў пакуль застаецца адкрытымі. Бясспрэчна адно: кніга будзе існаваць, яна запатрабавана чытачом. Але сёння ёсць выбар — карыстацца інфармацыяй у друкаванай альбо ў электроннай версіі, і ён дазваляе пашырыць даступнасць кнігі і зацікаўленасць ёю.

# Рухаемся ў будучыню

Алена СВЯТЫНЧУК

**На XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы адбылася прэзентацыя праектаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па захаванні і папулярызацыі культурнай спадчыны.**

Калі хтосьці мае патрэбу ў карыстанні кнігамі праз інтэрнэт, то варта звярнуцца да электронных выданняў Нацыянальнай бібліятэкі. Яны могуць быць нават з ліку тых, арыгіналы якіх знаходзяцца за межамі нашай краіны, напрыклад, са збору “Радзівіліяны”. Так здарылася, што некаторыя кніжныя каштоўнасці апынуліся за мяжой і праз гэта сталі недаступнымі. Таму вяртанне іх электронных копій — найбольш верагодны на сёння варыянт.

Да 120-годдзя Максіма Багдановіча, якое мы адзначалі летась, у НББ быў падрыхтаваны мультымедыйны дыск — выдатны збор інфармацыі пра пісьменніка і яго творчую спадчыну.

На прэзентацыі ў выставачным павільёне міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка прадставіў чарговы том “Культура Беларусі”, выдадзены Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі.

— Гэтае выданне — сапраўдны твор мастацтва, які расказвае пра тое, што ўяўляе сабой сёння і будзе ўяўляць культура Беларусі, — падкрэсліў Павел Латушка. — Мы як беларусы павінны ўсведамляць, што маем усе падставы ганарыцца сваёй культурай, гісторыяй, кнігавыданнем.

Міністр заклікаў наведвальнікаў набываць кнігі, дарыць іх адно аднаму, аднаўляць ды памнажаць традыцыі чытання не толькі з нагоды пэўных падзей.

Як распавяла галоўны рэдактар выдавецтва “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” Ларыса Языковіч, гэта другі том “Культуры Беларусі”, і цяпер вядзецца праца над трэцім. Увогуле планавалі шасцітомнік, але інфармацыі назбіралася шмат: ёсць што сказаць гісторыкам, мовазнаўцам, літаратуразнаўцам. Слова энцыклапедычнае — слова сціплае, навуковае. Але яно павінна жыць. Энцыклапедыя — тое выданне, якому нават у перыяды бяскніжжа заўсёды знойдзецца месца на хатняй паліцы.

Дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч прадставіла энцыклапедыю “Максім Багдановіч”, таксама выдадзеную Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі і прысвечаную 120-гадоваму юбілею паэта.

Акрамя гэтага, прэзентавалі і новыя навуковавыдавецкія праекты. Напрыканцы года Нацыянальная бібліятэка падрыхтавала электроннае выданне “Беларуская і руская літаратура ў дапамогу навучэнцам”, якое ўключае фактычна ўсе творы беларускай і рускай літаратурнай спадчыны, што ўваходзяць у школьную праграму.

Іншыя выдавецкія праекты НББ: “Памятныя кніжкі беларускіх губерняў”, “Мінск старадаўні”.

Праект календара “Магдэбургскае права на Беларусі: літаграфіі Напалеона Орды з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі” прэзентаваў аўтар ідэі намеснік старшыні Белінвестбанка Уладзімір Тамашэвіч.

# Мы патрэбны адно аднаму

**“Неабходна больш добрых літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў” — пра гэта найчасцей гаварылі бібліятэкары Мінска падчас сустрэчы ў бібліятэцы № 1 імя Л. М. Талстога. На адкрыты дыялог з імі завіталі кіраўнікі літаратурных выданняў, якія ўваходзяць у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы “Літаратура і Мастацтва”.**

Ірына ТУЛУПАВА

Бібліятэкі і выдавецтвы — сталыя партнёры праз усе гады айчыннага кнігавыдання. Апошнім часам бібліятэкі дзякуючы прынятым на дзяржаўным узроўні мерам добра камплектуюцца беларускай літаратурай. “Аднак наведвальнікі не ведаюць пра яе, — падзяліліся назіраннямі супрацоўнікі кніжніц. — Ды нам самім не заўсёды выпадае даведацца пра навінкі літаратуры. Таму добра, калі змястоўныя агляды таго, што выйшла ў свет, змяшчаюцца на старонках перыядычнага друку”. У Год кнігі нядрэнна было б паставіць надзейную заслону графаманам. Навігатарам у сучаснай літаратуры якраз і могуць стаць выданні, дзе праблемы творчасці ўзнімаюцца на прафесійным ўзроўні.

Дапамогуць міні-рэцэнзіі на кнігі, а таксама агляды сучаснай паэзіі і прозы, і знаёмства з творцамі на старонках выданняў, аб’яднаных у рэдакцыйна-выдавецкай установе. Намеснік дырэктара РВУ “Літаратура і Мастацтва” Ала Корбут, намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Нёман” Аляксей Чарота, галоўны рэдактар “Маладосці” Святлана Дзянісава, галоўны рэдактар “ЛіМа” Таццяна Сівец, намеснік галоўнага рэдактара “Полымя” Уладзімір Мазго распавялі пра тыя знаходкі, якія якраз і спрыяюць знаёмству з кнігамі. Прычым, розных выдавецтваў. Згадалі тут і маладосцеўскія вокладкі, упрыгожаныя фотаздымкамі юных творцаў, і лімаўскія “Бібліятэчны сшытак” ды “Кніжны свет”, і раздзел “крытыка”, дзе грунтоўна аналізуюцца новыя творы, і бібліяграфічныя спісы надрукаванага за год.

Прагучалі таксама цікавыя прапановы па падтрымцы беларускай мовы, пашырэнні яе ўжытку. Загадчыца дзіцячай бібліятэкі № 4 г. Мінска Людміла Бусел распавяла пра тое, што ўжо два гады яны працуюць з дзіцячымі садкамі па вывучэнні матчынай мовы. Стварылі нават адмысловы мінімузей “Беларускі слоўнічак”, дзе старанна запісваюцца словы, якія вывучылі. На думку прысутных, можна было б раз на месяц арганізоўваць у бібліятэцы сустрэчы з творцамі. Бо калі наладжваецца кантакт, ёсць магчымасць і задаць пытанні, і пачытаць напісанае аўтарам, атрымаць у падарунак кнігу з аўтографам. Таму варта чакаць, што ў бліжэйшай будучыні дыялог знойдзе працяг у розных бібліятэках горада.

# Друкаваныя артэфакты

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

**У бібліятэцы № 1 імя Л. М. Талстога (г. Мінск) да юбілею “ЛіМа” падрыхтавана адмысловая экспазіцыя. Яна ўтульна размясцілася на часопісным століку пры ўваходзе ў чытальную залу.**

Цяпер кожны наведвальнік можа азнаёміцца з нумарамі газеты за 1945 — 1946 гг, калі рэдактарам быў Аркадзь Куляшоў; з больш блізкімі па часе, але таксама запатрабаванымі нумарамі за 1992 — 1993, 2005, 2007 гады. А яшчэ ёсць падшыўка “Газета “ЛіМ” — пра бібліятэкі краіны”. Ды шматлікія фота, якія адлюстроўваюць гісторыю нашай дзяржавы. І ў агульным кантэксце — гісторыю развіцця штотыднёвіка. На здымках — Аркадзь Куляшоў, Васіль Вітка, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Караткевіч. Ёсць і нявялікі рэкламны шчыт мінулых гадоў. У 2012-м побач з ім красуе віншаванне сённяшнім лімаўцам:

***“Бібліятэка № 1 імя Л. М. Талстога сардэчна віншуе газету «Літаратура і мастацтва» з 80-годдзем з часу выхаду ў свет першага нумара газеты. За гэты час выданне стала неад’емнай часткай духоўнай прасторы нашай краіны і заваявала папулярнасць у чытачоў. Няхай і надалей ваша плённая праца садзейнічае развіццю нацыянальнай літаратуры і мастацтва. Жадаем вам моцнага здароўя, шчасця, невычэрпных сіл і новых прафесійных дасягненняў!”***

# Тры кароткія аўтографы

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

**Ёсць свая магія ў кнізе, якая ўтрымлівае аўтограф пісьменніка. Здаецца, зусім іначай успрымаеш змешчаныя пад вокладкай вершы ці прозу, калі бачыш хаця б адно слоўца, напісанае аўтарам. Раскінутыя ці цесна выкладзеныя літары бяруць у палон, становяцца трывалым мастком да свядомасці пісьменніка. Углядаючыся ў няроўныя альбо кругленькія слоўцы, трапяткія ці высечаныя прамалінейна сказы, уяўляеш сябе тым адзіным чытачом, якому літаратар адкрывае ўсе свае таямніцы. Мая бібліятэка аўтографаў пачалася са зборніка вершаў народнага паэта Беларусі Максіма Танка.**

Лета 1977 года. За плячыма — шэсць класаў. Першыя спробы пяра, якія дасылаў не толькі ў "Піянер Беларусі" і "Бярозку", але і на радыё (вось дзе была выхаваўчая сіла эфіру!). І адзін з тых допісаў вядучы радыёклуба "Жывое слова" Уладзімір Юрэвіч адзначыў узнагародай. У маю родную Зацітаву Слабаду пошта прынесла бандэроль з дзвюма кнігамі: "Дарога, закалыханая жытам" Максіма Танка і "Тры аповесці" Барыса Сачанкі. На зборніку вершаў — такі вось надпіс: "Алесю Карлюкевічу — пераможцу конкурса радыёклуба "Жывое слова". Максім Танк. Мінск, 26/VI 1977 г.". Гэта я ўжо пазней разгледжу, што арыгінальным з'яўляецца толькі подпіс. Прозвішча маё і пазнака пра перамогу надпісаны іншай рукой. А тады ўсцешвала ўжо адно тое, што кніга адрасавана самім Танкам. Дагэтуль з яго кніг я меў толькі адзін зборнік — "Каб ведалі", выдадзены па-руску. Была, праўда, і кніга Рыгора Бярозкіна "Паэзія праўды". Так што і шасцікласнікам я ведаў веліч Танка не толькі з-за яго грамадскай вядомасці. Але і таму, што ў раздзеле "Паэзіі праўды" (Мінск, 1958), прысвечаным Танку, вычытаў наступнае: "Купала і Колас былі першыя паэтычныя настаўнікі Максіма Танка. Ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці іх палымяная, прасякнутая любоўю да прыгнечанага народа дарэвалюцыйная творчасць гучала вельмі жыва і актуальна…" А Купала і Колас — гэта для шасцікласніка былі першыя мастацкія, літаратурныя аўтарытэты.

Цяпер, цытуючы Бярозкіна, крыху і смяюся з колішняй дзіцячай наіўнасці, бо знаходжу на палях старонак з "танкаўскім" артыкулам і свае тагачасныя запісы. Як, напрыклад, вось гэты: "Уплывы дзейнічалі і дзейнічаюць на ўсіх пачынаючых. Але ці трэба вініць у гэтым тых, хто сваёй творчасцю аказаў уплыў?.." Гэта я запісаў унізе на 260-й старонцы. Відавочна, пасля таго, як прачытаў у Бярозкіна: "Праблема ўплываў — праблема надзвычай складаная… Калі ў эпілогу да "Нарачы" паэт піша: "А я хачу… ворагам кінуць у вочы з-пад сэрца апырсканы кроўю гарачаю верш", дык мы адразу ж прыгадваем лермантаўскі «Железный стих, омытый горечью и желчью». Усё гэта прыклады творчага пераасэнсавання традыцый у адпаведнасці з уласнай задумай".

Не тое ў ранніх вершах Танка, дзе ўплывы самыя супрацьлеглыя засланялі індывідуальнае аблічча паэта. Тут і Горкі, і Кальцоў, і Ясенін, і Багдановіч, і польскія рамантыкі, і Купала, і друга-радныя рускія паэты 60-х гадоў. "Параніцаваны" Ясенін чуецца, у прыватнасці, у такіх радках:

*І полем новым я пайду…*
*Напеў забыты вецер свішча*
*І гоніць мокрую зару*
*На медна-горкае іржышча.*

"Гэта — Ясенін валацужных песень. Ці быў ён патрэбны, *гэты* (выдзелена Рыгорам Бярозкіным. — **А. К.**) Ясенін, Танку трыццаць пятага года?.."

Так што да чытання, да следавання "палявой дарогай, закалыханай жытам" я быў у некаторай ступені падрыхтаваны. А што да асалоды паэтычнага светаўспрымання, якую дарыў літаральна кожны танкаўскі радок, то яе не магла парушыць нават такая выдавецкая анатацыя да зборніка: "У кнігу ўвайшлі вершы аб партыі, Радзіме, аб працоўных здзяйсненнях сучаснікаў. Пранікнёна, па-майстэрску піша Максім Танк аб прыгажосці беларускай зямлі: яе барах і азёрах, палях і рэках". Гэта сёння я ведаю, што ёсць усё ж у кнізе "Сонца рэвалюцыі" і яшчэ колькі



> *Калі я ў 1985 годзе апынуўся ў Ашхабадзе, вершы Танка з прыцэлам на пераўвасабленне на мову Махтумкулі ўжо чыталі народны паэт Туркменістана Керым Курбанняпесаў, паэт Сапар Ураеў (ён якраз і выдасць кнігу беларускага мастака слова па-туркменску). А я час ад часу буду надакучаць Яўгену Іванавічу сваімі паштоўкамі і кароткімі лістамі. Таму і з'явіцца 16 красавіка 1987 года ў танкаўскім дзённіку такі запіс: "Піша А. Карлюкевіч, што К. Курбаніпесаў рыхтуе на туркменскай мове зборнік маіх вершаў…"*

падобных вершаў. Але і тады, і цяпер яны не кідаліся і не кідаюцца ў вочы. Кідалася, прыцягвала, брала ў палон іншае. І гэты, мусіць, верш таксама:

*Без цябе ўсе мае дні —*
*глухія і будныя.*
*Хоць надзею пакінула б*
*ты мне на свята.*
*Без цябе ўсе вятры —*
*колкія і паўночныя.*
*Хоць адзін з іх*
*дыханнем сваім ты сагрэла б.*

*Без цябе ўсе дажджы —*
*шэрыя і маркотныя.*
*Хоць адзін з іх*
*ты апаясала б вясёлкай.*

*Без цябе*
*ўсе дарогі вядуць на выгнанне.*
*Хоць бы нітку дала мне*
*з клубка Арыядны.*

*Без цябе*
*мае песні адлятаюць у вырай,*
*І не знаю,*
*вяртання іх ці дачакаюся.*

…Прайшлі гады. Пасля роднага дому я апынуўся ў Львове. Затым — у Ашхабадзе. У Туркменістане мне пашчасціла пазнаёміцца шмат з кім з туркменскіх пісьменнікаў. Усе яны паэзію Танка ведалі, многія вылучалі яго як жывога класіка беларускай літаратуры. А да ўсяго астатняга Яўген Іванавіч у 1983 годзе гасцяваў у Туркменістане, па тым часе — у Туркменскай ССР. Пра гэта — і ў дзённіку паэта. Чытаем запіс ад 18 кастрычніка 1983 года: "…Дома застаў тэлеграму, у якой туркменскія сябры запрашаюць на 250-годдзе Махтумкулі. Відаць, паеду…" Пэўна ж, як вынік тае паездкі — два "туркменскія" вершы Максіма Танка: "Махтумкулі" і "Туркменскі дыван"… Упершыню яны надрукаваны ў вераснёўскім нумары часопіса "Полымя" за 1984 год.

Калі я ў 1985 годзе апынуўся ў Ашхабадзе, вершы Танка з прыцэлам на пераўвасабленне на мову Махтумкулі ўжо чыталі народны паэт Туркменістана Керым Курбанняпесаў, паэт Сапар Ураеў (ён якраз і выдасць кнігу беларускага мастака слова па-туркменску). А я час ад часу буду надакучаць Яўгену Іванавічу сваімі паштоўкамі і кароткімі лістамі. Таму і з'явіцца 16 красавіка 1987 года ў танкаўскім дзённіку такі запіс: "Піша А. Карлюкевіч, што К. Курбаніпесаў рыхтуе на туркменскай мове зборнік маіх вершаў…"

І калі ў Ашхабадзе яшчэ не было такой смагі па родным слове (усё ж замаўляў беларускія выданні праз "Кнігу — поштай"), выпісваў беларускія газеты і часопісы, то на Кубе, куды я патрапіў у красавіку, дакладней — у маі (выйшаў на караблі "Фёдар Шаляпін" з Адэсы пры канцы красавіка, а ступіў на бераг Гаваны ў сярэдзіне мая) 1988 года, кнігі беларускай неставала. Хіба што я прывёз з сабою томік абразкоў Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Вось і папрасіў Максіма Танка даслаць што новае… Праўда, бандэроль папрасіў адправіць на адрас бацькоў маёй жонкі. З разлікам, што яны ўжо нейкім чынам перададуць. Кнігі на мой кубінскі адрас чамусьці не дазвалялася перасылаць. Яўген Іванавіч акуратна выканаў просьбу, даслаўшы два томікі — "За маім сталом"



* * *

Дзякуючы звар'яцелым
Дасягненням навукі
Усё больш і больш знаем
Аб першых днях нараджэння Зямлі,
Хоць мінулі мільёнагоддзі.
Усё больш і больш знаем,
Што яе чакае заўтра.

4.IV.83

("Мастацкая літаратура", 1984 год) і "Збор калосся" ("Мастацкая літаратура", 1989), надпісы на якіх датаваны 20 красавіка 1990-га…

Так склалася, што адкрыў я іх, вачыма, пачуўшы "…на добры ўспамін" і "з найлепшымі пажаданнямі", усё ж толькі ў Пухавічах а другой палове чэрвеня 1990-га… "Збор калосся" завяршалі вось гэтыя восем радкоў:

*Каб лягчэй было ў дарозе,*
*Трэба на ўсіх указальніках*
*Замест кіламетраў*
*Напісаць:*
*"Ідзіце!*
*Не аглядайцеся,*
*Бо жыццё яшчэ —*
*Перад вамі".*

Дарэчы, у "Зборы калосся" перачытаў знаёмыя мне ўжо вершы "Туркменскі дыван" і "Махтумкулі". "І я рад, што ў сяброў сваіх мог пагасціць. / Ад маіх беларускіх бароў, ніў, крыніц / Палымнеючых кветак вянок палажыць / Ля падножжа славы Туркменіі", — так завяршыў свой расповед пра паездку на святкаванне 250-годдзя Махтумкулі Максім Танк.

У зборніку "За маім сталом" уразіла і наступная акалічнасць. Два вершы ў дасланым мне асобніку былі з рукапіснай праўкай. Почырк ізноў жа Максіма Танка. У вершы "На карыдзе" дададзена пасля слова "Эльгрэкаўскіх" слова "манахаў". Затым ідзе ізноў жа дададзенае: "галубоў…" А далей: "…Пікаса!" У кнізе было надрукавана:

*Я згодзен з Ірвінгам,*
*Што ўся Іспанія —*
*зачараваны край.*
*Бо дзе наяве*
*Ты сустрэнеш столькі*
*Жывых Калумбаў,*
*Дон Кіхотаў,*
*Матак боскіх,*
*Махаў Гоі,*
*Эльгрэкаўскіх Пікаса!*

Павінна ж быць, згодна танкаўскай праўцы:

*Матак боскіх,*
*Махаў Гоі,*
*Эльгрэкаўскіх манахаў*
*і галубоў Пікаса!*

Зазірнуўшы, дарэчы, у новы збор твораў Максіма Танка (5-ы том), знайшоў верш "На карыдзе". Публікацыя, відаць, зроблена па кнізе. Так што і туды "прыпаўзла" выдавецкая памылка 1984 года са зборніка "За маім сталом". Шкада. Хаця ў дадзеным выпадку тут не правіна тых, хто рыхтаваў 5-ы том.

У каментарыях жа яны пазначаюць, што ў аўтографе (чарнавы) радок "І галубоў Пікаса" быў. Толькі ў кнізе ён адсутнічае. Ёсць і іншыя адрозненні, калі меркаваць па аўтографе. Але ж у выпадку з "галубамі Пікаса" і "Эльгрэкаўскімі манахамі" сітуацыя іншага плана, чым з астатнімі радкамі. Справа ў тым, што "Эльгрэкаўскіх Пікаса" — гэта відавочная памылка.

Як і ў публікацыі верша "***Дзякуючы звар'яцелым…".

Рукою Максіма Танка ў перадапошнім радку ў маім асобніку закрэслена "больш і больш" ды ўпісана: "менш і менш". Што, пагадзіцеся, калі ўважліва чытаць верш, і адпавядае логіцы: мы ведаем усё больш пра далёкі ўчарашні дзень і цьмяна ўяўляем свае перспектывы.

…За гады чытання паэзіі Максіма Танка ў мяне сабралася невялікая бібліятэчка. Ёсць у ёй і кнігі пра паэта, што таксама мною перачытваюцца. Асоба класіка нацыянальнай паэзіі, зробленае ім у літаратуры і для развіцця літаратуры — павінна застацца ў гісторыі нашай Айчыны навечна.




# Публічны дзённік для ўнука

Соф'я МАРОЗАВА

Першы нумар "Полымя" адметны падборам аўтараў: у ім акжно чатыры выдатныя дзіцячыя пісьменнікі — Уладзімір Ліпскі, Галіна Васілеўская, Мікола Чарняўскі, Аляксей Якімовіч. Ды і самы буйны твор нумара — аповесць Тацццяны Пяшко "Выпраўленне памылак" — прысвечаны школе, што таксама пэўным чынам перасякаецца з дзіцячай тэматыкай. Звернем увагу на найбольш значныя, на нашу думку, цікавосткі нумара — лісты Уладзіміра Ліпскага "Адкрый сябе" і вышэйзгаданую "настаўніцкую" аповесць.

Максім Танк звяртаўся ў вершах-лістах да зямлі, Язэп Пушча пісаў "Лісты да сабакі", Андрэй Мрый — ліст да "друга працоўных"... Уладзімір Ліпскі прапануе чытачам лісты да свайго двухгадовага ўнука — шэраг лірычных замалёвак, расчулены маналог дзеда, публічны жыццяпіс свайго ўлюбёнца.

У выпадку з літаратурнымі лістамі заўсёды паўстае пытанне іх рэальнага адрасата. Да каго звернуты лісты Уладзіміра Ліпскага? Да "чароўнага Таляйкі", "майго танцорыка", "майго нарачанскага хлопчыка", "Анатоля", "майго кучаравага шустрыка" і "слаўнага ўнука". Між тым, фактычнымі чытачамі лістоў з'яўляемся мы з вамі. Таму мімаволі ўся бязмежная дзедава любоў і пяшчота абрынаецца на нас. Не кожны можа вытрымаць гэта ў дарослым узросце.

Лісты "Адкрый сябе" можна параіць тым, каго цікавіць, што займае дзіця ў два гады. Але яны не толькі пра цуд дзяцінства, а таксама і пра пачуцці, думкі дзеда. Дакладней — пра ўзаемасувязь гэтых двух блізкіх родзічаў.

І золку жыцця, і яго спелай пары ўласціва святочнае адчуванне цуду, таму ўнук і дзед — лепшыя сябры. Яны вучацца адзін у аднаго, разам радуюцца поспехам. Не раз і не два Уладзімір Ліпскі ўрачыста віншуе ўнука з "дасягненнямі". Часам "думкі з нагоды" пераходзяць у працяглыя лірычныя адступленні. Роўны, вытрыманы і прасякнуты любоўю стыль Уладзіміра Ліпскага дапаўняецца наіўнай старасвеччынкай ("Разумовы камп'ютар твой падключаны да жыццёвай высакавольтк...", "От і будзем вывяраць нашы камп'ютары на жыццёвых хвалях"). У іншым выпадку гэта магло б выклікаць крытыку, а тут па-свойму "працуе" на стварэнне вобраза дзеда-пісьменніка.

У апошні час друкуецца шмат інтэрнэт-дзённікаў вядомых людзей, асабісты дакумент выносіцца на суд чытача. У дачыненні да асоб знакамітасцей папытам карыстаюцца нават запісы кшталту "ўстаў, паеў, паглядзеў у акно", то бок пазбаўленае канцэпцыі бытапісальніцтва. На гэтым фоне проза У.Ліпскага, дэталізаваная, сямейная і асабістая, храналагічна-дзённікавая, па-свойму трапляе ў струмень, падсвятляецца новым кантэкстам. Зразумела, што яна арыентуецца на іншыя першаўзоры ды падпарадкавана сваім уласным унутраным крытэрыям. Пісьменнікавы лісты да ўнука — матэрыялізацыя няспыннай разумовай плыні, скіраванай да роднага чалавека. Адсюль і дэталізацыя, імкненне "ўвекавечыць" кожную дробязь.

Немагчыма абмінуць увагай аповесць Тацццяны Пяшко "Выпраўленне памылак", найперш па прычыне актуальнасці яе тэмы.

Аповесць выступае своеасаблівым рэпартажам з месца падзей. Паколькі аўтарцы ўдалося рэалістычна паказаць настаўніцкае жыццё, з твора паўстае партрэт сучаснай школы. Гэта першая спроба Тацццяны Пяшко ў сярэднім празаічным жанры: дагэтуль у "Вожыку" і "Першацвеце" друкаваліся яе апавяданні і гумарэскі.

Аповесць "Выпраўленне памылак" насычаная рэаліямі. "Канапа <...> для начальства і правяраючых, якія маглі завітаць у школу ў любы час без папярэджання", сталоўка, у якой "кормяць паўфабрыкатамі", эксцэсы эканоміі электраэнергіі, сацыяльныя асаблівасці школьнага калектыву. Адчуваецца асабісты досвед пісьменніцы ў якасці настаўніцы. Сюжэтныя перыпетыі твора разгортваюцца вакол школьных здарэнняў і асабістага жыцця педагогаў.

Варта адзначыць у цэлым гарманічную сюжэтную пабудову, без алагічных пераскокаў і зацягнутых месцаў. Аднак хочацца пажадаць аўтарцы большай увагі да вобразаў персанажаў: ім бракуе аб'ёмнасці, псіхалагізму і глыбіні.




# Каму належаць акуляры?

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Разважаючы з калегамі пра ўзровень дзяржаўных літаратурна-мастацкіх часопісаў, неаднаразова выказвалі думку, што апошнім часам на лідзіруючыя пазіцыі выйшаў "Нёман". Уплываe на гэта і стабільна высокі ўзровень празаічнай часткі часопіса. Але з кожнага правіла, на жаль, бываюць выключэнні. Іх праявай стала фантастычная аповесць Генадзя Аўласенкі "Переступив черту", надрукаваная ў студзеньскім нумары.

Падзеі твора разгортваюцца вакол фантастычнага артэфакта: акуляраў, якія галоўная гераіня Вольга знаходзіць у вагоне электрычкі. Акуляры валодаюць выключнымі ўласцівасцямі. Надзеўшы іх, чалавек атрымлівае магчымасць бачыць сапраўднае аблічча кожнай асобы, яе сутнасць; прыналежнасць да "светлых" (паляўнічыя), "цёмных" (лемуры) або нейтральных сіл (дыспетчар, назіральнік); распазнаваць як энергію жыцця, так і хваробы. На акуляры пачынаюць паляваць лемуры…

Адзначым імклівае разгортванне сюжэта, лёгкасць аўтарскага стылю, багатую фантазію, здольнасць пісьменніка трымаць чытацкую ўвагу. Аднак у творы хапае спрэчных момантаў. Напрыклад, у пачатку аповесці Вольга — слабая істота, амаль безабаронная перад супернікамі. Але дастаткова ёй пасядзець аголенай перад люстэркам у позе лотаса, як гераіня пераўвасабляецца ў супергераіню, якая элегантна карыстаецца любой зброяй. Няўжо падобная медытацыя здольная замяніць праходжанне курсаў маладога байца?

Або іншы эпізод. Вольга выходзіць з тралейбуса і сустракае лемураў. Спрабуе дастаць акуляры, але тыя кажуць ёй, што так рабіць нельга, і прапаноўваюць бегчы. Ратуючыся ад ворагаў, Вольга забягае ў нейкі будынак, трапляе ў мужчынскую прыбіральню, праз люстэрка пераносіцца ў лес, а потым выбягае… на дарогу недалёка ад Уладзівастока. Пасля знаходжання на Усходзе яна праз люстэрка вяртаецца дадому. Наконт выбару горада ўсё зразумела: яшчэ некалькі дзясяткаў кіламетраў — і гераіня дабегла б да Ціхага акіяна. А паводле прызнання самой Вольгі, плавала яна калісьці толькі ў басейне. Але ці не прасцей было адразу скокнуць ва Уладзівасток, а не даць лемурам спаліць усю сібірскую тайгу? Расіянам і так хапае экалагічных праблем.

Зыходзячы з логікі аповесці, адзінай прычынай для ўсходняга падарожжа бачыцца сустрэча з безыменным мужчынам, які ратуе Вольгу ад лемураў, а потым бавіць з ёй час на "шырокім двухспальным ложку". Але тут нас чакае чарговая нестыкоўка. Дзяўчына ўпершыню сустракае героя ў электрычцы, дзе той чытае японскую кнігу, а ўжо потым на шашы ля Уладзівастока. Згодны, чаго толькі не зробіш дзеля кахання! Але ці варта пераносіцца для сустрэчы так далёка?

Падчас чытання твор часам нагадваў фантастычны дэтэктыўны баявік, у якім героі б'юцца, бегаюць і кахаюцца, а вырашэнне ўсіх пытанняў і развязка адкладваецца да апошняй старонкі. Менавіта таму рытарычныя пытанні Вольгі ці яе бойфрэнда Стаса пра сэнс тых ці іншых падзей здаваліся бліскучым аўтарскім ходам з мэтай захавання інтрыгі. Тым большым расчараваннем стаў фінал.

На вялікі жаль, аўтар пакінуў большасць пытанняў без адказу. Напрыклад, дзяўчынка Ленанчка, якую вылечыла Вольга, яе выратавальніца і "жыхар Уладзівастока" сыходзяць у залюстрэчча. Дзяўчынка адважылася на такі ўчынак, каб знайсці забітых бацькоў. Але чаму туды сыходзіць Вольга? Ніякіх падстаў для такога рашэння не праглядаецца. Застаецца толькі здагадвацца, якую ролю ў гісторыі адыгрываюць акуляры. Дзеля чаго на іх палююць лемуры? Навошта іх падкідаюць у электрычку? Цікава, хто пераступае мяжу? Вольга? Шэраг іншых пытанняў таксама застаецца без адказу.

Зразумела, любы адвакат Г.Аўласенкі скажа, што мы маем справу з фантастыкай, адвольным канструяваннем падзей і характараў. Але праца ў такім жанры яшчэ не дае падстаў адмаўляцца ад псіхалагічнай абгрунтаванасці ўчынкаў і ігнараваць законы логікі. На жаль, агульная сукупнасць спрэчных момантаў, частка з якіх прыведзена ў рэцэнзіі, не дазваляюць назваць твор аўтарскім поспехам.




# Любіць ні за што…

Вераніка РУСАКОВА

Паводле жанравага вызначэння твор Алены Брава "Рай даўно перанаселены" — аповесць. У заходнім літаратуразнаўстве для празаічных твораў такога роду выкарыстоўваецца азначэнне "раман" ці "кароткі раман".

Падаецца, менавіта такая дэфініцыя — "кароткі раман" — пасавала б гэтаму твору. Чаму будзе дарэчы выкарыстаць такое азначэнне? Бо гэты жанр прадугледжвае ўсебаковы, маштабны, аналітычны расповед пра жыццё галоўных герояў у нетыповыя, вострыя, нават крызісныя перыяды жыцця. А жыццё галоўнай гераіні бабулі Веры падаецца адным суцэльным выпрабаваннем, падзеленым на гадзіны-суткі-тыдні-месяцы-гады. Жыццё гэтае паўстае перад намі праз апавед-успамін яе ўнучкі, для якой бабуля маральны арыенцір, светач, паветра, якое нічым нельга замяніць, калі яго хаця б часова нестае ці яно цалкам знікае. Згадваюцца словы малодшай дачкі караля Ліра Кардэліі, якая шчыра сказала, што любіць бацьку як соль, то бок як тое, без чаго нельга пражыць. Гераіні твора таксама вельмі цяжка жыць без сваёй бабулі, свет хістаецца, няма апоры, ранейшыя маральныя арыенціры з'яўляюцца хоць і з невялікім, але пытальным знакам: "Магчыма, свет стаіць на каменсалізме жывых арганізмаў, адны з якіх са смакам спажываюць другіх, а тым, другім, ад нараджэння наканавана роля ахвяр, толькі і ўсяго, напішу я. (Пакуль мая бабуля Вера была са мной, я цвёрда ведала: свет стаіць на любові)".

Разгортванне аповеду праз успаміны дапамагае аўтару даваць аналітычныя характарыстыкі герояў, укладаючы іх у вусны ўнучкі. Яна спрабуе патлумачыць свае шматлікія "чаму": чаму так паводзіла сябе маці, чаму пайшоў з сям'і бацька, чаму дзед Барыс здраджваў бабулі і не шанаваў яе — і яшчэ шмат-шмат жыццёвых "чаму". Аўтар, не абцяжарваючы чытача дыдактыкай, часам іранічна-лёгка, часам пякельна балюча тлумачыць гэтыя "чаму".

Алена Брава апісвае суб'ектыўнае, але праз гэта малюе аб'ектыўную карціну нашага агульнага існавання. Усе падзеі, характары разглядаюцца праз прызму псіхалагізму, але яго нельга назваць аб'ектыўным, ён, хутчэй, ахвярна-жаночы. Таму знаходзіцца апраўданне нават для маці, якая не хавала сваёй нянавісці да дачок: "Мы з сястрой паядалі, як вусені — зялёны лісток, яе адзінае жыццё. Мы не былі ў гэтым вінаватыя. Фатальныя ворагі (ці, можа, сябры па няшчасці), спадарожніцы па навязаным кімсьці бязрадасным маршруце". Маці — асоба, якая страціла ўласную індывідуальнасць, бо ёй кіруюць мадэлі грамадства, яна імкнецца ім адпавядаць, губляючы сваё "я", заганяючы глыбока ў падсвядомасць тую сябе з маладосці, якая была сапраўднай.

Аўтара перш за ўсё цікавяць самі героі, іх унутраны свет, таму апісанні наваколля, знешнасці калі і падаюцца, то зноў-такі толькі дзеля больш поўнага раскрыцця псіхалагічнага стану героя, тлумачэння яго ўчынкаў ці дзеля стварэння пачуццёва-эмацыянальнай атмасферы, праз якую, як па мосціку, чытач трапляе ва ўнутраны свет героя.

Праводзячы чытача праз патаемныя сцяжынкі душэўных перажыванняў, якія часам стаяць на мяжы з выпрабаваннямі, а часам пераходзяць гэтую мяжу, аўтар прыводзіць нас да разумення сапраўднай сутнасці любові: "Любіць, не зважаючы на недахопы — тыя, што я ў вялікай колькасці прыдумляла сабе, і сапраўдныя. Любіць, не разумеючы маіх вартасцей, не ўмеючы ацаніць пабудову фразы ці падтрымаць "разумную" гутарку. Любіць ні за што, без усякіх умоў". Гэтае евангелле ад бабулі Веры ўнучка засвоіла: "Я выдатна разумела, што любоў — гэта не «за штосьці», а проста так".

Пры ўсёй цеплыні, шчырасці і нават пietэце да бабулі з боку ўнучкі, вобраз Веры не ідэалізуецца, аўтар апісвае яго вельмі рэалістычна, натуральна, гарманічна, хаця збіцца было б вельмі лёгка, але дзякуючы магутнаму таленту Алены Брава гэтага не адбылося.

# Пра тое, як...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара,
калаж Віктара Калініна

**У каго як, а ў мяне з "ЛіМам" стасункі містычныя. Мы пасяліліся зусім побач (і, мабыць, адначасова) у новым сталічным квартале: рэдакцыя — на рагу вуліцы Захарава і Омскага завулка (цяпер вуліца Румянцава), наша сям'я — праз адзін дом у тым самым завулку. Амаль паўтара дзясятка гадоў я хадзіла паўз лімаўскія сцены, пад гэтымі вокнамі, нават не задумваючыся: а хто там, што там, за імі.**
**Потым жыццё зрабіла не адзін круты віраж. І ўрэшце зусім нечакана мне прапанавалі працу ў "ЛіМе", ды яшчэ ў пакоі, з акна якога відаць колішні родны дом і двор дзяцінства. Больш за тое: з цягам часу высветлілася, што ў дзень 26 лютага, калі выйшаў першы нумар "ЛіМа", адзначаюцца імяніны Святланы...Ужо 35 гадоў я міжволі назіраю, як па той бок акенца, скіраванага ў незабыты свет мінулага, спакваля мяняе абрысы знаёмы краявід, як незваротна знікаюць постаці пастарэлых былых суседзяў. І думаю: а колькі ж усяго прамінула-змянілася па гэты бок рэдакцыйнага акна!**



## ... чэмпіёнка накарміла супам

Тады, як і сёння, у "ЛіМе" працавалі людзі родам з рознага дзяцінства, з рознай адукацыяй і неаднолькавай сістэмай жыццёвых каштоўнасцей, са сваёй матывацыяй у прафесіі, па-рознаму выхаваныя, па-рознаму адораныя. Калектыў заўсёды быў складаны, але цікавы і працаздольны. Мне шанцавала на калег. Вось толькі аднагодкаў сярод іх не было, пакуль не з'явіўся ў рэдакцыі малады карэспандэнт аддзела інфармацыі Мікола Мятліцкі — дасціпны і мудры паляшук, самабытны паэт, шчыры патрыёт-беларус. Да свят мы разам рабілі насценгазету. Напярэдадні 23 лютага я палявала са сваім "Зенітам" на моцную палову лімаўцаў, Мікола складаў эпіграмы. У аддзеле інфармацыі, створаным па ініцыятыве галоўнага рэдактара Алеся Асіпенкі, ён шчыраваў пад кіраўніцтвам строгай загадчыцы — паэтэсы Веры Вярбы, вядомай, між іншым, як аўтар тэксту папулярнай у народзе песні "Рушнікі" ("У суботу Янка ехаў ля ракі// Пад вярбой Алёна мыла рушнікі"). Вось і напісаў М. Мятліцкі пра сваю лімаўскую долю: "Пад Вярбой Мікола мые рушнікі...". А яшчэ мы з ім былі камсамольцамі. Паколькі такіх аказалася ў рэдакцыі толькі двое, нас прымацавалі да камсамольскай арганізацыі газеты "Физкультурник Белоруссии". Калі надыходзіў час ісці туды, каб здаць узносы, Мікола пафіласофску ўздыхаў: "Разлучусь з камсамолам — буду вечна малады!" (У савецкі час гучала песня з прыпевам: "Не расстанусь с комсомолом — буду вечно молодым!") Па ініцыятыве галоўнага рэдактара Мікола напісаў пра сям'ю гімнасткі Вольгі Корбут і саліста "Песняроў" Леаніда Барткевіча і прыдумаў незвычайны для тагачаснага "ЛіМа" загаловак: "Я еў суп, прыгатаваны алімпійскай чэмпіёнкай". Даўно распалася тая сям'я, а назва лімаўскага нарыса — у памяці.

## ... абедзве ўсміхаліся

Мастацкім рэдактарам у "ЛіМе" доўгі час працаваў вядомы графік Уладзімір Табушаў: займаўся рэтушшу здымкаў, "кадраваў" іх, прыціскаючы краі фотакарткі металічнай лінейкай і рэзкім рухам адрываючы лішак; разліноўваў макетныя аркушы, маляваў клішыраваныя загалоўкі, першапалосныя плакаты для святочных нумароў, а часам замаўляў камусьці з калег або рабіў сам ілюстрацыі да прозы. Чалавек таварыскі, надзелены добрым пачуццём гумару, ён любіў прыгадваць кур'ёзныя выпадкі. Аднойчы расказаў пра тое, як нейкая правінцыйная ўстанова замовіла яму афармленне ганаровай граматы для заахвочвання сваіх супрацоўнікаў. Калі праз пэўны час аддаў гатовы эскіз і пайшла размова пра ганарар, заказчык заўпарціўся: маўляў, плаціць няма за што, бо "Ленін тут у вас падобны да мядзведзя". Мастак не разгубіўся: "Вы сказалі, Ленін падобны да мядзведзя?!? Не баіцеся, што ў вас праз гэта могуць быць вялікія непрыемнасці?" Заказчык расплаціўся без лішніх слоў.

Прыгадаўшы той выпадак, Уладзімір Пятровіч і падумаць не мог, што неўзабаве зноў апынецца ў анекдатычнай сітуацыі. Мы рыхтавалі навагодні нумар "ЛіМа". Для першай паласы Табушаў зрабіў плакат з выявай упрыгожанай ёлкі ды віншавальным лозунгам. Угледзеўшыся ў малюнак, тагачасны намеснік галоўнага рэдактара з абурэннем выгукнуў: "Гэта што такое? Перарабіць!" Аказалася, такую рэакцыю выклікала ўведзеная ў кампазіцыю выява класічнай пары тэатральных масак. Наш начальнік, не абазнаны ў мастацкай сімволіцы, заўважыў у адной з іх "няправільны выраз твару", не надта вясёлы. Ці не ўсім калектывам спрабавалі мы растлумачыць сэнс традыцыйных масак, які зусім не супярэчыць святочнаму настрою, але патрабаванне намесніка гучала катэгарычна: "Не, гэтак не пойдзе. Няхай абедзве ўсміхаюцца!" Мастак мусіў перамаляваць "крамольную" маску. Цяпер усміхаліся абедзве, а чытачы нават рагаталі.

## ... дэвіз мянялі

"Вецер абнаўлення" далятаў да нас ужо ў другой палове 1980-х. Пры канцы 1986-га да мяне звярнуліся артысты славутай капэлы імя Р. Шырмы са скаргай на свайго тагачаснага мастацкага кіраўніка і просьбай дапамагчы змяніць невыносную творчую сітуацыю. Наведалася ў калектыў, пагутарыла з рашуча настроенымі харыстамі... У нумары за 9 студзеня 1987 г. "ЛіМ" змясціў, разам з рэдакцыйным каментарыем, калектыўны ліст, які падпісалі артысты-шырмаўцы. А 27 лютага пад загалоўкам "Прызначаны новыя кіраўнікі" мы паведамілі пра тыя арганізацыйна-творчыя змены, што адбыліся пасля выступлення газеты. Міністэрства культуры правяло адпаведную праверку, прызнала слушнасць лімаўскай публікацыі, а ў новым прызначэнні ўлічыла просьбу калектыву. Такім чынам яго мастацкім кіраўніком стала Людміла Яфімава, цяпер ужо народная артыстка Беларусі, якая да сённяшняга дня ўзначальвае Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу імя Р. Шырмы.

Змены адбываліся і ў самім "ЛіМе". Уважліва пагартаўшы падшыўку за 1990 год, можна заўважыць, што нумар за 25 мая выйшаў пад абавязковым для ўсіх газет Савецкага Саюза дэвізам на першай паласе: "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" А з наступнага месяца над "шапкай" газеты пачалі друкаваць іншыя словы: "Людзьмі звацца!" — і подпіс: "Янка Купала". Для таго, каб змяніць дэвіз, спатрэбілася рашэнне рэдакцыйнай калегіі. Адбылося яе нечарговае пасяджэнне з удзелам нашага творчага калектыву. Прадстаўнікі рэдкалегіі разважалі пра неабходнасць замены дэвіза выдання, асабліва перакаланіча і доказна выступілі народны мастак СССР, Герой Сацыялістычнай працы Заір Азгур і народная артыстка БССР Лілія Давідовіч. Рашэнне таго аўтарытэтнага сходу было прынята большасцю галасоў, але не аднагалосна. З часам знікла з апошняй паласы зневажальная для суверэннай рэспублікі рэмарка "(на белорусском языке)", а з першай — слова "орган", бо з'явілася годнае самавызначэнне выдання: "газета творчай інтэлігенцыі Беларусі".

Улетку 1990-га лімаўцы ўпершыню ўдзельнічалі ў выбарах свайго кіраўніка. Першым непрызначаным галоўным рэдактарам стаў Мікола Гіль. Таленавіты літаратар, журналіст, тонкі стыліст, цягавіты газетчык, чулы калега, спагадлівы да творчых талентаў.

А потым — чарговыя перамены ў рэдакцыйным жыцці... Адзін эпізод найноўшай лімаўскай гісторыі нават увайшоў у кнігу народнага пісьменніка Янкі Брыля "З людзьмі і сам-насам", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 2003 годзе. Майстар ператварыў яго ў кранальны абразок.

## ... усё мінае, але ж

Хацелася прыгадаць "самаесамае", ды атрымалася як заўсёды... А "ЛіМ", лічы, разменяў ужо свой дзявяты дзясятак. Наступная нагода для згадак — не хутка... Але ўспамінам, як элітным вінам, праб'е свой зорны час! Хай толькі дажыве наша газета да паўнавечча, захавае кола сапраўдных сяброў і разам з імі справіць соты юбілей. Будзе што ўспомніць.

# У «ЛіМе» я нарадзіўся другі раз

У красавіку 1963-га "Советская Белоруссия" надрукавала маё першае апавяданне. У тым жа годзе я скончыў журфак БДУ і пачаў працаваць у газеце "Знамя юности", куды дасылаў карэспандэнцыі нават з Балтыкі, дзе служыў матросам

Праз два гады мяне запрасілі ў "Сельскую газету" ў аддзел партыйнага жыцця. З пасведчаннем спецкара аб'ездзіў амаль усю Беларусь. У часопісе "Нёман" друкаваў праблемныя нарысы, там мяне падпісвалі самавіта — Леонид Леонов. Часам Андрэй Макаёнак, тагачасны рэдактар часопіса, жартаваў: твой ганарар могуць пасляць у Маскву знакамітаму цёзку.

Час ішоў. Я ўсё больш пераконваўся, што ведаю рускую мову літаратурную, а не жывую, народную, як ведаю родненькую "мугулёўскую" гаворку. Неяк на вакзале купіў "ЛіМ". Як цяпер памятаю, моцна ўразіў артыкул Варлена Бечыка і сама газета выглядала незвычайна: няма вертыкальных лінеек, адно гарызантальныя над загалоўкамі. Прачытаў увесь нумар — гэтак было цікава. Праз колькі дзён тэлефануе Павел Місько і запрашае ў "ЛіМ" у аддзел культуры, якім ён загадваў. "Пераходзь, доўга не думай…"

Лёгка сказаць — пераходзь. Два разы засядала рэдкалегія "СГ", угаворвалі, каб забраў заяву: мы далі табе кватэру, ты — малады камуніст, не маеш права агаляць аддзел партыйнага жыцця. Рэдактар патэлефанаваў у ЦК, каб мяне не бралі ў "ЛіМ". Але Нічыпар Пашкевіч, лімаўскі рэдактар, не збаяўся: "А што, ён ідзе ў падпольную газету? Нам таксама патрэбны маладыя камуністы. Да таго ж, ён культасветработнік па адукацыі" (у свой час я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча). Аргумент быў пераканаўчы, і я стаў лімаўцам у студзені 1969 года.

З першага мая 1970-га "ЛіМ" пачаў выдавацца штотыдзень. Той нумар выйшаў "каляровы" — загалоўкі чырвоныя. У ім былі надрукаваны тры мае фотаздымкі, падпісаныя "дзіўным" прозвішчам — Л. Лявонаў. Я ўпарта шукаў псеўданім, і дапамог яго выбраць Іван Мележ. Неяк у Доме творчасці "Каралішчавічы" мы сядзелі ў сталоўцы побач. І вось ён з добрай усмешкай кажа: "Трэба ж як вам бацькі дагадзілі. Поўны цёзка рускага класіка…" Я сказаў, што шукаю псеўданім. "Навошта далёка шукаць? Падпісвайцеся — Левановіч". — "Дык быў жа Павел Левановіч". — "Так. Ён загінуў на фронце. Адну кніжачку выдаў да вайны. Працягвайце яго справу..."

І вось у 1971-м, на трыццаць трэцім годзе жыцця, я стаў Левановічам: "ЛіМ", потым часопісы "Беларусь", "Полымя" надрукавалі мае апавяданні, падпісаныя псеўданімам. У "ЛіМе" я працаваў усяго два з паловай гады. У тым жа, 1971-м, Макаёнак перацягнуў у "Нёман" загадваць аддзелам крытыкі. Потым была праца ў "Полымі" — побач з лімаўцамі. З таго часу тыднёвік "ЛіМ" ідзе поруч са мной па жыцці.

Жадаю юбіляру маладосці, творчага імпэту, новых сяброў-падпісчыкаў і новых таленавітых аўтараў.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

# Падтрымка Чалавека

Многія літаратары, спецыялісты-музыкі друкуюць свае артыкулы ў "ЛіМе". Я, педагог, аўтар кнігі "Служэнне дзвюм Музам", на якую адгукнулася шаноўная газета, зацікаўлена чытаю, асабліва тыя публікацыі, дзе размова ідзе пра выхаванне студэнтаў і пра музычнае харавое, вакальнае мастацтва, пра песенную творчасць, пра фестывалі, конкурсы.

Прыемна, калі таленавітыя навукоўцы ў галінах эканомікі, лінгвістыкі, матэматыкі, інфарматыкі выступаюць на старонках "ЛіМа", ды іншых выданняў, з творамі паэтычнымі, пішуць пра розныя жанры мастацтва, разважаюць пра прыход новай эры мастацкай культуры, прызначэнне якой — адухаўленне грамадскага жыцця і асабістага быцця чалавека на зямлі.

Менавіта ў падтрыманні пачуцця чалавечай годнасці і ёсць галоўная вартасць газеты "ЛіМ".

**Сяргей ГАЛОЎКА,**
**кіраўнік народнага мужчынскага вакальнага ансамбля прафесараў і дацэнтаў БДЭУ, заслужаны работнік культуры Беларусі, прафесар**


**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**





**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2869
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк
23.02.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 846

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686